Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 48 (4746) 6 снежня 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Беларусі Галіну Арлову з юбілеем. «Непарыўна звязаўшы сваё жыццё з мастацтвам, вы дасягнулі зорных вяршынь і сталі адной з самых выдатных актрыс нашага часу, дастойным прадстаўніком праслаўленай творчай сям'і, якая зрабіла важкі ўнёсак у развіццё беларускага і савецкага тэатра і кінематографа», — адзначыў Прэзідэнт.

✔ Кіраўнік дзяржавы накіраваў спачуванне родным, блізкім і калегам народнага артыста СССР Юрыя Якаўлева ў сувязі са смерцю артыста. «На беларускай зямлі Юрыя Васільевіча высока ацанілі як чалавека вялікага таленту і цудоўнай душы, чыя творчая дзейнасць садзейнічала сцвярджэнню ў грамадстве маральных і эстэтычных ідэалаў, умацаванню дружбы і культурных сувязей паміж нашымі братнімі народамі», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ Прадстаўніца Мальты, 11-гадовая Гая Каучы, выйграла міжнародны дзіцячы конкурс песні «Еўрабачанне-2013». Яе лірычная балада *The Start* («Пачатак») скарыла сэрцы публікі. Другой стала прадстаўніца Украіны Сафія Тарасава, якая выконвала песню *We are One* («Мы адзіныя»). Беларускія ўдзельнікі Ілья Волкаў і танцавальная група *Maxi Briz* з кампазіцыяй «Спявай са мной» занялі трэцяе месца.

✔ Адкрыццё мемарыяла памяці герояў і ахвяр Першай сусветнай вайны ў Смаргоні запланавана на ліпень 2014 года. Пра гэта паведамілі ў Гродзенскім аблвыканкаме. Каб знайсці сродкі на гэтыя мэты, плануецца ўключыць аб'ект у інвестыцыйную праграму на 2014 год. Бронзавыя скульптуры мемарыяла — «Крылаты геній салдацкай славы», а таксама «Салдаты Першай сусветнай» і «Бежанцы», скульптура «Праклён вайне» — ужо выраблены.

✔ Фестываль моды пройдзе 14 снежня ў Гродне ў межах культурна-гістарычнага праекта «Жывая гісторыя». Фестываль *Grodno fashion show* адбудзецца ў канцэртнай зале Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы. Моднае шоу праходзіць пры падтрымцы аблвыканкама ўжо другі раз. У сакавіку такі фестываль адбыўся ў маладзёжным цэнтры «Гродна» і выклікаў вялікую цікавасць.

✔ Рэспубліканскі конкурс «Людзі і словы» ўпершыню пройдзе на філалагічным факультэце БДУ. Яго арганізатарам выступіў савет маладых вучоных гэтага факультэта. Спаборніцтва скіраванае на раскрыццё літаратурных талентаў сярод моладзі, развіццё яе творчага патэнцыялу, а таксама папулярызацыю беларускай культуры. Конкурс арыентаваны на вучняў 9 — 11 класаў па дзвюх намінацыях. Першая прадбачыць напісанне верша паводле любога празаічнага твора У. Караткевіча, а другая — эсэ на тэму «Пра што я запытаўся б…». Заяўкі прымаюцца з 15 снежня па 1 лютага на электронны адрас *filkonkurs@gmail.com*. Падвядзенне вынікаў і ўзнагароджанне пераможцаў адбудзецца 1 сакавіка 2014 г.

✔ Фінскі Санта-Клаўс збіраецца прыехаць у Беларусь на святкаванне 10-годдзя сядзібы беларускага Дзеда Мароза ў Белавежскай пушчы. Казачная сустрэча адбудзецца 13 снежня. Падрыхтаваліся да падарожжа ў Белавежскую пушчу і ўсерасійскі Дзед Мароз з Вялікага Усцюга, сусветны Дзед Мароз казакоўгвардзейцаў, Снягурачка з Кастрамы, татарскі, карэльскі і якуцкі Дзяды Марозы.

Падрыхтавала
**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**



Чакаем кніжную выстаўку 9



Час плакатаў 13



У Прэзідэнцкай юбілей! 14



Танец маленькіх прыгажунь 16



Адрес мой:
Ярославль, Ильинская ул. д. Кузнецовой,
кв. Богданович, Максим Адамович Богданович.
Я временно живу в Ялтѣ. Вышлите туда „Н. Н."
за 1908 г. от 1го до 16го № включит. и 26го № (17 № — 85 к)
~~не~~ русским шрифтом по адресу: Ялта, Аутка,
пансион „Шалаш" М. А. Богдановичу.
С почтением М. Богданович
P.S. Адрес точен: Аутка а не Алупка.
М. Богданович

*У Літаратурным музеі М. Багдановіча прайшла прэзентацыя выстаўкі «Знаходкі-2013. Невядомыя аўтографы М. Багдановіча». У межах невялікай экспазіцыі прадстаўлены тры раней не вядомыя аўтографы паэта, якімі не так даўно папоўніліся фонды музея.*

# Восень у Луніне

28 лістапада ў Лунінецкім раёне прайшоў штогадовы літаратурны фестываль «Лунінская восень». Сёлета — у новым фармаце: абласную літаратурную прэмію імя Уладзіміра Калесніка вырашана прысудзіць праз год — каб надаць больш вагі лаўрэацкаму званню.

Цэнтр падзеі, як і заўсёды, — Лунінская школа. Першы незабыўны момант — адкрыццё мемарыяльнай дошкі Мікалая Еляніеўскага, пачынальніка. У мітынгу бяруць удзел удава і сын легендарнага настаўніка. Лісты клёна з фотаздымкамі мінулых гадоў як талісманы ўдзельнікам свята — новае ўзрушэнне. А пасля, калі ў актавай зале будзе праходзіць цырымонія ўзнагароджвання пераможцаў абласнога літаратурнага конкурсу для дзяцей і юнацтва (прысвечанага юбілею Ніны Мацяш), на сцэне перад ганаровымі гасцямі — вядомымі пісьменнікамі, паважанымі кіраўнікамі — з'явяцца ў поўным сэнсе надзеі і спадзяванні. Наташа Данілевіч з аграгарадка Моталь, Дзіма Лукашэвіч з вёскі Вартыцк і Віка Зданові з Брэста — уладальнікі 3-х месцаў, Уладзіслаў Адамовіч з Іванава і Алена Парфянюк з Брэста — 2-я месцы, Ліза Калінка з Брэста — 1-е месца.

Тут і летась было шмат цікавых момантаў, сюрпрызаў, сустрэч, але сёлета «ўраджай» адмысловы. Візіт у Цэнтр культуры і народнай творчасці ў вёсцы Вулька (дзе можна было і за кроснамі пасядзець, і камедыйную пастаноўку паглядзець), агляд работ выхаванцаў Лунінецкай дзіцячай школы мастацтваў у фае мясцовага кінатэатра, сустрэча ў цэнтральнай раённай бібліятэцы і нават выстаўка скульптур, зробленых з… макароны.

«Дагэтуль свята ладзілася толькі ў Лунінскай школе, пасля далучыўся Лунінецкі Дом культуры, а сёння паказалі яшчэ шмат чаго. Можа стацца, што хутка ўсю Лунінеччыну сваім фестывалем ахопім», — упэўнены старшыня Брэсцкага аддзялення СПБ Анатоль Крэйдзіч.

«Дырэктару Лунінскай школы таксама варта прысудзіць прэмію: так шмат для дзяцей тут робіцца — і ў межах свята, і наогул», — прапануе пісьменнік Уладзімір Сітуха.

«Выдатна, што ёсць людзі, якія не толькі не губляюць, але і ўмацоўваюць традыцыі», — зазначае пісьменнік Валерый Гапееў. Апошняе, канечне, і ў адрас часопіса «Маладосць». Спецыяльныя — «берасцейскія» — нумары гэтага выдання трапляюць у сумкі ўдзельнікаў свята.

«Гэта і свята, і вылучэнне, — працягвае Анатоль Крэйдзіч. — Казку сёлетній пераможцы-шасцікласніцы чытаў і дзівавамся: фантазія якая! Падыход які! Вось такіх мы гэтым конкурсам і вышукваем.

Мінулагодняя пераможца Настасся Нарэйка чакае з друкарні сваю першую кніжку. Алена Дэбіш, якая атрымлівала прэмію ў першы год, яшчэ школьніцай, сёння студэнтка, ужо кнігу выпусціла. У Саюзе пісьменнікаў Беларусі, куды будзе прынята, станецца самай юнай.



*Дыплом за першае месца ў конкурсе «Без дружбы мне — як без вады і хлеба», прысвечаным 70-годдзю Ніны Мацяш, Анатоль Крэйдзіч уручае вучаніцы 6 «Б» класа гімназіі № 4 г. Брэста Лізе Калінка.*

«Вось такія яны, нашы лаўрэаты. Нехта з іх больш сціплы, нехта — больш прабіўны. Ці лепш так: апошнія — больш мабільныя. У Інстытут журналістыкі яны ідуць часцей, чым на філфак. Але галоўнае ў такім узросце — выпрацоўваць эстэтыку слова», — лічыць Анатоль Мікалаевіч. Творца ўпэўнены, што мерапрыемствы кшталту «Лунінскай восені» выпрацоўваюць у душах юных стаўленне да краіны. «Тады і нашы дзеткі бачаць, што такое дзяржава беларуская, калі на такім узроўні іх, малечаў, працы разглядаюць». І з гэтым нельга не пагадзіцца.

**Святлана ДЗЯНІСАВА**

У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Выратаванне чалавечнасці

**Прэзентацыя новай кнігі старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца адбылася ў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Раман «Аперацыя "Кроў"», які пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура», прымеркаваны да 70-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Твор стаў данінай памяці і павагі тым, хто загінуў падчас нямецка-фашысцкай акупацыі.**

Мікалай Чаргінец прызнаўся, што кніга «Аперацыя "Кроў"» — адна з самых дарагіх у яго творчасці, бо звязана з пэўным этапам уласнага жыцця. Ён лічыць, што трэба пісаць толькі пра тое, што добра ведаеш. Пісьменнік нарадзіўся ў 1937 годзе, таму няцяжка зразумець, што горкі лёс ваенных выпрабаванняў напаткаў і яго сям'ю. Ідэю рамана ён выношваў доўга, над зместам працаваў не адно дзесяцігоддзе. У кнізе расказваецца пра жыццё Беларусі ў час акупацыі, пра лёс падняволенага народа. Мікалай Іванавіч звяртае ўвагу чытача на трагічную гісторыю дзяцей, сабраных фашыстамі ў населеным пункце Сёмкава, што за дзесяць кіламетраў ад Мінска. Там, у так званым Цэнтры, у іх, зусім яшчэ маленькіх хлопчыкаў і дзяўчынак 6 — 12 гадоў, немцы бязлітасна забіралі кроў для сваіх салдат і афіцэраў. Акрамя таго, у рамане яскрава апісваюцца баявыя дзеянні партызан.

Пісьменнік выкарыстоўвае лічбы і факты, якія ўражваюць чытача, але раман не з'яўляецца цалкам дакументальным, бо галоўныя героі прадстаўлены не канкрэтнымі асобамі, а зборнымі вобразамі.

Дарэчы, сярод шматлікіх гасцей і прыхільнікаў творчасці Мікалая Чаргінца на прэзентацыі прысутнічалі людзі, пра якіх ён пісаў, — былыя вязні Сёмкаўскага дзіцячага дома.

Рэктар Акадэміі кіравання Анатоль Маразевіч заўважыў: «Мікалай Чаргінец — легендарная асоба. Ён з роўным поспехам рэалізуе сябе ў якасці даследчыка, вучонага, аналітыка і, безумоўна, таленавітага пісьменніка. Яго кнігамі зачытваюцца не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, краінах Захаду».

«Трэба перыядычна нагадваць пра тыя страшэнныя злачынствы, якія здзяйсняліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі быў забіты кожны трэці беларус. Тады будзе менш размоў пра тое, што пара перагледзець ці перапісаць гісторыю вайны», — падсумаваў Мікалай Чаргінец.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Адзнака кітайскаму перакладчыку



Гаа Ман «Партрэт Навума Гальпяровіча».

Кітайскага перакладчыка Гаа Мана, чый творчы шлях на ніве прыгожага пісьменства пачынаўся яшчэ ў канцы 1940-х гадоў, добра ведаюць у Беларусі. У 1950-я гг. ён наведаў Мінск. Тады ж у Пекіне пабачыла свет кніга выбраных вершаў Максіма Танка ў перакладзе на кітайскую мову. У апошнія гады з Гаа Манам у Пекіне сустракаліся беларускі паэт Навум Гальпяровіч, беларускія журналісты, якія працавалі ў Кітаі, — Вольга Гальпяровіч, Інэса Плескачэўская, беларуская кітаістка Вераніка Карлюкевіч. Пра гэта ўжо былі згадкі ў айчынным друку. Гаа Ману дасылаюць кнігі, перыёдыку з Беларусі. Ведае ён і пра выхад анталогіі кітайскай паэзіі на беларускай мове ў перакладах Міколы Мятліцкага. Новы віток развіцця беларуска-кітайскіх літаратурных стасункаў даследчык і перакладчык падсумаваў у чарговым артыкуле пра Максіма Танка.

Нядаўна сябра беларускай літаратуры адзначаны расійскай прэміяй «Расія — Новы век». Адзнака ўручана Гаа Ману за пераклад паэмы Ганны Ахматавай «Рэквіем». Яшчэ ў 1996 годзе перакладчык стаў ганаровым членам Саюза пісьменнікаў Расіі. Сярод узнагарод майстра мастацкага перастварэння — расійскі ордэн Дружбы. Кітайскі літаратар — перакладчык твораў А. Пушкіна, Т. Шаўчэнкі, многіх іншых пісьменнікаў славянскіх краін.

Гаа Ман пераклаў на кітайскую мову і адну з кніг Святланы Алексіевіч. Творца добра вядомы як каліграф, з'яўляецца ганаровым членам Расійскай Акадэміі мастацтваў. Дарэчы, у арсенале графічных работ Гаа Мана — партрэты Якуба Коласа, Янкі Купалы, Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Святланы Алексіевіч, Максіма Танка, Навума Гальпяровіча. Варта заўважыць, што неаднаразова кітайскі сябра беларускай літаратуры пісаў і пра беларускае выяўленчае мастацтва, у прыватнасці, пра Георгія Паплаўскага. Адзін з артыкулаў Гаа Мана перакладзены і апублікаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва». Гаа Ман пераствaрыў верш Францыска Скарыны на кітайскай мове.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Турцыя: далёкая і блізкая

**Вечарына-прэзентацыя кнігі «Поціск рук над Басфорам» адбылася ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна.**



Фота Міколы Шабовіча

Выступае пасол Турэцкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Незіхі Озкая.

Гэта не першая імпрэза цыкла «Масты дружбы», якая арганізуецца з удзелам сябров Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Кніга выйшла ў свет пасля наведання дэлегацыяй мінскіх творцаў горада Стамбула. Вынікам паездкі сталі эсэ, дарожныя нататкі, замалёўкі, разважанні, а таксама нізкі вершаў, што ўвайшлі ў зборнік, які пабачыў свет у серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення СПБ» у выдавецтве «Чатыры чвэрці».

З кожнай прэзентацыяй яе ўдзельнікаў, а разам — і сяброў Турцыі становіцца больш. Імпрэзу ў «Пушкінцы» распачаў расповедам пра сваю краіну пасол Турэцкай Рэспублікі Незіхі Озкая. Яго дапоўнілі ўражаннямі ад паездкі беларускія творцы. Кантакты дзвюх краін у сферы літаратуры і навукі пашыраюцца — пра гэта сведчаць і шматлікія публікацыі ў друку, і добрыя знаёмствы, і планы на будучае. Рэальныя і перспектыўныя праекты, наладжаныя сумесна арганізацыямі Беларусі і Турцыі, згадала старшыня грамадскай арганізацыі «da» (Дыялог Еўразія) у нашай краіне Святлана Вінакурава. Вядучы сустрэчы, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, пазнаёміў прысутных з напрацоўкамі творчага саюза, скіраванымі на папулярызацыю кнігі і чытання за межамі Беларусі. У імпрэзе ўзяла ўдзел бронзавы прызёр алімпіяды па турэцкай мове (праходзіла ў Беларусі) Анастасія Кірыльчык. Песні на вершы беларускіх паэтаў спявалі Аляксандр Якіменка і Дзмітрый Пятровіч. Падсумоўваючы вынікі сустрэчы, дырэктар аб'яднання «da» Сезер Чакмак выказаў спадзяванні, што кантакты двух бакоў яшчэ больш актывізуюцца.

**Ірына ТУЛУПАВА**

# «З вамі сэрца маё»

Так называлася сустрэча з земляком, удзельнікам народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Рунь», членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Яўгенам Зялкоўскім, якую ладзілі ў Валожынскім раённым Цэнтры культуры яго сябры-рунеўцы. А прымеркавана яна была да 80-годдзя творцы і выхаду яго новай, шостай па ліку, кнігі «Дарослыя птушаняты».

На сустрэчу прыйшлі і вучні школ г. Валожына. Дзевяцікласнікі СШ № 2 зачытвалі лірычныя і жартоўныя вершы юбіляра, якія ўдала перапляталіся з песнямі на яго ж словы ў выкананні таленавітага спевака і зусім не чужога Яўгену Фамічу чалавека, Уладзіміра Данчанкі. Цудоўныя песні падарылі віноўніку ўрачыстасці і самадзейныя артысты РЦК і народнага хору «Сэрцы, якія спяваюць».

Юбіляра шчыра вітала дырэктар раённага Цэнтра культуры Алена Конаўка, загадчык аддзела абслугоўвання чытачоў раённай бібліятэкі Алена Сугака, кіраўнік аб'яднання, член Саюза пісьменнікаў Беларусі (яна ж вядучая мерапрыемства) Валянціна Гіруць-Русакевіч ды іншыя. Аднадушным было шчырае пажаданне доўгіх гадоў жыцця і творчасці.

**Марына ТУР**

Форум



Фота Аляксея Плоткі

Уладзімір Навумовіч прымае хлеб-соль ад працаўнікоў Чысці.

# Ад чысціні душэўнай…

У межах Рэспубліканскага літаратурнага форуму «Багдановіч» адбылася творчая сустрэча ў пасёлку Чысць Маладзечанскага раёна.

Арганізатарамі акцыі, да якой далучыліся ўсе рэгіёны Беларусі, выступаюць Рэспубліканская канфедэрацыя прадпрымальніцтва, Саюз пісьменнікаў Беларусі пры падтрымцы трох міністэрстваў: культуры, адукацыі і інфармацыі.

Мэта форуму — папулярызацыя літаратурнай спадчыны краіны, актывізацыя ініцыятывы творчых асоб, а таксама выяўленне і падтрымка новых талентаў.

У межах форуму аб'яўлены конкурс, узяць удзел у якім могуць маладыя аўтары ва ўзросце ад 18 да 31 года. Работы прымаюцца ў Саюз пісьменнікаў Беларусі па трох намінацыях: «Проза», «Паэзія», «Драматургія». Падвядзенне вынікаў чакаецца ў лютым 2014 года. А пакуль досыць актыўна шукаюцца таленты.

Як распавёў старшыня Чысцінскага сельвыканкама Анатоль Пяцюшык, на тэрыторыі — больш як 6 тысяч жыхароў. Нараджальнасць тут удвая перавышае смяротнасць. Гэта насамрэч маладыя (не толькі па даце заснавання, а і па ўзросце насельнікаў) пасёлак. З удзелам творцаў і навукоўцаў сталіцы, а таксама сяброў маладзечанскага літаратурнага аб'яднання «Агмень» сустрэча ў Доме культуры ператварылася ў сапраўдны фестываль паэзіі і музыкі.

Кандыдат філалагічных навук дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзімір Навумовіч, які разам з дырэктарам Цэнтра міжкультурнага дыялогу Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Паўлам Сапоцькам з'яўляецца каардынатарам форуму, вылучыў дзве часткі сустрэчы: паэтычную і навуковую. Свае творы чыталі пісьменнікі Міхась Пазнякоў, Павел Саковіч, Ірына Тулупава, Рагнед Малахоўскі. Дацэнт БДУ, кандыдат філалагічных навук Міхась Кенька, кандыдат філалагічных навук дацэнт Ганна Мятліцкая і выпускніца ўніверсітэта Кацярына Біруля распавялі пра навучанне на філалагічным факультэце БДУ. Імпрэзу прадоўжылі супрацоўнік бібліятэкі імя М. Багдановіча, пісьменнік, краязнаўца Міхась Казлоўскі, кіраўнік маладзечанскага аб'яднання «Агмень» Таццяна Атрошанка і члены аб'яднання Сяргей Томкавіч, Марыя Бельская, Ганна Еляцкова, Таццяна Беланогая, Валерый Хіхіч. Гучалі вершы, эпіграмы, байкі, песні на словы Максіма Багдановіча і Яўгеніі Янішчыц.

**Рыта СТАХ**

**Віншуем юбіляраў!**

*У снежні нарадзіліся:*

Казімір Камейша (04.12.1943)
Валерый Грышкавец (23.12.1953)
Уладзімір Дуктаў (28.12.1953)

Зычым калегам творчага натхнення, моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту!

*Імпрэзы*

# Аддадзены краіне

Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа НАН Беларусі прэзентавала выстаўку «Пісьменнік, змагар, патрыёт», прысвечаную 110-годдзю з дня нараджэння паэта, празаіка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі Піліпа Пестрака.

Юбілейная экспазіцыя, падрыхтаваная на аснове архіўных матэрыялаў і друкаваных дакументаў з фонду аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі, распавяла чытачам пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

Выпрабаванні, якія чакалі яго амаль на кожным кроку, не зламалі моцнай душы непахіснага барацьбіта, рамантыка, аддадзенага сына роднай зямлі. Сапраўды, Беларусь займала галоўнае месца ў яго творах. Піліп Пестрак быў не толькі адукаваным чалавекам, але і надзвычай арыгінальнай асобай з асаблівым пачуццём гумару і аптымістычным поглядам на падзеі зменлівага, нават жорсткага лёсу.

— Экспазіцыя, у адрозненне ад традыцыйных выставак, якія дэманструюць толькі кніжныя, друкаваныя творы, знаёміць чытачоў з унікальнымі рукапісамі асабістага фонду пісьменніка, якія захаваліся амаль што цудам. Напэўна, самы рэдкі з іх — арыгінал верша 1936 года, напісанага Пестракам у Лукішскай турме, які быў знойдзены сярод папер яго сябрамі, — адзначыла загадчык сектара навуковай апрацоўкі рукапісаў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі Таццяна Жук.

Цікавы факт, што там, у Лукішках, пісьменнік пазнаёміўся са сваёй жонкай. Яны наладзілі перапіску, а потым упершыню сустрэліся… рукамі праз краты. Іх лёсы перапляліся на ўсё жыццё.

Пісаць вершы Піліп Пестрак пачаў прыблізна ва ўзросце дваццаці гадоў, калі натхніўся паэзіяй Якуба Коласа і Янкі Купалы. У 1927-м у часопісе «Родныя гоні» пад псеўданімам Звястун быў апублікаваны яго першы лірычны твор — «Наперад, гэй».

«З першым вершам, — успамінаў Піліп Пестрак, — я, здаецца, уступіў на шлях барацьбы за родную краіну, і з таго часу верш зрабіўся ўжо частым госцем. Так стаў расці ўва мне беларускі паэт».

Творчасць Піліпа Пестрака была шырока прадстаўлена на выстаўцы чарнавікамі і друкаванымі варыянтамі яго паэтычных і празаічных твораў розных гадоў. Сярод іх — аўтабіяграфічныя нарысы і дакументы, успаміны перыяду знаходжання ў турмах, замалёўкі, прысвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны, зараджэнню партызанскага руху на Беларусі, накіды і першыя публікацыі вершаў, рукапісы апавяданняў, артыкулаў, перакладаў, п'ес. Дарэчы, шмат якія кнігі маюць дарчыя надпісы.

Асобны раздзел экспазіцыі быў прысвечаны яго раманам «Сустрэнемся на барыкадах» і «Серадзібор» (за апошні пісьменнік атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Якуба Коласа). Па словах Піліпа Пестрака, твор «Сустрэнемся на барыкадах» вырас з глыбінь перажытага часу і ў значнай ступені распавядаў пра самога аўтара. Даследчыкі творчасці Піліпа Пестрака лічаць раман адным з першых і найбольш значных у беларускай мастацкай прозе творцаў, прысвечаных барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Наведвальнікі бібліятэкі змаглі пазнаёміцца з узорамі эпісталярнай спадчыны Пестрака, сямейнымі і сяброўскімі фотаздымкамі і нават з яго партрэтам работы мастака Аляксандра Дзяталы 1953 года. Асобнае месца на выстаўцы занялі энцыклапедычныя даведнікі, літаратуразнаўчыя даследаванні, лірычныя творы, прысвечаныя пісьменніку, успаміны яго жонкі, сяброў, знаёмых.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Трагедыі і драмы ваеннага часу




«Зімовае харчаства» — так называлася аперацыя фашысцкіх карнікаў у Верхнядзвінскім раёне і блізкім памежжы ў час Вялікай Айчыннай вайны. Вядомы беларускі паэт, празаік, публіцыст Сяргей Панізнік доўгія гады займаўся росшукам сведак жудасных падзей, людзей, якія бачылі, як палілі вёскі, каталі іх аднавяскоўцаў, блізкіх. У выніку атрымалася кніга «Асвейская трагедыя», якая сёлета ўжо другім выданнем пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Днямі адбылася прэзентацыя публіцыстычнага зборніка ў Рызе ў бібліятэцы імя Я. Місыньша. Ініцыятар імпрэзы — Беларускі інфармацыйны цэнтр. Такое месца размовы пра трагічныя старонкі Вялікай Айчыннай вайны было абрана невыпадкова. Шмат хто з вязняў фашысцкіх канцлагераў, якія паўсталі пасля аперацыі «Зімовае харчаства» ў памежных з Віцебшчынай латышскіх раёнах, так і засталіся жыць у Рызе, яе ваколіцах. Пра тое, як стваралася кніга, колькі пакутных лёсаў давялося адкрыць і «перачытаць», расказаў сам аўтар кнігі — пісьменнік Сяргей Панізнік. На прэзентацыі выступіў і першы сакратар пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы Іван Грыневіч.

Відавочна, тэма пакутных лёсаў вязняў фашысцкіх канцлагераў, тэма спаленых у час Другой сусветнай вайны беларускіх вёсак патрабуе працягу. Можа быць, следам за Янкам Брылём, Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам (узгадайце кнігу «Я — з вогненнай вёскі»), за Сяргеем Панізнікам пойдуць і наступнікі — сённяшняя літаратурная моладзь, журналісты і пісьменнікі. Нядаўна ў газеце «Звязда» друкаваліся артыкулы публіцысткі Таццяны Падаляк пад агульнай рубрыкай «Нашчадкі вогненных вёсак». Пасля яны ўбачылі свет асобнай кнігай. Творчы праект адзначаны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. «Звязда» працягвае друкаваць артыкулы журналістаў, пазаштатных аўтараў, краязнаўцаў пад рубрыкай «Вогненныя вёскі».

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# І свая інтанацыя…



Прыхільнікаў паэзіі запрасіў у Мінскую нотна-музычную бібліятэку малады паэт, перакладчык і, як высветлілася, фотамастак Рагнед Малахоўскі. Адбыўся яго «юбілейны» — дзясяты — творчы вечар.

Можа, залішне смела называць фотамастаком асобу, якая прэзентавала толькі першую сваю фотавыстаўку — галерэю партрэтаў сучасных беларускіх пісьменнікаў. Але, напэўна, зафіксаваныя вобразы даюць такое права: нібы знаёмыя, яны надзелены адбіткам чагосьці нязвыклага.

Звычайна імпрэзы ладзяць пісьменнікі «са стажам», са стосам выдадзеных кніг. Нягледзячы на тое, што ў Р. Малахоўскага іх пакуль толькі дзве (ці *ўжо* дзве — у 29 год?), яму ёсць што сказаць і паказаць. Акрамя фотамайстэрства — кампазітарскія здольнасці, разам з паэтычнай творчасцю — досвед перакладчыка з некалькіх моў. Да таго ж, існуе сам па сабе «феномен Малахоўскага» — яго акрэсліў пісьменнік, публіцыст, выдавец Зіновій Прыгодзіч: «Даводзіцца чуць меркаванне, што ў беларускай літаратуры — нібы занепад. Асабліва наракаюць на моладзь. Хоць пэўная доля ісціны тут ёсць: твораў на ўзроўні Быкава, Караткевіча, Мележа мы пакуль не маем, але яны — на падыходзе. Рагнед Малахоўскі — таму сведчанне».

Цяжка сказаць, ці спраўдзіцца аванс, але, безумоўна, у паэта ёсць свой стыль, свая інтанацыя — лірычны роздум ва ўзнёслым натхненні, якога ён не хавае, не баючыся папрокаў у залішнім пафасе. Яму падуладная разнастайнасць жанраў: ад паэтычнага «абразка» да сапраўднай легенды («Купала на Нарачы»). Уласцівае абвостранае адчуванне радзімы — вялікай і малой («Маё Нарочча, хто я без цябе?..»). Ён верыць у значнасць паэзіі як важкай (а не толькі «прыгожай») справы, інакш не абраў бы яе сваім галоўным шляхам, маючы эканамічную адукацыю.

Нарэшце, паэт валодае харызмай, маючы на ўвазе індывідуальнасць, характар, жывасць, незвыкавасць. «У вас — летуценні, а хто будзе змагацца з негатывам?» — прагучала з напоўненай залы ці то пытанне, ці то крык душы. «У вершах магу «змагацца» летуценнямі, а ў жыцці — і фізічнай сілай». На «правакацыйнае» пытанне — такі ж адказ, але і насамрэч Р. Малахоўскаму не ўласцівая талерантнасць дзеля талерантнасці: здолее пастаяць за сябе і за свае ідэалы.

Напэўна, найлепшы доказ вартасці паэзіі — яе запатрабаванасць музыкамі. Празаік, бард Дзмітрый Пятровіч выканаў некалькі песень на словы Р. Малахоўскага. Прыцягваюць яны і іншых выканаўцаў. Сапраўдным падарункам чытачам нотна-музычнай бібліятэкі і іншым гасцям імпрэзы сталі вядомыя рамансы, агучаныя бардам Таццянай Матафонавай.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

*З нагоды*

# Па жыцці — прыгожа

Урачыстая вечарына, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння доктара філасофскіх навук, прафесара, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Міколы Крукоўскага прайшла ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Мікола Крукоўскі, які, на жаль, крыху не дажыў да гэтай круглай даты, пайшоў на фронт добраахвотнікам. Пасля былі Вяземскі кацёл, акупіраваная Орша, партызанскі атрад. Крукоўскага прызначылі начальнікам штаба аднаго з атрадаў 2-й Заслонаўскай брыгады. Напрыканцы 1943-га яго, цяжка параненага, адправілі самалётам на лячэнне ў тыл. Мікола Ігнацьевіч узнагароджаны медалямі «За адвагу» і «Партызану Айчыннай вайны» I ступені, ордэнам Айчыннай вайны I ступені.

Аўтар шматлікіх навуковых прац, знакаміты спецыяліст па эстэтыцы і культуралогіі, Мікола Крукоўскі напісаў манаграфію «Логіка прыгажосці» — паводле меркавання многіх вучоных, лепшае даследаванне па тэорыі эстэтыкі ў СССР. Хаця гэтую працу тады замоўчвалі, яна стала вядомай і атрымала прызнанне за мяжой. Сёння міжнацыянальны беларуска-расійскі аргкамітэт рыхтуе да выдання поўны збор філасофскіх твораў М. Крукоўскага ў 5 тамах на рускай мове. «У апошнія два гады расіяне праявілі вялікую цікавасць да спадчыны беларускага філосафа, бо ўспрымаюць яго не інакш як вучонага еўрапейскага ўзроўню, абапіраючыся на яго творы, развіваюць ужо свае ідэі», — падкрэсліў пісьменнік, каардынатар выдавецкага праекта Васіль Якавенка.

Доктар філалагічных навук прафесар Адам Мальдзіс зазначыў, што вельмі ўдзячны Міколу Крукоўскаму за тое, што ён навучыў яго метадызму, сістэматызацыі, бо гэта вельмі дапамагло пры падрыхтоўцы 6-томнага выдання «Беларускія пісьменнікі». Сёння Адам Восіпавіч працуе над энцыклапедычным даведнікам «Беларусы свету» і зноў жа паспяхова прымяняе досвед філосафа.

Выказаныя аднадумцамі, сябрамі, калегамі і роднымі шчырыя словы пра Міколу Крукоўскага можна акрэсліць каротка: прайшоў па жыцці прыгожа. За што б ён ні браўся, да ўсяго меў шматгранны талент, усё рабіў дасканала. Пісаў карціны, граў на скрыпцы левай рукой, бо правая пасля ранення «не слухалася», хадзіў пад ветразем на яхце…

**Раіса МАРЧУК**

# Вучоны з вачыма рамантыка

З нагоды 70-гадовага юбілею Уладзіміра Навумовіча супрацоўнікі Карэліцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі правялі ў дзіцячай школе мастацтваў творчую сустрэчу са сваім земляком. У імпрэзе бралі ўдзел калегі Уладзіміра Аляксандравіча і жыхары райцэнтра.

Імклівы, артыстычны і, як сёння кажуць, харызматычны, юбіляр сыпаў цытатамі з расійскіх і айчынных класікаў, трымаў увагу залы. Менавіта такі, як і ў гады майго студэнцтва, калі выкладчык чытаў нам прадмет «Беларусазнаўства».

Жыццёвы шлях не адразу прывёў яго на філфак БДУ. Спачатку быў біяфак. Але душа рамантыка рвалася да паэтычнага слова, да беларускасці. Праз год юнак забірае дакументы і назаўсёды звязвае лёс з роднай мовай. Сёння Уладзімір Навумовіч — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры, пісьменнік, публіцыст, член саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі. Аўтар каля 350 навуковых прац, 9 манаграфій, стваральнік Міжнароднай школы беларускай мовы, літаратуры і культуры, слухачамі якой сталі вучоныя-славісты з розных краін свету, якія стварылі ў сябе на радзіме беларусазнаўчыя цэнтры. Паспяхова кіруе магістрантамі, выкладае студэнтам гісторыю беларускай культуры, літаратурнае рэдагаванне, гісторыю і тэорыю сусветнай культуры.

— Уладзімір Навумовіч — чалавек living рознабаковы, у ім — і пісьменнік, і калега, і суразмоўца, — зазначыў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. — У ім усё вельмі харошае, шчыра і цудоўна, а самае галоўнае — сціпла. Гэтыя словы падмацавала вышэйшая ўзнагарода Саюза пісьменнікаў Беларусі — медаль «За вялікі ўклад у развіццё літаратуры».

Былая студэнтка юбіляра, а сёння кандыдат філалагічных навук, старшы выкладчык кафедры тэорыі літаратуры Славяна Шамякіна, унучка Івана Шамякіна, адзначыла, што «ў нас шмат добрых пісьменнікаў і выкладчыкаў, але няшмат людзей, якія маглі б распавядаць гэтак жа цікава, як і пішуць. Уладзімір Аляксандравіч — адзін з іх».

**Іна ЛЕЙКА**

## Ірына ТУЛУПАВА



### Вуліца Багдановіча

«Жыву на Багдановіча-штрасэ», —
Свой адрас дыктую ў замежжы.
Як пачуваюся? Зрэшты, прыўкрасна!
А побач — дамок з назвай «Белая вежа».
А побач — альтанка і помнік Паэту.
Суродзіч пацвердзіць — не схлусіць:
Максім Багдановіч. «Вянок» і санеты —
То сімвалы Беларусі.
Прадмесце Траецкае. Рэчка Няміга.
Званіца. Саборная плошча,
Дзе прадзед-пакутнік хадзіў у вярыгах,
Дзе конку праклалі й трамвайны гудок
Калісьці даўно гараджан агалошваў.
Няма ўжо на вуліцы бруkаванкі,
Сучасная плітка тут гонар трымае.
А маладзя ідуць праз альтанку,
Каб кветкі ўскласці. Паэту сказаць,
Што любяць Радзіму і шчыра кахаюць!...

### Дождж

Закрапаў дождж па падаконні,
І замутнілася акно.
Ўжо выйшлі ручаі з прадонняў,
А ён лупцуе ўсё адно!

І барабаняць кроплі нудна,
Няма ім спыну: сумны жарт!
У такт дажджу мой крок марудны,
Набыць білет іду ў тэатр…

Свой парасон даўно складзеш ты:
Ён, як і ты, даўно прамок.
…У шапіку бракуе рэшты.
Не дах над ім — а так, брылёк!

І не схавацца ад дакучнай
вады, што льецца за каўнер…
Мудрэц той дождж! Прахожых лучыць:
Няўтульна ім — так, як і мне…

Панурыя, ідуць павольна
І мараць пра абжыты кут.
Глядзець знутры на дождж праз вокны
Куды прасцей, чым мокнуць тут.

А я — з білетам на прэм'еру!
Дык памагай мне, Святы Рох!
Білет — з надзеяю і верай:
Якая рэшта, далібог!

### Дзімітрыю

Уздыму на сваіх руках
Немаўлятка ў апранашачцы,
У хрысцільнай сарочцы
З валошкай, вышытай
Клапатлівай, нястомнай
Рукой манаскай.
Неакрэплым вітальным
Бадзёрым
Выкрыкам
Ён сустрэў у купелі
Анёла-ахоўніка.
Пахрысцілі дзіця і назвалі
Дзімітрыем,
Прычасцілі
Да цела Хрыста
Зямнога вандроўніка.
З сонцам яркім, агністым,
Нявыцвілым
Жыццё нованароджана!
І цяпер праз мазаіку
Храмаву
Промнікам свеціцца
У саборы
Адроджаным.
Ты хрышчоны вадзіцаю
Срэбранай,
Чалавечак слаўны,
Гарэзлівы!
І дарога няхай
Будзе хлебнаю:
Бо зарукай — шчаслівыя
Хрэсьбіны!

### Тры ўзросты

Пяю, бы ў шчасці дзяўчынка-падлетак,
Пяю, як быццам не знічка ўпала —
камета!
Жаночую долю наканавала
І ніткі блытаныя разматала.

Як быццам сплаціла растэрміноўку:
Крэдыт, іпатэку і з ЖЭСа «жыроўку».
У жыцці вірлівым гадоў замнога!
І кожны пачатак меў ад парога.

Дзяўчынка. Спадарыня. І спадарычна:
У хаце бацькоўскай —
як у храме гатычным.
Анёл выпраўляў пакручасты шлях,
У хвіліны адчайныя нёс на руках…

Прэч, нерашучасць! Паклонаў досыць!
Няма ў маіх днях і цемры застылай.
Лёгкаю ношай — жыццёвы досвед
Там, дзе раней вырасталі крылы!

Дзень сонечны й змрочны — не шараговы!
З ім надыходзіць узрост мой чарговы.
…Раблю зноўку крок,
наступны — істотны.
І, як спадарычна, пяю бясклапотна!

## Валяніцін СЕМЯНЯКА



### На досвітку

На досвітку прырода спіць
І цішыня стаіць такая,
Што чутна, як раса дрыжыць
І кропля долу ападае.

Лес трызніць сонечным цяплом,
А неба — ранішнім блакітам.
Усё наўкол салодкім сном,
Нібыта водарам, спавіта.

Бясконцы велічны прастор
Над сумнай бездаnню лунае.
Глядзіцца у бязмежжа зор
Ракі паверхня люстраная.

Нямыя постаці дубоў
Застылі ў роспачным чаканні.
Сівыя дні былых вякоў
Ім, пэўна, мрояцца уранні.

…Павее ветрык, незнарок
Абудзіць птушак гаварлівых,
І зробіць самы першы крок
Насустрач сонцу дзень імклівы.

### Чужая воля

Я кахаў цябе па-сапраўднаму,
Як нікога ніхто ніколі.
Ды закралася птушкай здраднаю
Паміж намі чужая воля.

Можа, гэта зусім не дробязі,
Калі ў іх для цябе спакуса —
І сплятаюцца рукі ў повязі,
І шукаюць ратунку вусны…

Нам пачуцці непадуладныя!
Толькі сэрца шчыміць да болю:
Я ж кахаў цябе па-сапраўднаму,
Як нікога ніхто ніколі.

### На лясной паляне

Сцяжынка прылегла між соснаў
І стужкай віецца крутой,
У травах губляецца росных
І кліча, заве за сабой.

Нявясным настойлівым сумам
Напоўнены кожны мой крок.
Здаецца, вясёлага шуму
Не знаў гэты ціхі куток.

А можа, і праўда здалося
Усё, што тут колісь было…
І шумных сяброў шматгалоссе,
І пальцаў пяшчотных цяпло?

Як быццам бы з іншай планеты,
Прыйшла ты сустрэцца са мной,
А вецер ганяе газеты
Па сумнай паляне лясной.



Фота Кастуся Дробава

## Кацярына НАРВАТКІНА



***

Снежань спыніўся надоўга ў зоне рызыкі,
На скрыжаванні
складанаскарочанай восені.
Ведаеш, гэтай зімою ўсе твае рысы і
Кожны асобны твой позірк
гуляюць з просінню.
Не пашкадуе завея празрыстай постаці,
Замацаванай на папялішчы ідалам…
Не далучай да мяне сусветы так проста ці
Са свайго бессэнсоўнага спісу
мяне выдалі.
Зноў стопяцьсотным
піксельна-чорным смайлікам
Я дасылаю ліст
да тваёй адмоўнасці,
Вечарам гэтым дрэнны настрой зімы
замінае нам
Замацавацца
ў снежна-каляднай роўнасці…

***

Я зноў зачыніла і вокны, і дзверы,
А потым згубіла ключы…
Сяджу і малюся аскепкамі веры:
«Маўчы, маё сэрца! Маўчы!»

Ты недзе далёка, між намі прастора
Паношаных піксельных слоў.
Цябе я забуду, магчыма, учора…
Сяджу і малюся… зноў!

І гэтак балюча, на сінім экране
Мігоча тваё «Online».
Я быццам у нейкім ваенным рамане:
Drei… zwei… ein…

Адлічваю гэтыя нанасекунды
Да новага стрэлу ў твар!
Навошта? Шкада, бо нідзе і нікуды!
Ні думак, ні нават мар…

Сяджу і малюся: «О! Дзева Марыя!
Чаму ты не чуеш мяне?»
І, быццам адказ, дзве сцяжынкі сырыя
На шэра-празрыстым акне…

***

Твой фотаздымак мне зноўку дзярэ сэрца,
Цячэ па пальцах чырвоны і цёплы боль.
Канец хутка! Мне, ведаеш, так здаецца.
Не трэба жартаў, усе мы крыху «folle*»…

Пад гук авацый ты адчыняеш дзверы,
Але ніхто ты, павотра ці то скразняк,
Які, надоўга пазбавіўшы мяне веры,
Згубіўся ў траўні, магчыма, будзіць лазняк.

Думкі мае забылі свае аблічча,
Шкада крыху, не горшым было яно.
Тваё фота мяне захацела сягоння
знішчыць,
А я жывая і п'ю за цябе віно!!!

***

Гадзіннік. Дым цыгарэт і гарбаты.
Што сталася з той,
якая была тут жыццё таму?
На шафе сямейка цацак
з ружова-блакітнай ваты,
На крэсле буклет:
«Як жыць на памер зарплаты»…
А на падаконніку —
сэрца, якое яна аддала ЯМУ.

Гадзіннік.
Стрэлкі чамусьці ідуць у адваротны бок.
Дзе зараз тая, што знішчыць і німб,
і крылы,
Каб толькі быў задаволены
ўсемагутны Б.О.Г.,
І разам з паштовымі крумкачамі
даслаў нежывое: Ок!
Дзе яна? З ІМ, бо ёй у пустэчы,
як кажуць, «вілы»…

Гадзіннік,
а стрэлак на цыферблаце зусім няма.
Дзве залатыя лічбы:
дваццаць адзін/дванаццаць,
Ну як, вы лічыце? Самазабойства?
А чорта з два…
Вось яна, разам з вамі, жывая,
і рукі, і галава
На месцы! Проста ёй хутка дваццаць…

*Folle (франц.) — вар'ят, чытаецца як «фоль».



# Леанід ЛЕВАНОВІЧ
# Турботны дзень пчаляра
## *Апавяданне*

Гэты год, як вядома, праходзіць у СНД пад знакам асаблівай увагі да экалагічнай культуры і аховы навакольнага асяроддзя. Такое рашэнне Савет кіраўнікоў краін-удзельніц СНД прыняў у Ашхабадзе 5 снежня 2012 года. Убаку ад агульных праблем аховы прыроды не засталася і наша Беларусь, дзе, як адзначалася ў прынятым рашэнні, увогуле зроблена шмат у распрацоўцы сучаснай стратэгіі экалагічнай бяспекі краіны. Творчая інтэлігенцыя, безумоўна, уносіць важкі ўклад у выхаванне высокай экалагічнай культуры грамадзян, захаванне для нашчадкаў роднай прыроды ва ўсёй яе прыгажосці і разнастайнасці. На гэтую ж тэму і апавяданне, якое прапанаваў «ЛіМу» вядомы беларускі празаік Леанід Левановіч. Мяркую, што на заканчэнне экалагічнага года цікавы твор пра жыццё пчол нашы чытачы ўспрымуць як падарунак пісьменніка, шчырага абаронцы прыроды і пчаляра-аматара з вялікім стажам.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

**I**

Раніца была хмарная. З шэрага неба, быццам захутанага мешкавінаю, сыпалася імжа, дзьмуў рэзкі паўночны вецер. Не верылася, што на дварэ сярэдзіна чэрвеня, макаўка лета.

Міхась Пятровіч ускінуў на плечы штармоўку з капюшонам, высунуўся на вуліцу з вядром, каб набраць вады са студні, але спярша адчыніў куратнік (узрадаваныя чубаткі сыпанулі на двор), затым падклаў прывялай травы трусікам, а тады выцягнуў няпоўнае вядро вады — прынесці поўнае не адважыўся: моцна балела спіна.

— Ну, сёння ўжо рой не вылеціць, — мільганула ў галаве радасная думка.

Каб не балела спіна, ён бы з радасцю зняў рой — была б новая сямейка, а ў старой сям'і — маладая матачка. Прыбытак у гаспадарцы!

Паясніцу пачало ламіць, пэўна, на змену надвор'я, а яшчэ намучыў яе пазаўчора, ці, як суседка Домна кажа, заўчарах. А вінаваты быў рой-друган: сеў высока на старой яблыні, якую Міхась даўно збіраецца спілаваць, бо на пчальніку не павінна быць высозных дрэў, і шкадуе — дужа смачныя, чырванабокія, нібы снегіры, дае яна плады, якія могуць ляжаць да вясны. Рой удалося зняць, затое сядзеў на лесвіцы з круглаю райніцай больш як паўгадзіны.

А потым давялося зняць цяжкі мядовы магазін-надстаўку, перабраць усе гнездавыя рамкі, разрываць маточнікі. Адну рамку чэры (расплоду) з маточнікам даў рою — пчолы самі вызначаць, якую гаспадыню выбраць. У караніку, з якога вылецеў рой, таксама пакінуў адзін маточнік — вядома, самы вялікі. Узрадаваўся, калі налічыў шэсць рамак чэры — магутная будзе сямейка! Ды з маладою маткай.

Апоўдні вецер пашкуматаў, разагнаў хмары, выбліснула сонца. Міхась зноў устрывожыўся, абышоў пчальнік, пастаяў насупраць шматкорпусных вулляў — гэтыя працавалі дружнай талакой, напоўніцу шчыраваў заўчарашні рой. І, што яго здзівіла, пчолы ішлі з абножкай. Няўжо маладая матка паспела аблятацца?

Міхась доўга стаяў каля светла-карычневага караніка — фарба выгарала ад сонца. Учора тут быў магутны аблёт, вельмі моцная сям'я, але працавала слабавата.

— Не ўздумайце адпускаць рой! — нібы даў гаспадар устаноўку пчолам. — Сёння нямоглы я. А калі ён сядзе высока, то й будзе сядзець да вечара...

Ён разумеў, што перад вылетам пчолы нагледзяць сабе новую кватэру, але, бывала, рой і начаваў на дрэве. Аднойчы Міхась вярнуўся з горада а палове шостай, а рой сядзеў на яблыні, чакаў гаспадара.

Вецер мацнеў, і гэта радавала Міхася: пчолы не любяць раіцца ў ветраны дзень. І ўсё ж рой вылецеў. Увесь падворак напоўніўся гулам і звонам. Нібы цёмная трапяткая хмара, кружылі пчолы, пацягнуліся да высокай яблыні — у Міхася аж сэрца ёкнула, нават буркнуў са злосцю: «Ну й ляцiце, кадук з вамі!» Але пчолы абляцелі яблыню, павярнулі да слівняку, пакружылі над невысокімі маладымі яблынямі і раптам сыпанулі назад, у свой каранік.

— Слава табе, Госпадзі! — з палёгкай уздыхнуў Міхась. — Значыць, матка не вылецела. Мудрая! Пабаялася ветру. А мо загінула?

Гэта быў бы найлепшы варыянт: пакуль новая матка, маладая, набярэ сілу, ён акрые, у выхадныя прыедуць мінчукі — дачка, зяць Андрэй, унук Сярожка, прыедзе з імі і жонка — яна была ў доктара. Зяць, малады, здаровы дзяцюк, любіць мядок, але пчол баіцца. Неяк дзве пчолкі «пацалавалі» яму левую руку, дык у яго не толькі рука, нават твар распух. Што тут зробіш? Далёка не кожны чалавек можа хадзіць ля пчол. Цяжкі, небяспечны гэта занятак, затое прыемны і далікатны. Міхасю здавалася, што гэта найлепшы занятак у свеце.

Да пенсіі ён працаваў канструктарам на трактарным заводзе, лічыўся адным з лепшых спецыялістаў. Але з гадамі пачало балець сэрца. Клапаны загрукалі, жартам казаў Міхась, урачы ягоную хваробу называлі тахікардыяй, параілі часцей бываць на прыродзе, а яшчэ лепей — жыць у вёсцы. Купіў Міхась хаціну за паўсотню вёрст ад Мінска і пачаў гаспадарыць. Тамара, жонка, ахвотна дапамагала, бо таксама нарадзілася ў вёсцы. Ад былых гаспадароў, якія займаліся пчалярствам, засталіся ў спадчыну два старыя каранікі, абгарэлы курэль (дымар), некалькі чорных рамак, два чырвоныя куфэркі. Пазней ён дазнаўся, што гэта райніцы: ніжэйшая — для Даданаўскіх рамак, а вышэйшая — для рамак сістэмы Ляйвіцкага. Узгадаў Міхась свайго дзядзьку Язэпа, заўзятага пчаляра, які частаваў мядком малога пляменніка. Іншы раз хлапчук дапамагаў дзядзьку: то гнілякоў прынясе, то курэль ці райніцу падасць, калі здымалі рой.

Быў і ў гэтай вёсцы пчаляр — Мікалай Сідаравіч, таксама пенсіянер. Міхась пасябраваў з ім, часцяком то вулей пераставіць, то мядовыя рамкі аднясе ў дзень ладзьбавання (падгляду пчол). Мікалаева жонка, Анэля, не любіла пчол, а вось мядок прадавала ахвотна, гнала мядовую гарэлку. Калі распячатвалі соты, забрус яна залівала вадою — утваралася сыта. Мікола паліў у лазні, запрашаў папарыцца Міхася, а пасля парылкі няма лепшага пітва, чым сыта. Але сыта хутка магла пракіснуць, Анэля выцiскала воск, злівала сыту ў бідон, дадавала пару боханаў хлеба, дрожджы — і атрымлівалася выдатная гарэлка.

Але ж бяда чалавека, што не ведае ён меры. Нездарма геніяльны Мендзялееў казаў: няма шкодных прадуктаў, ёсць шкодная доза. Прызвычаілася Анэля да гарэлкі, цішком прапівала грошы, што выручала за мядок. Была яна нападпітку і ў гэты дзень. Міхась завітаў, каб параіцца з Міколам, але той паехаў у горад. Анэля запрасіла сяброўку, гэткую ж выпівоху.

— Пятровіч, сядай, даражэнькі. Кульні з намі па чарачцы, — падхапілася гаспадыня.

— Нават бацюшка выпівае, — нібы апраўдвалася сяброўка. — І прыгаворвае: «Да разольётся сия благодать по всей периферии телесной».

Жанчыны гучна зарагаталі.

— Не, даражэнькія, дзякуй. Мне трэба ісці ў пчолы. А яны дужа не любяць паху гарэлкі, — і выкуліўся за парог.

**II**

Але падглядаць пчол Міхась не адважыўся: папраўдзе, ён зняў вечка, зазірнуў у магазін, там былі цалкам запячатаныя рамачкі і мноства крылатых працаўніц. Зразумеў: зняць надстаўку з хворай паясніцай не зможа.

Пад вечар вецер супакоіўся, але заход сонца быў барвовы — верная прыкмета, што заўтра будзе ветраны дзень. Міхась па звычцы абыходзіў пчальнік, наблізіўся да светла-карычневага доміка. З яго дыхнула гарачая мядовая хваля з водарам воску, прапалісу і яшчэ нечага таямнічага і дужа прыемнага. Каля лёткі варушыліся маладыя пчолкі. Міхась паслухаў з тыльнага боку: а раптам матка-пяюха паявілася, тады рой вылеціць абавязкова. Не, голасу пяюхі не пачуў, затое выразна чулася патрэскванне крыльцаў, кароткае зумканне, быццам пчолы перагаворваліся між сабою.

Міхась сарваў шырачэзны ліст лопуху, каб прыкласці яго нанач да паясніцы. Спярша памазаў спіну мёдам, затым прыклаў лопух, абвязаўся доўгім шалем і лёг.

Цікава, ці прыехаў Мікола — можа, давядзецца папрасіць яго памагчы, думаў Міхась, але расплакася Анэля на сабачую пугу. Некалі была працавітая кабета, суседка Домна казала пра яе: «Хай жа Бог дасць Анэлі і ў касцёле, і ў пасцелі». У касцёл Анэля не ходзіць, а вось чацвёра дарослых дзяцей і каля тузіна ўнукаў мае.

Назаўтра вецер быў яшчэ мацнейшы, але рой усё роўна вылецеў. Падворак зноў напоўніўся гулам і звонам, трапяткою аблачынаю пчолы кружылі над яблынямі, а потым зноў — о, дзіва! — вярнуліся дамоў. Міхась паспеў распаліць курэль і стаяў, пыхкаючы дымам. Пачуваўся ён сёння лепш: дапамог лопух, дый нічога цяжкога не падымаў.

— Дзякуй, пчолкі, вы падарылі яшчэ адзін лёгкі дзень. Дзякуй ветру і нябеснай канцылярыі, — мармытаў узрадаваны Міхась.

**III**

Наступны дзень выдаўся ціхі, палетняму светлы. Прачнуўся Міхась рана, пацягнуўся ў ложку, сагнуў тулава, акруглiў пазванок, дацягнуўся рукамі да пальцаў ног і ціха ўзрадаваўся: болю ў спіне не адчуў. Пазаўчора ледзь нацягнуў штаны, а сёння гатоў пайсці ў скокі.

— Значыць, дзед Міхась будзе жыць і працаваць. Каб не пчолы, не мёд, магчыма, ужо быў бы на тым свеце... Ну што ж, за работу! Перш-наперш трэба накасіць трусікам травы.

Ён зняў з-пад страхі касу, на ўзмежку пачаў мянташыць, старая «сямёрка» адгукнулася радасным звонам. Міхась злавіў сябе на думцы: цяпер ужо рэдка пачуеш у вёсцы звон касы, часцей грукочуць бензакасілкі. Ён яшчэ не скончыў касіць, калі над галавой дзынкнулі дзве пчалы, прысеў, каб не замінаць лёту. Мабыць, разведчыцы пакіравалі на пошук медадайных раслін.

Падышоў да райлівага светла-карычневага караніка — рэдкія пчолкі выляталі з яго. Няўжо не супакоіліся? Пэўна, яшчэ думаюць раіцца. Хай вылятаюць...

**IV**

І рой вылецеў, акурат апоўдні. Міхась з трывогай сачыў за палётам пчол. А яны падаліся за куратнік. Няўжо на грушу-дзічку? Яна таксама высокая. Але не, пчолы павярнулі назад, ляцелі нізка, пачалі кружыцца над штыкетнікам і паступова густа абляпілі верхнюю лату-жэрдку, паўзлі ўніз па штыкецінах. Рой быў велізарны, знізу латы пчолы звісалі барадамі. Бароды, але меншыя, утварыліся і на ніжняй лаце, густа абляпілі крылатыя насякомыя тры штыкеціны. Усё гэта нагадвала фантастычную літару Ш. Міхась стаяў як укопаны. Гэткага дзіва не бачыў ніколі за дваццаць гадоў пчалярства. Спахапіўся, што трэба распаліць курэль, разаслаць дзяружку, каб пчолы не губляліся ў траве.

Вырашыў здымаць рой у круглую райніцу, паклаў яе на бок, умацаваў паленамі дроў, каб не пакацілася, адхінуў краёк накрыўкі. Затым абкурыў пчол — даў зразумець, што гаспадар на месцы. Падсунуў райніцу да сярэдняй штыкеціны, крылатыя сяброўкі пацягнуліся ў пастку. Але ж так яны будуць ісці доўга, а тут сонца прыпякае, у райніцы зробіцца вельмі горача. Міхась стаў так, каб цень ад яго хаваў райніцу ад сонца. Неўзабаве бялёсая аблачына захінула чэрвеньскае свяціла. Тады Міхась пачаў лыжкай здымаць бароды з ніжняй латы.

Праз гадзіну ўсё было скончана. Цяжкую круглую райніцу аднёс у склеп, а куфэрак паставіў у таку — там таксама прахалода. Успомніў, што сёння пятніца, увечары прыедуць сямейнікі і ён можа пахваліцца: ёсць дзве новыя сямейкі, а галоўнае — ён управіўся без памагатых.

Неўзабаве выйшаў паслухаць райніцы. У склепе пчолы паводзілі сябе вельмі шумна — значыць, маткі ў іх няма, — а ў куфэрку сядзелі ціха-ціха. Яны разумеюць: каралева-матка з імі, усё ў парадку. З добрым настроем заўзяты пчаляр Міхась Аксючыц узяўся рыхтаваць вольны каранік. Зрэшты, ён быў гатовы даўно — вулей адмысловы, на дванаццаць рамак, пастаўленых на цёплы занос — упоперак. Змайстраваў яго сам, убачыў у суседа Міколы і зрабіў, бо пераканаўся: толькі моцныя сем'і даюць мёд, слабыя нават сябе не пракормяць.

Звычайна раі перасяляюць напрыканцы дня, нерад заходам сонца, Назіраць за тым, як трапяткою лавінаю ідуць па белым абрусе пчолы ў новы каранік, асабліва любіць Тамара, яна часта першай бачыла матку.

Гэтым разам Міхась вырашыў вечара не чакаць, абрус не слаць — няма патрэбы. З райніцы-куфэрка дастане дзве рамкі — і адразу іх у вулей, затым выме дно райніцы і выкурыць астатніх пчол. Потым адсуне застаўную дошку і без лішніх цырымоній высыпле пчол з круглай райніцы, і яны дружнаю талакою сыпануць на рамкі. І наваселле (ці, як гаворыць сусед Мікола, улазіны) завершана. Гэткім чынам Міхась усё і зрабіў.

Назаўтра, калі прыпякло высокае чэрвеньскае сонца, рой высыпаў на аблёт. Спачатку ўсе пчолкі кружылі вакол доміка, потым уздымаліся ўсё вышэй і вышэй, каб запомніць пчальнік, падворак, хату, увесь краявід, каб ніколі не блукаць і з раніцы да вечара насіць нектар з медадайных кветак.

Я свядома напісаў: каб не блукалі... У Амерыцы гінуць тысячы сем'яў: пчолы вылятаюць з вулея і не могуць вярнуцца назад, мабыць, таму, што прастора насычана высокачастотнымі токамі, якія парушаюць навігацыйную сістэму, так бы мовіць, компас пчалы. Магчыма, калапс пчаліных семяй выклікаюць новыя вірусы, дакладна яшчэ ніхто не ведае, чаму гэтак адбываецца.

І ўсё ж я лічу Пчалу сімвалам неўміручасці жыцця, бо яна абуджаецца пасля зімовага сну. А яшчэ Пчала — сімвал кахання, бо яна дае радасць, асалоду (мёд), гаркоту (джала) — без гэтага не абыходзіцца сямейнае жыццё.

Пчала — цуд Прыроды. Чым болей яна збірае нектару, тым болей узбагачае Прыроду, тым большы ўраджай даюць грэчка, рапс, канюшына, агуркі, гарбузы, вінаград. Пчалу трэба берагчы, не труціць хімікатамі, лекаваць ад кляшча, назематозу. Бо загіне Пчала — загіне чалавек.

Але вернемся на пчальнік дзядзькі Міхася. Гэты сезон раявая матка адпрацуе напоўніцу, а на другое лета яе трэба мяняць і не чакаць трэцяга вылету, які надараецца вельмі рэдка.

# Далёкае рэха «Новай зямлі»

Калі мы прызнаём, што нацыянальны эпас — «*духоўнае ядро*, вакол якога фарміруецца і ўтрымліваецца нацыя» (Т. Чабан), і калі мы прызнаём, што сучаснасць не спрыяе эпічным нарацыям, то да ўжо «гатовых» эпічных узораў павінна быць асабліва ўважлівае, нават трапяткое стаўленне, не пазбаўленае, аднак, аналітычных інтэнцый. Грунтоўнаму ўспрыманню нацыянальнай эпічнай традыцыі дапамагае зацікаўленае прачытанне адпаведных іншакультурных твораў, тым больш калі яны ствараліся на агульнай глебе зараджэння нацыянальнай ідэі, дзяржаўнасці і г. д.





## МІФ ЯК ПАРАТУНАК

Гаворка пра эпас перадумоўлівае пытанне: як распазнаць яго? Галоўны крытэрый — гранічнае абагульненне пэўнай, у дадзеным выпадку нацыянальнай, рэальнасці, яе міфалагізацыя. «Трошкі больш абагульніць рэальнасць — і будзе міф» (А. Лосеў). А міф, як вядома, — найбольш надзейнае сховішча калектыўнай памяці.

Абагульняць рэальнасць у міфах чалавецтву даводзілася з рознымі мэтамі: пазнавальнай (калі размова ішла пра таямніцы светабудовы), выхаваўчай (дзеля перадачы ведаў маладому пакаленню), рэпрэзентатыўнай і культуратворчай (дзеля самасцвярджэння сярод народаў свету). На працягу гісторыі гэта датычыла амаль усіх этнічных і этнанацыянальных культурных адзінак. Але ў досведзе толькі некаторых з іх раптам паўставала яшчэ адна мэта: стварэнне міфа як аднаго з магчымых шляхоў паратунку ад пагрозлівай бездані небыцця. Такі «міф» гранічна абагульнене не проста рэчаіснасць, але найбольш блізкія, непасрэдныя рэаліі як найбольш безумоўныя і трывалыя. Такі «міф» збірае ў першую чаргу не сэнсы (як грэчаскі «Логас»), але ўсяго толькі рэчы, таму што звыкласць іх прысутнасці (і народа сярод іх) мусіць быць страчаная пад уплывам Вялікай гісторыі, у дачыненні да якой дадзены культурны арэал апынуўся або мусіць апынуцца перыферыяй. Сучаснай мовай кажучы, перад намі досвед тых культур, якія маглі апынуцца ахвярамі глабалізму — маглі, але ўратаваліся.

На гэтым падмурку — імкненія да ратавання — трымаецца амаль уся беларуская літаратура класічнага перыяду і, зразумела, «Новая зямля» Якуба Коласа. Парадаксальна, што пры яе канцэптуальнай важкасці, мастацкай вытанчанасці і прыналежнасці да найбольш выбітных узораў класічнай творчасці дагэтуль не знайшлося кампаратыўнай паралелі, праз люстэрка якой больш яскрава зайгралі б вызначальныя вартасці паэмы. Ці сапраўды яна такая адзіная, што мусіць стаяць адзінока ва ўсёй сваёй непаўторнасці? Часам побач называюць некалькі твораў, не заглыбляючыся ў параўнальны аналіз (Гесіёдавы «Турботы і дні», «Герман і Даратэя» Ё. Гётэ, «Чатыры пары года» К. Данелайціса). Магчыма, у пошуку адэкватнага параўнання варта мецьна ўвазе не толькі звыклыя ўзоры заходнееўрапейскага эпасу, паглядзець у скарбонкі не толькі непасрэдна блізкага, свойскага славянскага свету, але і пашукаць у больш аддаленай — геаграфічна і ментальна — перспектыве?

## АБХАЗІЯ І ЭПАС

Тады на далёкім Каўказе мы заўважым рэспубліку, рэальнасць існавання якой на працягу амаль двух тысячагоддзяў (!) выпрабоўвалася з Поўначы і з Поўдня, з Усходу і з Захаду. Гаворка пра Абхазію з яе больш як двухтысячагадовай гісторыяй, з яе руплівымі добразычліўцамі-цывілізатарамі са старажытнага Рыма, Візантыі, Турцыі, царскай Расіі, Грузіі. У 1983 г. апублікаваны раман «Рассечаны камень» Баграта Шынкубы — пісьменніка, імя якога — сярод класікаў абхазскай літаратуры, побач з імёнамі Д. Гулія, Ф. Іскандэра, С. Чанба. Магчыма, спытаюць: а чаму не раней, чаму толькі ў апошняй трэці XX стагоддзя ў Абхазіі створаны нацыянальны раман як міфатворчы «ратавальны» эпас? Пытанне стане рытарычным, як толькі ўдакладнім, што пісьменства на абхазскай мове ўзнікла толькі напрыканцы XIX ст., у час аднаго з найбольш жорсткіх для абхазцаў выпрабаванняў — г. зв. махаджырства, або гвалтоўнага перасялення ў Турцыю.

Стварэнне пісьменства было актам ратавання ідэнтычнасці, спосабам замацавання ў рэальнасці абхазскага слова, якое ў махаджырстве паглыналася турэцкімі дыялектамі, а на радзіме знікала, вымірала фізічна (бо вельмі мала засталося люду). Захаванне слова, як вядома, — аснова захавання народа («Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» — клапаціўся Ф. Багушэвіч). Блізкі абхазцам непісьменны народ — убыхі, насельнікі арэала Адлер — Сочы — Туапсэ, — знік пасля перасялення. Стварэнне ж паўнавартаснага абхазскага эпасу на сваёй мове спрыяла замацаванню ў рэальнасці спрадвечнага абхазскага (шырэй — горскага) побыту і быцця, парасткі знікнення якога былі навідавоку ад пачатку індустрыялізацыі. Для Б. Шынкубы захаваць памяць пра яго значыла ўратаваць Абхазію ад паглынання суседнімі дзяржавамі і ўрбаністычным светам увогуле. Ці не тая ж інтэнцыя, інтэнцыя такога ж ратавання — у вытоках Коласавай «Новай зямлі» і ці не ёсць агульнасць вытокаў найбольш важкай падставай дзеля параўнальнага прачытання двух твораў?

## У ЧЫМ ПАДАБЕНСТВА?

Параўнанне дасць нам яскравае і грунтоўнае ўсведамленне ***каштоўнасці традыцыйнага ўкладу*** — укладу сялянскага жыцця. Дарма, што цяпер мы амаль не жывём у драўляных або плеценых дамках: закон пераемнасці пакаленняў, повязь нашчадкаў з мараллю і этыкай дзядоў-бацькоў мусіць спраўджвацца і ў шматкватэрных, і ў катэджных збудаваннях. Дарма, што мы цяпер не вымушаны разлічваць выключна на тое, што дае зямля: страціўшы з ёй сувязь, тым больш небяспечна сягаць у невядомую сваім патэнцыялам «віртуальную рэальнасць». Дарма, што ў «камп'ютарнае» тысячагоддзе свет бязмежна адкрыты нашым вачам і нашаму розуму — з гэтага няма ніякай карысці без зацікаўленага і даверлівага стаўлення да свету, такога, прыкладам, якое паступова адкрывае яго, не перасягаючы найбліжэйшага асяроддзя.

«Я — шчаслівы чалавек. Дасюль стаіць на зямлі хата, дзе я нарадзіўся і вырас, стаяць дрэвы, якія памятаюць мяне, узвышаецца выспа — прытулак маіх гульняў і забаваў. Яны... сагнуліся пад цяжарам гадоў, але няхай мае ўспаміны вернуць іх да маладосці і жыцця — гэтаксама, як і яны вяртаюць мяне ў далёкія і шчаслівыя дзіцячыя гады. І калі нехта вінаваты ў тым, што мне захацелася да дна вычарпаць калодзеж маёй памяці, дык гэта яны: мой дом, мая выспа, мае дрэвы... Узгадваючы пра іх, пра дзяцінства, я зразумеў: мне ёсць што сказаць чытачу,— ці здолею я данесці гэта да яго — іншая справа, — і я напісаў кнігу» (Баграт Шынкуба, «Рассечаны камень»).

Раман або паэма як ***гістарычны дакумент*** — яшчэ адна агульная рыса беларускага і абхазскага эпасаў, дзе перакрыжаванае быццё сямейнае і быццё гістарычнае: гісторыя асоб, прасочаная на фоне гісторыі нацыі. Коласаў твор мацуе памяць пра час татальнай сялянскай нястачы і беззямелля — «узор наадварот» для ўсведамлення каштоўнасці першаснага, «фізічнага» падмурку быцця індывіда і нацыі. Твор Б. Шынкубы ўзнаўляе перыяд атрымання Абхазіяй суверэнітэту пры ленінскім перыядзе савецкай улады.

І беларускі, і абхазскі творы мусяць ілюстраваць скупую на эмоцыі гісторыю «з падручніка»: памятаем яскравыя замалёўкі напаўпрыгоннага часу з «Новай зямлі». «Рассечаны камень» месціць сведчанні трагедыі махаджырства.

Калі нацыянальны эпас уяўляе сабой «духоўнае ядро», ён не можа не пазіцыянаваць свой матэрыял як кропку ***злучэння мінулага і будучыні — пэўны Пачатак***. Пачаткам больш годнай будучыні ўспрымаецца мара Міхала пра новую зямлю. Сімвалам Пачатку выступае галоўны герой твора — хлопчык Лаган, прататыпам якога з'яўляецца сам пісьменнік. Дзіця гор, нашчадак вогнішча продкаў, ён разам з тым носьбіт сучаснага, сінтэзаванага ў традыцыі і цывілізацыі светапогляду, ён ведае сапраўдны кошт таго і другога. Цывілізацыя каштоўная для яго тым, што здольная вывесці з цемры непісьменнасці, творчай скаванасці.

«Паглядзі на агонь, Лаган! Ён — цуд, сапраўдны цуд! На свеце толькі агонь можа адвечна захоўваць сваю прыгажосць... Запомні: агонь саграе не толькі таго, хто запаліў вогнішча, але ўсіх, хто побач. Для агню ўсе роўныя! Гэтаксама і чалавек — ён павінны саграваць людзей сваім цяплом, словамі і справамі. «Няхай пагасне тваё вогнішча!» — няма страшнейшага праклёну... Калі б я выправіўся ў Турцыю разам з бацькамі, не было б тут агню. Але ён ёсць... Дай божа, каб ён не згас ніколі... Ці ўсё ты зразумеў, Лаган?..» («Рассечаны камень»)

Абодва творы заснаваны на фіксацыі дзіцячых уражанняў — акалічнасць, якая абумовіла быццам жанрава нейтральную, але пры наяўнасці іншых эпічных рыс таксама эпасастваральную ***стылістычную афарбоўку*** тэкстаў. «Новая зямля» і «Рассечаны камень» ахутаныя дзіцячым уяўленнем пра свет як утульную і разам з тым загадкавую прастору. Неістотна, што перад намі не адзін і той жа род літаратуры: эпічны пачатак злучае раман і паэму. Больш цікава, што ўласцівыя менавіта гэтаму раману і гэтай паэме розныя інтанацыі аповеду ўрэшце адыгрываюць адну і тую ж ролю: абагаўляюць роднае і тым надаюць яму сэнс адвечнага.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Маленні да Паэта

Нарадзілася кніжка, якую чакалі даўно. Неўміруча-балючая тэма смерці Янкі Купалы трывожыла душы беларусаў дзесяцігоддзямі. Валер Санько прапанаваў сваё бачанне трагедыі.

У царкве вернікі чытаюць акафісты, у касцёле — літаніі, а кніга пачынаецца са своеасаблівага прызнання значнасці постаці Янкі Купалы і яго творчасці, самога яго жыцця. І яно, прызнанне, нагадвае тыя маленні.

На першых жа старонках мы сустракаем шмат новых, нечакана яркіх выразаў. «Магніт беларускасці — Янка Купала» — і чытач ужо «прымагнічаны», прыцягнуты да кнігі. І далей, амаль у кожным сказе, новыя, адметныя словы. «Супынялынік варагавання, у чым бы яно ні праяўлялася», «пачынальнік», «абнаўляльнік», «узвышальнік», «сцвярджальнік» — цэлая плойма яркіх вызначэнняў. Трапна аўтар абмалёўвае рэчаіснасць, у якой жыла савецкая інтэлігенцыя: «З дня заснавання ў краіне СССР надзявалі намордnікі на ўсіх думкі, адрозных, асабліва творчых». Але адна з самых важкіх думак, якія выказаў аўтар, на мой погляд, гэтая: «Для Янкі Купалы беларушчына не адно пагарджаная наезджанцамі і сваімі вырадкамі родная мова — найперш знявечаная беларуская самасвядомасць». «Лірык, паэмнік, драматург стаў выказнікам народнасці», і апошнія пятнаццаць гадоў яго жыцця былі азмрочаныя зайздрасцю, што «каростаю раз'ядала душы немарачанцаў ад паэзіі, пралетарскіх бязродавічаў, інтэрнацыяналісцкіх павярхоўнікаў». Тым не менш, як кажа аўтар, «беларуская інтэлігенцыя не аслепла, стагнала, працавала, выкручвалася, усё бачыла, асабліва яе вочы, народныя паэты».

Кніга захоплівае і кожным сваім наваторам даказвае, што мова наша здольная пашырацца ды паглыбляцца. І гэта натуральна; вы не знойдзеце нічога штучнага, прыдуманага дзеля забавы ці самавыяўлення. Але разам з тым вялікая колькасць наватвораў і нечаканых спалучэнняў вымагае павольнага чытання.

Валер Санько паказвае сябе як дапытлівы і ўважлівы даследчык. Ён прыводзіць шмат цікавостак, да таго ж, падае багата фактычнага матэрыялу пад агульнай назвай «З дакументаў», што падмацоўвае давер чытача.

Вялікую ўвагу і асаблівае месца ў кнізе займеў выканальнік жудаснай дзеі — Карней Лапух. Па версіі Валера Санько, Карней пасля ўчынення ім забойства быў «нежыццёвец у земным быцці, нерухлівец у Гэтым існаванні» і «не вылазіў з болю». Аўтар не дае яму магчымасці нават «уплішчыцца на самую горшую паліцу пекла», то бок даводзіць, што і ў пекле забойцу няма спачыну. Вось тут я не згодная з аўтарам! Браць на сябе ролю вярхоўнага суддзі не варта. Пазней Валер Санько падагульняе: «Грэх нязмыўны і няўмірны кожнаму крыўдзельніку нацыянальнага таленту любой нацыі, тым болей генія».

У пасляслоўі доктар гістарычных навук прафесар Анатоль Грыцкевіч сцвярджае: «На Беларусі адна з самых закрытых і недаследаваных тэмаў — смерць народнага паэта Янкі Купалы. Напісана пра творчасць шмат, сам узгадваецца часта, а як памёр — канкрэтнага нічога». Валер Санько стварыў аповесць-уяву, поўную рэльефных вобразаў, характараў; ён наблізіўся да вечнай тэмы Моцарта і Сальеры. Адзін з нямногіх.

**Ядвіга РАЙ**

# «Мы — не пачатак. Мы — працяг»

**4 снежня споўнілася 70 гадоў паэту Казіміру Камейшу. Ён аўтар шматлікіх кніг як для дарослых, так і для дзяцей, лаўрэат Літаратурных прэмій імя А. Куляшова і «Залаты Купідон». Напярэдадні юбілею з Казімірам Камейшам сустрэўся яго даўні сябра Яўген Хвалей.**

**— Уяві сабе: перад табою поле, якое ты прайшоў. А жыццё і ёсць поле. Што было прыемнага, а што сціскала ад болю душу?**

— На полі жыццёвым шмат было і кветак, і камянёў. Хіба апішаш радасць ад першых надрукаваных вершаў... А змясцілі іх у 1959 годзе ў Стаўбцоўскай раённай газеце «Голас селяніна», у рэдакцыі якой потым і сам працаваў. А якім шчасцем быў для мяне вылік на вучобу ў наш слынны БДУ! Публікацыі ў газетах і часопісах, першая кніга паэзіі, знаёмства з вядомымі пісьменнікамі... Усё першае — самае дарагое, і яно з табой назаўсёды.

Былі, на жаль, і страты, ад якіх балела душа, пакутавала сэрца: старэйшая дачка Ілона, бацька і маці. Мама зусім нядаўна пакінула мяне і брата. Наогул, пра жыццё можна разважаць бясконца. Яно заўсёды імгненнае, складанае, непрадказальнае. Хто ведае абыходныя шляхі ўсяго гэтага, той ніколі не будзе паэтам.

**— Твая жыццёвая сцяжына адметная. Яна вяла не столькі праз палі, лугі, рэкі, колькі праз лясы, бары. Менавіта ў Налібоцкай пушчы твае карані. Гэтак жа і ў паэзіі?**

— Адна з маіх кніг так і называецца: «Я — з пушчы». У самаірнічным вершы я пажартаваў: «Тутэйшы, сяброўскі, // Без звычак мяшчанскіх, // Маланавікоўскі // І многапушчанскі».

**— А паэт Юрась Свірка, даўні сябар, аднойчы так сказаў пра цябе, пабываўшы на тваёй радзіме: «Вялікі паэт з Малых Навікоў...»**

— Шкада, што Юрася Мікалаевіча, вельмі цікавага паэта, няма сярод нас. А Міхась Стральцоў, з якім мы разам працавалі ў часопісе «Полымя», ніколі не хваліў маіх вершаў, але часта паўтараў: «Падабаецца мне твая вернасць пушчы». Я запомніў тыя словы і пушчы ніколі не здраджваю. Для мяне ў ёй не толькі птушкі, а самі назвы спяваюць. Паслухайце: Ніўнае, Беламошша, Церабейнае, Кляцішча! Нават у пераліку вёсак чуецца салаўіны пошчак. Апошнім часам жыву ў матчынай хаце ў Малых Навіках. Я вярнуўся ў пушчу нібыта ў сваё маленства. Круг (пад такой назвай у мяне ёсць вянок санетаў) замыкаецца.

**— Чым была для цябе праца ў друку? Ці дапамагала яна творчасці?**

— Я працаваў у раённых газетах у Капылі, Стоўбцах, Дзяржынску, Валожыне. Трынаццаць гадоў аддаў Беларускаму радыё. Потым былі часопісы «Полымя», «Вясёлка», «Маладосць», «Вожык». Усюды праца ў рэдакцыях спрыяла творчасці! Я заўсёды чытаў свежае, новае і сам творча намагнічваўся. Я не ведаю, хто прыдумаў выраз «творчыя пакуты», але з ім я не згодзен. Ну якія ж гэта «пакуты», калі ты сядзіш за пісьмовым сталом ці ляжыш на канапе (не смейцеся, але ў асноўным я пішу лежачы) сам-насам з Часам, Памяццю? Думаеш, шукаеш і ўрэшце знаходзіш тое, што шукаў.

**— Тваім пакаленнем перажыта нямала грамадскіх узрушэнняў. Як рэагавала на іх твая паэзія?**

— Падзей было шмат. Памятаю, як ствараліся першыя пасляваенныя калгасы ў нашай Заходняй Беларусі. Уступалі ў іх землякі пад вялікім прымусам. Мой дзед па маці стаў першым старшынёй калгаса «За мір», а бацька мой быў заўзятым аднаасобнікам — у калгас уступіў самым апошнім. Яго каня, яшчэ партызанскага, я адвёў у калгасную канюшню. А конь начамі ўсё адно вяртаўся ў наш двор.

Памятаю смерць Сталіна. Настаўніца сабрала ўвесь клас і павяла дамоў слухаць па радыё трансляцыю пахавання. А мы, некалькі ўрвінцаў, уцяклі ў арэхавы гай шукаць петлі на зайцоў, якія паставіў муж настаўніцы.

У хрушчоўскую адлігу я ўжо быў раённым газетчыкам і ставіў старшынь калгасаў на калені (у прамым сэнсе), каб кукуруза на фотаздымку выглядала вышэйшай за чалавека.

А ў брэжнеўскі час зноў вучыўся, але гэтым разам — воплескам застойнаму перыяду. Нідзе не ўдзельнічаў у авацыях, затое жыў, як цяпер кажуць, пры камунізме і не ведаў пра гэта. Было танна і выпіць, і закусіць.

На маёй памяці развальваліся «родная партыя» і «вялікі непарушны» Савецкі Саюз. Як гэта ўсё ўплывала на маю творчасць? Аніяк. Я імкнуся трымацца тэм адвечных, якія былі да мяне і пасля мяне не знікнуць.

**— Ці не цягне з гадамі больш да празаічнага пяра?**

— Не ведаю, ці гады таму віною, але былі ў мяне подступы да прозы даўно. Доўга пісаліся кнігі эсэ, мініяцюр «Паміж кубкам і вуснамі» і «Там, дзе Свіцязь і Кромань». Даўнявата пішацца аповесць «Астравы на сушы»...

Перад паэзіяй я больш паслухмяны. Яна стукаецца ў сэрца штодзённа. А я ж яшчэ люблю і гумар. І тут ёсць набыткі. З маім удзелам выйшлі два зборнікі эпіграм.

**— Сучаснасць... Як не падобная яна да часоў, калі ты пачынаў, развінаў крылы... Лёгка ці цяжка сёння творыцца?**

— У маладыя гады я сапраўды меў нейкія крылы. Нямала было тых, хто пазычаў сілы для паэтычнага ўзлёту. Алег Лойка з нашага ўніверсітэта так і назваў літаб'яднанне — «Узлёт». Іван Калеснік, з якім мы потым працавалі на радыё і жылі побач, даваў першыя ўрокі ў «Чырвонай змене». Руку падтрымкі падалі мне ў маладосці таленавітыя літаратурныя настаўнікі Мікола Аўрамчык і Анатоль Вялюгін. Першы — у часопісе «Маладосць», другі — у «Полымі».

Як пішацца сёння? Творчае натхненне здараецца. І гэта самыя шчаслівыя хвіліны ў маім жыцці. Як ні дзіўна, узрост зусім не пазбавіў наіўнасці. З гадамі ў маіх вершах з'явілася яшчэ больш дзяцінства. І мне здаецца, паэт тым цікавейшы, чым багацейшы ён на дзіцячыя ўражанні. Цяпер, жывучы ў Налібоцкай пушчы, на малой радзіме, успаміны адтуль, з маленства, самаходзь прыходзяць адзін за адным...

**— Скажы, хто твой сябар — і я скажу, хто ты»...**

— У мяне, маладога, сяброўскія адносіны былі з паэтамі-франтавікамі Анатолем Вялюгіным, Пятром Прыходзькам, Антонам Бялевічам, Уладзімірам Шахаўцом. І гэтым усё сказана. Сябраваў і сябрую з аднагодкамі і маладзейшымі паэтамі. Шкада, што некаторых ужо не стала. Хведар Чэрня, напрыклад, дзяліўся апошнім студэнцкім адзеннем, набіраў на машынцы вершы для майго першага зборніка «Восеньскія позвы», а я маршыраваў на ваенным пляцы. Сёння ў любую хвіліну падтрымаюць мае землякі Мікола Маляўка, Генрых Далідовіч, Дзмітрый Дземідовіч, Алесь Камароўскі ды, думаю, і ты, Яўген...

**— Няма сумнення. Наша сяброўства доўжыцца больш як трыццаць гадоў... На заканчэнне не магу не папытацца: што ты пажадаў бы нашчадкам — у жыцці і творчасці?**

— Хацеў бы, каб не цураліся яны роднага слова. Не забываліся пра мінулае. Мы — не пачатак, мы — працяг. Будзем памятаць пра гэта.

**— Дзякуй, Казімір Вікенцьевіч. З юбілеем!**

# На лініі лёсу

У адной са сваіх празаічных мініяцюр К. Камейша заўважыў пра часопісныя лірычныя публікацыі: «Як многа вершаў, якія нагадваюць цяплічныя агуркі: крыху пахнуць паэзіяй, а смаку няма». А ў вершах К. Камейшы смак ёсць. І моц, і адчуванне творчай адметнасці, і жанравае самавызначэнне, і ўсведамленне арганічнасці абранага шляху.

Пачнём з лірычных мініяцюр. Гэта форма сціслая, ёмістая, бо канцэнтруе ў сабе і афарыстычны змест, і настрой. Такія ў К. Камейшы рыфмаваныя і «белыя» «адзор'і» з аднайменнай кнігі 2008 года. Верагодней за ўсё, даў назву гэтай кароткай форме наступны верш: «Зоры лучацца ў сузор'і, / А сэдзіць, што ідзе ад зор, / І на ўзбор'і, і на ўзмор'і, / І ў чыімсьці закамор'і / Свой распальвае касцёр». Аўтар умее сцісла перадаць імгненнае ўражанне, як гэта рабілі імпрэсіяністы: «І зноў арытмія ў прыродзе. / Пра гэта яскрава кажа / І кардыяграма маланкі». Або: «Прыслухайся: / Дыхае ў лузе трава, / І нешта звініць, і гудзе, і цвыркоча. / І цягнуцца ўгору сцябло за сцяблом, / Каб толькі зірнуць на здзіўлёныя вочы». Для кожнага важныя ў жыцці настаўнікі: «Самаадданасці вучыцца трэба ў кветак, / А працавітасці — у пчол, / А дабрыні і ласкі — у маці. / Настырнасці ж навучаць графаманы». З сентыментальнага: «Пэўна, не тое сказаў: / Гляную: / Скацілася з вейкі сляза». Пра шчасце мараць многія. Але дасягнуць гэтага стану бывае цяжка. К. Камейша прызнаецца: «Колькі жыву, столькі й мару, / Як ап'янець ад шчасця. / Бягуць гады за гадамі, / А я ўсё чамусьці цвярозы». Заўважыла, што апошнім часам надта ўжо арганічна беларусы засвойваюць японскія мініяцюры (хоку і танка). Суайчыннікі, як і нашы ўсходнія вершатворцы, становяцца ўсё больш сузіральнымі — і самазаглыбленымі філосафамі, і сентыментальнымі летуценнікамі.

Усе ведаюць, як псіхалагічна цяжка перажываць адстаронены паміж калісьці блізкімі людзьмі: «Тая змяя, што прапаўзла паміж намі, / Ужо памяняць паспела скуру, / А ты, калісьці мая, / Засталася нязменна чужою». Таму настолькі важная эстэтыка пачуццяў, у прыватнасці ўменне прабачаць, бо «Каму б ты праклён свой / Ні пасылаў, / Словы яго / Да цябе бумерангам вяртаюцца. / Нельга жыць / Па закону праклёну». У празаічных запісах з кнігі «Паміж кубкам і вуснамі» (2010) К. Камейша знаходзіць яшчэ адзін паратунак для гарманізацыі ўнутрысямейных адносін: «Мужчынам рэдка даецца пяшчота. Але калі яна ёсць, жанчынам гэта падабаецца». Відаць, назва гэтай кнігі выкрышталізавалася з наступнага верша: «Я адпіў з таго кубка, / З якога пілі яе вусны. / Нават слодыч адчуў іх, / Што была ўсё ж чужою». Творца так вызначыў жанр згаданай кнігі: «Мне цяжкавата пачуваць сябе ў прозе, але я адшукаў свой жанр, які ўжо нехта да мяне назваў гэтак проста: "запісная кніжка"».

Хуткаплыннасць моды раздражняе аўтара: «Той, хто моду ствараe, — / Трыумфатар часовы. / А хто крочыць за ім, / Нават след свой губляе». Гэтыя словы можна аднесці і да модных тэм або форм у паэзіі. К. Камейша перакананы: «У паэзіі кожны раз старэюць і знікаюць не традыцыйныя вершы, як думаюць некаторыя маладыя наватары, а вершы традыцыйна-пасрэдныя». І дадае: «Але і традыцыйныя ўвесь час мусіць падсвечвацца новым. Нават традыцыйныя баравікі кожны раз растуць на новым месцы». Стаць творцам — не так проста, як некаторым здаецца: «Каб нарадзіцца, чалавеку дастаткова і дзевяці нейкіх месяцаў. Роды ж паэта часта зацягваюцца на ўсё жыццё». Узорам культуры пісьма для К. Камейшы з'яўляецца прынцып Шарля Бадлера: «Паўсюль насіце з сабой вашу задуму — на прагулянку, у ванную, у рэстарацыю. Спачатку многа думайце, каб потым хутка пісаць». «Ну а мы часцей за ўсё, — працягвае беларускі аўтар, — хутка напішам, а потым ужо і падумаем». Якая ж нацыянальная асаблівасць беларускіх паэтаў? На заўвагу некаторых «Ніхто з беларускіх паэтаў яшчэ не завяваў свету. Дзе ваш гонар?» К. Камейша адказваў: «Мы не заваёўнікі. Мы — абаронцы». І задумваўся: «А гонар?.. Гэтую моцную прыправу мы і праўда рэдка бяром да ўжытку».

К. Камейша згадвае родную хату, якая запомніла яго партрэт у раме акна і помніла ўвесь час, калі ён, пакінуўшы родны дом, знаходзіўся далёка, у сталіцы («Акно»). Радзіма заўжды асацыіруецца з маці. Лірычны герой К. Камейшы насуперак таму, што не мае шчасця і каханай, сцвярджае: «Мама заўсёды са мной». Для кожнага сумленнага чалавека маці — гэта святое, гэта непарыўная сувязь на ўсё жыццё і на вечнасць. Аўтар адчувае: «…Жыве на зямлі мая мама, / Мама мяне беражэ!» Здольнасць сапраўднага паэта — адчуванне гучання навакольнага свету: «Музыка ёсць усюды, дзе ёсць слых. Можна адшукаць яе ў пошуме ветру, у поскрыпе дрэва, дзвярэй, масніцы, у звоне калодзежнага вядра. Мелодыя ж заўсёды ляжыць на паверхні».

Ёсць у паэзіі К. Камейшы вектар, які пазначае месцазнаходжанне яго ідэалу, яго ўяўленняў пра мэты творчасці. Ёсць непарушнае «адчуванне напрамку шляху»: ён лічыць бессэнсоўнымі «пераскокі з адной купіны жанру на іншую».

Шмат зрабіў К. Камейша для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў. Яго вершы, паэмы, казкі, калыханкі, лічылкі, скорагаворкі, загадкі развіваюць уяўленне дзяцей, іх шматфарбнае і вобразна-метафарычнае ўспрыманне свету. Чаго толькі вартыя скорагаворкі для адпрацоўкі добрага вымаўлення гукаў «ш» і «с», самых, дарэчы, праблемных для дашкольнікаў: «Шаргоча шашаль у сасне. / Сасна шуміць, / Аж страшна мне», «Сам з сябе смяецца сом, / Сом прысніў са смехам сон». Творы гэтага жанру з'явіліся ў аўтара невыпадкова. Ён згадвае аўтабіяграфічны факт: «Філфакаўская скорагаворка гучала так: "Я йшоў к Камейшу, Камейша ка мне йшоў"».

Разам з іншымі чытачамі чакаю ад шаноўнага юбіляра новых вершаў-адзор'яў для дарослых і вясёлых твораў — для дзяцей.

**Таццяна БАРЫСЮК**



Малюнак Аляксандра Каршакевіча

**КАЗІМІРУ КАМЕЙШУ,**
**юбіляру, аўтару кнігі**
**«Паміж кубкам і вуснамі»**

*У Навіках правеў ён лета з толкам,*
*А не сядзеў, упёршы рукі ў бокі.*
*За вёскай жа, куды ні кінеш вокам,*
*Заманліва шумелі Налібокі.*

*Таму зранья — грыбное паляванне,*
*Пасля яго — праполка ў агародзе.*
*Ледзь не забыў паэт вершаскладанне:*
*Па макаўку быў у жыццёвай прозе.*

*Затое ўсё вакол цвіло, буяла*
*І выглядала, далібог, спакусна.*
*Адна бяда, што часу не хапала*
*Данесці ўрэшце кубак — той — да вуснаў.*

*Дзеля каго, якой такой падзеі*
*Там Казімір напружваў жылы, вены?*
*А каб на ўласным круглым юбілеі*
*Карміць сяброў капустай, бульбай, хрэнам.*

*І розных іншых хатняй смакатою,*
*Якой на градах вырасла даволі…*
*А потым кубак (з чым — загадка тое)*
*Да вуснаў падняce, як штосьць святое,*
*Аж семдзесят разоў! А можа й болей!*

**Ад імя вожыкаўцаў —**
**Павел САКОВІЧ**

# Не лічы крокі свае...



Выдавецтва «Чатыры чвэрці» прадстаўляць чытачу «ЛіМа» залішне: інфармацыя пра яго дзейнасць перыядычна з'яўляецца на старонках штотыднёвіка. Яно ажыццяўляе ўсе віды выданняў: вучэбныя, навукова-папулярныя, вытворча-практычныя, нарматыўныя, літаратурна-мастацкія, даведачныя, рэкламныя. Да таго ж, «Чатыры чвэрці» — адзіная ў Беларусі выдавецкая структура, якая мэтанакіравана падтрымлівае развіццё нацыянальнай музычнай культуры. А за ажыццяўленне праекта «Нашы духоўныя каштоўнасці» дырэктар Ліліяна Анцух і творчы калектыў удастоены прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне». Сёння Ліліяна Анцух — наш госць.

— Ведаеце, кнігі для мяне як дзеці. У асабістым жыцці я маці двух сыноў. А ў «Чатырох чвэрцях» кніг-дзетак не пералічыць. Выбраць адну любімую — цяжка. Як выдавец я пачалася з кніг серыі «Нашы духоўныя каштоўнасці», якія выпускалі ў свет у 1990-я гады. Шукала тады свае арыенціры ў жыцці: мы былі выхаваныя на атэізме і таму пракладвалі новыя шляхі. Задумваліся пра тое, што пакінем дзецям. А як самой ісці па жыцці? Гэтыя вышукі прывялі мяне ў храм. Хацелася зразумець, што ж рэлігія, праваслаўе значаць у жыцці чалавека. Чаму здараюцца такія сітуацыі, калі раптам невядома адкуль прыходзіць дапамога? Выснова была адна — дапамагае Бог! І я, грэшная, яго дзіця. Так нечакана ўсё вылілася ў пачатак серыі. А яшчэ адбылася знакавая сустрэча з Мітрапалітам Філарэтам: ён падтрымаў нашу выдавецкую задумку, пісаў прадмовы да выданняў, падказваў.

**— Але на той час духоўная літаратура заняла нішу, якая не была запоўненая. Грамадства цікавілася рэлігіяй, доўгі час аддзеленай ад дзяржавы. І гэта для іншага прадпрымальніка, магчыма, стала б не столькі заклікам душы, колькі патрабаваннем часу. Трэба аддаць належнае — вельмі ўдалы выдавецкі ход!**

— Я так для сябе не вызначала. Тады яшчэ выдавец-пачатковец, толькі пачынала самастойныя крокі. Прычым пайшла з дзяржаўнай установы. А працавала ў сістэме Міністэрства інфармацыі і культуры: у Нацыянальнай кніжнай палаце ўзначальвала аддзел стандартызацыі і навукова-інфармацыйнай працы. Усё новае, што рабілася ў кнігавыданні, праходзіла праз наш аддзел. Прыязджалі дзяліцца вопытам нават немцы — яны тады выходзілі ўжо на настольныя выдавецкія сістэмы. У паліграфіі і кніжным гандлі таксама было шмат новага. Мы адкрываліся свету. Аляксандр Патупа, які стварыў канцэрн «Эрыдан», запрасіў мяне на працу. У яго быў такі адмысловы рэдакцыйна-эканамічны цэнтр, усё роўна як маленькае выдавецтва: працавалі і рэдактары, і эканамісты, і перакладчыкі. Але там сапраўды былі бізнесмены і валам ішла адпаведная прадукцыя: такія кнігі я называю «чэйзамі». Гэта мяне не кранала, было нецікава. Адзінае, што, помню, мы зрабілі, — двухтомнік Бродскага. Тады я сустрэлася ў Пецярбургу з Уладзімірам Уфляндам. Правялі насамрэч цікавую выдавецка-даследчыцкую працу і стварылі добрую кнігу! Гэта была пэўная прыступка...

**— Культуру звычайна рухаюць людзі, апантаныя ёю, бо праца ў гуманітарнай сферы рэдка зычыць фінансавы поспех. Як жа чалавеку, які абраў для сябе такі не самы лёгкі шлях, удаецца знаходзіць залатую сярэдзіну: каб выдавецтва заставалася самастойнаю адзінкаю на азначаным полі і мела нейкі прыбытак?**

— Усе гэтаму факту здзіўляюцца, асабліва цяпер, калі мы падыходзім да свайго дваццацігадовага юбілею. Як такое магчыма? Як выжывалі ўсе гэтыя гады? Былі часы вельмі цяжкія, рукі апускаліся, хацелася ўсё кінуць. Але трымала кніга, і цяжкасці пераадольваліся. Таму я і гавару, што кожная кніга, насамрэч, як дзіця: спачатку яе трэба нарадзіць, пасля суправаджаць па жыцці, аж пакуль не ўладкуеш: у бібліятэкі, крамы. Таму ладзілі шматлікія прэзентацыі. Дзе праходзілі мы — была і кніга! Няма ніякага дакладнага рэцэпта выжывання: проста па кожнай кнізе мы працавалі індывідуальна і шмат цяпер можам пра яе расказаць. Аднойчы я пачула: маўляў, у выдавецтве ўсё проста, далі грошы (магчыма, сам аўтар) — і рабі кнігу. Але ж патрэбны натхненне, любоў: да аўтара і да тэмы, неабходна веданне сферы, у якой працуеш. Трэба шмат чаго зразумець яшчэ да сустрэчы з аўтарам. У калектыве працуюць цудоўныя людзі! Калі я да каго з іх падыходжу, значыць, ёсць дадатковыя прапановы па кнізе, якія нарадзіліся, магчыма, нават уначы.




**— Тым не менш рызыкну дапусціць, што ў выдавецтве моцны маркетынгавы аддзел...**

— Невялікі, але мы працуем з усёй Беларуссю. Ёсць адпрацаваная сістэма, якая калі-нікалі, на жаль, дае збой. Бывае, прыходзіць аўтар і абураецца: яго кнігі няма ў кнігарні! А яна ёсць, але «згубілася»! Мы працуем з аб'яднаннем «Белкніга» — дзякуй ім за дваццацігадовае супрацоўніцтва. Але бываюць, на жаль, і выпадкі, калі праз год кніга вяртаецца — і не ў «таварным» выглядзе...

**— Кажуць, толькі кансерватыўны чалавек не мяняе поглядаў. Час ідзе, і жыццё падпарадкоўваецца іншым законам. Напэўна ж, нейкія прынцыпы і ў вашым жыцці былі?**

— Ведаеце, неверагодна люблю вучыцца і яшчэ... вучыць: таму, што я ведаю ў выдавецкай справе, на чым набіла «шышкі», дзе мне ўдалося спасцігнуць новае. Да прыкладу, на курсах павышэння кваліфікацыі ці на выстаўках, канферэнцыях даведацца пра штосьці новае.

**— Гэта называецца «дзяліцца досведам»... За 20 год выдавецтва шмат чаго зрабіла, і не толькі па духоўнай тэматыцы. Пашыраліся сферы зацікаўлення, уплыву...**

— Так, і нават калі духоўная тэматыка пераважала, паралельна ішлі іншыя тэмы. Але ўсе яны цесна знітоўваліся з духоўнай, нацыянальнай сферамі. Гэта маё роднае! А колькі ў Беларусі знакамітых людзей! І нашы знаёмствы, а з імі праекты, акцыі, бы кругі на вадзе, пашыраліся. Мы, да прыкладу, падтрымлівалі (нават крыху і фінансава «падстаўлялі пляцо») фальклорныя фестывалі. Арганізоўвалі выдавецкае суправаджэнне Міжнароднага фестывалю ў Паставах «Звіняць цымбалы і гармонік», рэгіянальнага фестывалю «Берагіня» (Гомельская вобласць), Мінскага гарадскога фестывалю нацыянальных культур і інш. На гэтым рос аўтарытэт: калі ўсе сілы ў праекце — гэта заўважна! Нацыянальная проза і паэзія для нас не пустыя гук. На І з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі мы рыхтавалі невялікую справаздачу і, нарэшце, убачылі свае лічбы — колькі выдалі літаратуры! Распачаліся сталыя стасункі з арганізацыяй. Цяпер дапамагаем рабіць серыю «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі». Ніхто нам не ўказвае кірункаў, не дасылае папер, не дае грошай! Мы ўсё робім на свае сродкі. Хацелася б толькі большага разумення, што гэта — сацыяльна значная літаратура.

**— Варта ўзгадаць і серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі», «Мінскія маладыя галасы»...**

— А яшчэ з вялікай радасцю мы працуем над серыяй «Асоба і час»! Па-свойму і, як нам падаецца, з густам яе афармляем. Збіраем у кнігу пра асобнага чалавека не толькі працы, выступленні, а нават матэрыялы, якія публікаваліся пра яго ў друку.

**— Вось і я сустрэла ў вас Міколу Чарняўскага, вы рыхтуеце яго кнігу ў серыі «Дзеці вайны».**

— Так, таксама ініцыятыва выдавецтва. Падчас святкавання 65-годдзя Перамогі мы да наступнага юбілею, да 70-годдзя, вырашылі выдаць такіх кніг як мага больш. Знаёмім чытача з тымі, хто памятае трагічны і гераічны час, з тымі, хто прапусціў праз сябе філасофію вайны. Поруч са знанымі аўтарамі — Міколам Чарняўскім, Міколам Маляўкам, Зінаідай Дудзюк — бяром у працу рукапісы аўтараў, для якіх гэта можа быць першая кніга. Але ім таксама ёсць што сказаць. У мяне вялікая любоў і да маладога пакалення! За дваццаць год шмат каго ўдалося падтрымаць.

Цяпер задумалі яшчэ адну цікавую серыю — «Мінская гарадская бібліятэка».

**— А вы лічылі, колькі серый заснавалі?**

— Не! Таму што некаторыя могуць працягвацца! Зрэшты, такіх серый, якія б мы закрылі, няма: любую можна прадоўжыць. Але з асаблівай любоўю асабіста я працую над серыяй «Нашы духоўныя каштоўнасці». Зваліўся камень з душы, калі ў вытворчасць патрапіў ужо шосты выпуск (за 20 год — толькі шосты!). Яго тэма — «Праваслаўныя святыя зямлі беларускай». Не было пакуль такой кнігі, каб пад адной вокладкай былі сабраныя ўсе беларускія святыя. Дагэтуль яшчэ сустракаецца шмат белых плям у жыціях. Мы паднялі процьму матэрыялу! Імкнуліся, каб поруч з аповедам пра святога была прадстаўленая і яго ікона.

**— Вашым кнігам зайздросцяць і з-за таго, на якой паперы яны друкуюцца, як афармляюцца. Як дасягаеце высокай якасці?**

— Ведаеце, калі доўга працуеш над кнігай і ўкладваеш у яе шмат сіл, часу, то неяк няёмка, каб усё гэта было выдадзена не ў належным выглядзе. З-за таго, што мы цвёрда стаім на нагах, пашырыліся магчымасці выдавецтва і ў плане тэхнічным. Маем сваю маленькую вытворчасць, і ёсць усе неабходныя працэсы, каб зрабіць кнігу ў цвёрдай вокладцы без колеру. А з партнёрамі робім колер (друкарня можа быць у Беларусі любая, за межы пакуль не выходзім). Змяншаем такім чынам выдаткі. Эканомім, на чым можам. Калі б усё праходзіла і замыкалася на шляхах рэалізацыі — больш хутка, аператыўна, заканамерна, сістэматычна — то нам было б лягчэй. Але цяпер яшчэ, калі зайсці на склад выдавецтва, можна ўбачыць там прыгожую, на цудоўнай паперы выдадзеную кнігу, якая… ляжыць і чакае свайго пакупніка. А гэта вельмі дрэнна: ляжаць грошы, якія мы маглі б накіраваць на выданне новых кніг!

**— Зайздросная ў вас дзіцячая кніга. Нямногія выдавецтвы дазваляюць сабе выдаваць нават дзіцячыя кнігі з малюнкамі! А гэта, мне здаецца, абавязковая ўмова.**

— Такая наша пазіцыя! Яшчэ ў пачатку дзейнасці «Чатырох чвэрцяў» (гэта ж музычны тэрмін!) — мы стараліся рабіць усё, каб кніга радавала! Не адну аформілі з дапамогай выпускнікоў мастацкага вучылішча. У дзяцей практыка — мы іх бяром, навучаем. Нешта дарабляем, але маладыя падыходы стараемся падтрымаць і апладзіць іх працу. Мы дорым ім свае кнігі, а яны прапануюць малюнкі.

Выдатная выйшла кніга Яўгеніі Пастэрнак і Андрэя Жвалеўскага «Час заўсёды добры». З пункту гледжання афармлення — зусім не сумная... Часта задаюць пытанне: няўжо не надакучылі традыцыйныя класічныя казкі? А я ў адказ называю новыя кнігі Уладзіміра Кулічэнкі: «Інтэрнэт-хлопчык», «Інтэрнэт-сышчык», «Інтэрнэт-салдат».

**— Міжнародныя стасункі таксама наладжаныя?**

— Яны выявіліся з цікавасці да сусветнай літаратуры і жадання прадставіць у замежжы сваю! Пачалося ўсё з асабістых кантактаў. Так увайшоў у планы выдавецтва Аркадзь Валадось. Ён родам са Слоніма, але шмат год жыве ў Парыжы. Спявак, вядомы ў свеце, распавёў нам пра французжанку-педагога, што напісала цудоўную кнігу. Ён узяўся яе перакласці, але трошкі «згубіў» родную мову. Паклікалі на дапамогу музыказнаўцаў. Далей — болей. Я патрапіла ў Парыж і пазнаёмілася з жонкай Валадося, якая некалі вучылася ў Санкт-Пецярбургу, убачыла яе работы (яна мастачка). Менавіта ёй прапанавала зрабіць малюнкі... Атрымалася выдатная кніга!

**— Але друкуеце, нават па сучасных мерках, невялікімі накладамі!**

— Гэта суровая неабходнасць. Як толькі мы бачым, што кніга запатрабаваная, пачынаем працаваць з ёй зноў! Маленькі наклад адгукаецца ўдаражаннем выдання. Тады мы ідзём у бібліятэкі, наладжваем прамыя стасункі з рэалізатарамі — так трымаем цану!

**— Калі б вы самі ўзяліся пісаць кнігу, то пра што яна была б?**

— Яна напісаная! І столькі назапашана матэрыялу, што хопіць не на адну кнігу. Мяне прымалі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі нават не як выдаўца. Ёсць, як я кажу, пісаніны, трэба перабраць артыкулы, інтэрв'ю, даклады, прадмовы альбо пасляслоўі да мноства выданняў, дзе я абагульняю тое, што гавораць аўтары, часам прадстаўляю заяўленую тэму. А колькі кніг складзена за жыццё!

**— Досыць прыемнае слова, якое, дарэчы, да многага абавязвае...**

— Згодна. Што да задум... то я ўжо распавядала пра серыю «Асоба і час». У ёй да кожнага чалавека дадаецца двукроп'е. Да прыкладу, «Уладзімір Гніламёдаў: заставацца сабой». Напэўна, можа быць «Ліліяна Анцух: не лічы крокі свае...». І тут шмат назапашанага матэрыялу. Варта толькі прысесці, сістэматызаваць усё. Але чамусьці не хапае часу. Чаму не трачу начны час на тое, каб сабраць паперы? А таму, што сёння — здача кнігі, нарада, сустрэча, прыём, заўтра — нешта яшчэ. Загнутыя ўсе пальцы, распісаны ўвесь каляндар на шмат дзён наперад...

Вельмі хацелася б напісаць пра малую радзіму, сабрала шмат матэрыялаў. Я не жыла там, толькі ў пашпарце ўказана назва населенага пункта. Але калі пабывала на радзіме, увайшла ў храм, — зразумела, што жыла там заўсёды. Гэта Лошніца, ёй больш як тысяча гадоў, вельмі інтэлігентны пасёлак. У храме служыць найцудоўнейшы настаяцель — айцец Віктар (Гулевіч). А ў Мінску мой храм — Пакроўскі. Дарэчы, наступная тэма серыі «Нашы духоўныя каштоўнасці» — якраз пра Пакроўскую ікону Божай Маці, з дня яўлення якой прайшло 400 год. Матэрыялы рыхтуюцца даўно.

**— А на якой жа кнізе напішам аўтограф сёння?**

— Гэта кніга Эдуарда Загарульскага «Белая Русь з сярэдзіны І тысячагоддзя да сярэдзіны XIII стагоддзя». Вынік шматгадовых вышукаў доктара гістарычных навук, прафесара і даследчыка. Кніга, прысвечаная 1150-годдзю славянскага пісьменства і 1025-годдзю Хрышчэння Русі, атрымала блаславенне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Кнігу фінансава падтрымаў Прыёрбанк, і мы перадаём бясплатна каля 800 экзэмпляраў кнігі ў бібліятэкі, навучальныя ўстановы.

**Ірына ТУЛУПАВА**

**Сёння а 18-й гадзіне ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбудзецца ўрачысты вечар, прысвечаны 20-годдзю выдавецтва.**

*Кніжны форум-2014*

## У Мінск, на кірмаш

З 5 па 9 лютага 2014 года ў Нацыянальным выставачным цэнтры «БелЭкспа» будзе праходзіць XXI Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Пра адметнасці падрыхтоўкі распавёў выканаўчы дырэктар XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, генеральны дырэктар ТАА «Макбел» Дзмітрый Макараў.

— Варта адзначыць, што Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш займае 2-е месца ў СНД — пасля Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу — па ліку праведзеных форумаў, а таксама па плошчы і колькасці экспанентаў. Наш кірмаш большы, чым Кіеўскі, большы, чым выстаўка, якая штогод праходзіць у Пецярбургу.

Цяпер у рабочым рэжыме ідзе прыём заявак на ўдзел у форуме, але некаторыя яго адметнасці ўжо можна заўважыць. Так, традыцыйна будзе зладжаная вялікая калектыўная экспазіцыя беларускіх выдавецтваў, якія працуюць у сістэме Міністэрства інфармацыі краіны. Крыху зменшыцца агульная плошча экспанентаў з Расійскай Федэрацыі, што лагічна, бо на XX ММКВК гэтая краіна была Ганаровым госцем. Як звычайна, вялікія экспазіцыі і праграмы прадставяць Францыя, Германія, Іран, а кнігі са Злучаных Штатаў Амерыкі зоймуць намнога большую плошчу. У цэлым прагнозы XXI ММКВК досыць аптымістычныя, нас асабліва радуе высокая актыўнасць з боку замежных гасцей. Спадзяёмся, што ў пачатку наступнага года для ўдзелу ў кніжным форуме ў Мінск завітаюць каля 600 экспанентаў прыкладна з 25 краін свету.

На выстаўцы будзе і нешта новае: цікавыя аўтары, яркія прэзентацыі. Адметна, што ўваход на кірмаш, як заўсёды, бясплатны, таму чакаем многа наведвальнікаў: іх колькасць на ММКВК



Фота Кастуся Дробава

штогод павялічваецца. Больш за тое, для працы на форуме мы прадастаўляем бясплатную акрэдытацыю прадстаўнікам кнігагандлёвых арганізацый, кнігарняў, бібліятэк і навучальных устаноў.

У лютым 2014 года ў межах кніжнай выстаўкі плануем правядзенне «Дня ведаў» і «Дня бібліятэк». Падкрэслю, што «бібліятэчны дзень» вернуты ў праграму кірмашу менавіта па просьбах саміх бібліятэкараў. Гэта дасць магчымасць спецыялістам з розных рэгіёнаў Беларусі завітаць у сталіцу, папрацаваць з выдаўцамі і пазнаёміцца з кніжнымі навінкамі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Госці з «Маладосці»*

## Пра імідж і стратэгію

29 лістапада ў Доме прэсы прайшло пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі часопіса «Маладосць».

Згодна з планам, першая частка мерапрыемства была адзначана справаздачай галоўнага рэдактара пра дзейнасць выдання ў 2013-м і перспектывах на 2014-ы, а таксама выступленнямі рэдактараў аддзелаў перад членамі рэдкалегіі. У лік апошніх, варта адзначыць, уваходзяць літаратары і грамадскія дзеячы, рэдактары газет і часопісаў, дырэктары літаратурных музеяў, кіраўнікі навучальных устаноў.

Другая частка пасяджэння была прысвечана двухбаковаму абмеркаванню стратэгіі часопіса, яго іміджу як выдання для моладзі. Лідзія Макарэвіч, дырэктар музея гісторыі беларускай літаратуры, адзначыла як адметнасць тое, што часопіс «напоўнены дабрынёй»: «Творы ў ім чалавечныя, што вельмі важна для выхавання моладзі. Той, хто чытае «Маладосць», не ўбачыць на старонках злосці ці агрэсіі. Мне гэта падаецца вельмі каштоўным». Алесь Бадак, галоўны рэдактар часопіса «Нёман», пахваліў «Маладосць» за арыгінальнасць: «Я люблю, калі кніга або часопіс і ў змесце, і афармленнем сваім не падобныя да іншых. Вельмі арыгінальнай лічу «Маладосць» 1953-га — не такая, як астатнія тагачасныя літаратурныя выданні. І «Маладосць» цяперашняя таксама вельмі арыгінальная — і знешне, і ўнутрана.

Трэба адзначыць яшчэ, што найбольш важкімі дасягненнямі 2013-га, юбілейнага для «Маладосці» года, з'явіліся стварэнне арыгінальнага сайта, стварэнне цікавай кнігі ўспамінаў пра часопіс і выпуск першага ў гісторыі выдання міжнароднага нумара.

**Святлана ВОЦІНАВА**

# Планета Багдановіча

Памятаеце фільм «Таварыства мёртвых паэтаў», дзе студэнты каледжа адрадзілі даўнюю традыцыю збірацца ў пячоры і каля вогнішча распавядаць пра сваіх любімых творцаў, чытаць вершы? Памятаеце, якімі натхнёнымі былі тыя хлопцы, з якімі шчырымі пачуццямі замілавання яны вымаўлялі вершаваныя радкі?.. Падчас Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Кніга новага жыцця», што прайшла ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча і была прысвечана 100-годдзю адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў маладога беларускага класіка «Вянок», мне неаднаразова падавалася, што я трапіла менавіта ў гэты фільм, але, натуральна, зняты на «беларускай глебе». Гучалі вершы, шчырыя словы вітання, ды і даклады, што чыталіся падчас секцыйных пасяджэнняў, не былі па-навуковаму скупымі на эмоцыі. Радасць ад знаходак, навуковых адкрыццяў і ад магчымасці падзяліцца імі з аднадумцамі… А як жа па-іншаму, калі мы ўсе на паэтычнай планеце Багдановіча «разам ляцім да зор»?!

### КОД МАКСІМА

«Максім Багдановіч варты, напэўна, таго, каб пра яго напісаць кнігу «Код Багдановіча», дзе быў бы раскрыты сакрэт незвычайнай творчай энергіі маладога паэта. Прачытаўшы гэтую кнігу, кожны мог бы пабачыць вытокі паэтычнага таленту і натхнення Максіма», — такую думку выказала падчас адкрыцця міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі дырэктар Літаратурнага музея М. Багдановіча Таццяна Шэлягові́ч.

— Канферэнцыя — гэта цудоўны час, які застанецца ў гісторыі нашай краіны, гісторыі багдановічазнаўства. Музей Максіма Багдановіча мае шмат планаў і ўжо рэалізаваных яркіх праектаў, але гэта ўсё можа быць здзейснена разам з людзьмі, якія падтрымліваюць нас, установамі-аднадумцамі, — зазначыла Таццяна Эдуардаўна.

Намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда», галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Алесь Бадак у сваім прывітальным слове падкрэсліў:

— У 2011 годзе ў РВУ «Літаратура і Мастацтва» выйшла кніга «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы». Мне здаецца, што гэтая назва вельмі сімвалічная. Безумоўна, паэт нам вядомы, бо Багдановіча мы з задавальненнем чытаем з дзяцінства, любім яго «Слуцкіх ткачых» і захапляемся геніяльным вершам «Я хацеў бы спаткацца з Вамі…». І ў той жа час ён невядомы. Багдановіч — планета, якую нам і нашым нашчадкам яшчэ доўга патрэбна будзе адкрываць, знаходзіць на ёй нешта новае і вельмі каштоўнае. Невядомы — таму, што ў час, калі беларуская літаратура звярталася да вобраза беларускага селяніна, засяроджвалася на цяжкасцях яго жыцця, Багдановіч паглядзеў на Еўропу. Ён хацеў, каб Беларусь займала годнае месца сярод іншых краін Еўропы і свету. Прайшло шмат гадоў, але па ўзроўні побач з Максімам можна паставіць зусім нямногіх паэтаў з розных краін, якія ў 17-18 гадоў для сваёй роднай культуры зрабілі столькі ж, колькі малады Багдановіч.

На адрас Літаратурнага музея М. Багдановіча з нагоды правядзення канферэнцыі і святкавання 100-годдзя «Вянка» было даслана шмат прывітанняў ад сяброў, калег-музейшчыкаў з Расіі, Украіны, якія таксама працуюць на ніве папулярызацыі творчасці М. Багдановіча. Сваё прывітанне накіраваў і прафесар Львоўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя І. Франка, лаўрэат Нацыянальнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі Раман Лубкіўскі. Сярод іншага, у вітальным слове Раман Мар'янавіч падкрэсліў:

— З нагоды святкавання стагоддзя з часу выдання паэтычнага зборніка «Вянок» М. Багдановіча думаю пра яго не толькі як пра адметны факт беларускага літаратурнага працэсу, а як пра паэзію заходнееўрапейскага маштабу, з'явы такога парадку, як «Кабзар» Т. Шаўчэнкі, «З вяршынь і нізін» Івана Франка, вершы Паўло Тычыны. Сёння можна быць упэўненым: паэтычны маніфест юнага Максіма быў пачуты не толькі на Айчыне, яго танальнасць была пачута ды таленавіта інтэрпрэтавана і ва Украіне.

Менавіта міжнароднае адценне мелі і прывітальнае слова доктара філалагічных навук прафесара Вячаслава Рагойшы, а таксама яго падарункі, што сталі для музея не толькі добрай памяццю пра святкаванне 100-годдзя «Вянка», але і каштоўным папаўненнем фондаў. Гэта «Вянок» у рускамоўным перакладзе Бранiслава Спрынчана, унікальныя фотаздымкі, зробленыя ў 1971 годзе ў Ялце падчас падарожжа Вячаслава Рагойшы і Таццяны Кабржыцкай. Як прыгадаў Вячаслаў Рагойша, падчас паездкі адбылося знаёмства з малдаўскай пісьменніцай Ганнай Лупан і яе мужам, празаікам і эсэістам Мікалаем Савосціным. Яны ўчацвярых наведвалі магілу Багдановіча, дом, дзе ён жыў (дарэчы, гэты будынак не захаваўся, але на фотаздымках Вячаслава Рагойшы яго яшчэ можна пабачыць), чыталі вершы. Вынікам такога насычанага адпачынку стала эсэ «Васілёк», якое па вяртанні напісаў Мікалай Савосцін і якое часта передрукоўваецца ў рускамоўных выданнях Малдовы.

Заканчэнне чытайце на стар. 10 ▶

## Зачараваў Японію

Часопіс «Маладосць» сваім кастрычніцкім нумарам перасёк не толькі межы Беларусі з Польшчай і Украінай, але і патрапіў «на другі канец свету» — у Японію.

Як ужо паведамлялася, першы міжнародны рэгіянальны нумар «Маладосці» з творамі маладых украінскіх і польскіх літаратараў паспяхова прэзентуе сябе на тэрыторыях краін-суседзяў. «Друкаванне ў беларускім месячніку «Маладосць» твораў пятнаццаці падляскіх літаратараў — гэта вялікая падзея, а для нас — нагода ганарыцца», — пісала колькі часу таму польская прэса. «Буг не дзеліць, а злучае, прынамсі, у акрэсе літаратуры», — так прыгожа адзначылі тэсе супрацоўніцтва тамтэйшых літаратары. А вось яшчэ цытата «з нагоды»: «Беларусы — людзі інтэлігентныя і ўражлівыя. Ствараюць культуру і павернуты ў тэме культуры да свету».

Сапраўды так! Той самы кастрычніцкі нумар яшчэ і на «тэрыторыі» «Бярозкі» змясціў пераклад: казку Нанкіці Нііmi, японскага пісьменніка, чыё 100-годдзе адзначаецца сёлета, прапанавала часопісу ў перакладзе на беларускую вучаніца мінскай сярэдняй школы № 190 Юйэ Тацумі. Гэта падзея стала нагодай для таго, каб часопіс «Маладосць» трапіў на радзіму маці Юйэ — кіраўніка Японскага інфармацыйнага цэнтра ў Мінску спадарыні Тацумі Масака. Часопіс возьме там удзел у спецыяльнай юбілейнай выставцы. Больш за тое, наступны, лістападаўскі нумар друкуе творы Хітошы Танака — студэнта з Японіі, які вучыцца ў нашым Інстытуце журналістыкі. Несумненна, і гэты нумар ужо выправіўся ў дарогу — на Усход.

**Святлана ДЗЯНІСАВА**

# Планета Багдановіча

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 9.**

Зборы музея папоўніла таксама ўнікальная самвыдатаўская кніжачка, якая выйшла тыражом усяго 10 асобнікаў да 100-годдзя М. Багдановіча. У якасці выдаўца выступіў украінскі паэт Уладзімір Лучук. Тут сабрана 5 варыянтаў перакладу верша «Пагоня» на ўкраінскую мову і 4 вершы ўкраінскіх паэтаў, напісаныя пад уражаннем ад «Пагоні». Але, бадай, самым каштоўным падарункам ад Вячаслава Пятровіча і Таццяны Вячаславаўны стала кніга ўкраінскіх перакладаў вершаў Багдановіча «Вянок» — першая ластаўка, што ў 1929 годзе пераляцела з Беларусі на Украіну. Аўтар перакладаў і ўкладальнік гэтага выдання — вядомы ўкраінскі паэт і навуковец Міхаіл Драй-Хмара. Такой кнігі ў фондах Літаратурнага музея М. Багдановіча дагэтуль не было.



Фота Кастуся Дробава

*Навуковае абмеркаванне ў кулуарах канферэнцыі.*

## І ВАНДРОЎКІ ПА ВІЛЬНІ

Натуральна, адной з асноўных мэт правядзення навуковай канферэнцыі ў цэлым з'яўляецца неабходнасць даследчыкаў дзяліцца вынікамі сваёй працы за пэўны перыяд часу. І навуковы форум, прысвечаны 100-годдзю «Вянка» М. Багдановіча, не выключэнне. Адметна, што сучасных навукоўцаў творчасць нашага класіка цікавіць з розных аспектаў. Хтосьці спрабуе яе «ўпісаць» у агульнаеўрапейскі і нават сусветны літаратурны працэс, знайсці агульныя рысы часу і прадэманстраваць асаблівасці пераемнасці Багдановічам еўрапейскіх мадэрнісцкіх традыцый. Нехта даследуе вытокі кніжнай культуры Максіма — праз аналіз яго чытацкіх пераваг і згадак выданняў з бацькоўскай бібліятэкі. Нехта разглядае літаратурна-крытычную спадчыну творцы з пункту гледжання ўплываў сябра і ў некаторай ступені настаўніка Сяргея Палуяна ці па слядах Максіма здзяйсняе вандроўку па Вільні, кіруючыся згадкамі ў яго вершах адметных гістарычных мясцін.

Падаецца, што кожны з абраных шляхоў — правільны і выйгрышны як для даследчыка, так і для літаратуры ў цэлым. Бо нацыянальная класіка толькі тады можа лічыцца сапраўдным узорам творчасці, падмуркам ідэнтычнасці народа, калі яна перачытваецца, даследуецца, актуалізуецца ў кантэксце сучаснасці. Гэта пастулат. Думаецца, у выпадку з творчасцю М. Багдановіча нараканні абсалютна немагчымыя. Яго паэзію, публіцыстыку, прозу чыталі, вывучалі раней і будуць чытаць і даследаваць на розных узроўнях, праз прызму бачання новых пакаленняў адкрываць у ёй новыя рысы.



Фота Кастуся Дробава

*Вячаслаў Рагойша прэзентуе Літаратурнаму музею М. Багдановіча кнігу перакладаў вершаў Максіма Багдановіча на ўкраінскую мову.*

## ДАРОЎНЫ НАДПІС… АД АЎТАРА «ВЯНКА»

Дзень правядзення канферэнцыі, прымеркаванай да 100-годдзя «Вянка», для Літаратурнага музея Максіма Багдановіча быў значны яшчэ адной яркай падзеяй — прэзентацыяй выстаўкі «Знаходкі 2013. Невядомыя аўтографы М. Багдановіча». Не так даўно фонд музея папоўніўся трыма каштоўнымі дакументамі з аўтографамі маладога беларускага паэта. Адзін з іх — дароўны надпіс сябру «Мікалаю Пятровічу Дружыніну ад аўтара», зроблены Максімам на кнізе «Вянок». Гэты дакумент знайшлі ў Яраслаўлі, дзе паэт некаторы час працаваў у газеце «Голос».

Яшчэ два аўтографы адшукаліся дзякуючы навіне пра тое, што ў Літоўскім цэнтральным дзяржаўным архіве апрацаваны і адкрыты для карыстання беларускі фонд. У ліку іншых матэрыялаў у пераліку значыліся два лісты М. Багдановіча ў рэдакцыю газеты «Наша ніва». Натуральна, што ў фонды Літаратурнага музея М. Багдановіча былі перададзеныя толькі высакаякасныя копіі гэтых надзвычай каштоўных дакументаў.

Сучасныя тэхналогіі дазваляюць аб'яднаць дакументы не толькі ў рэальнай, але і ў віртуальнай прасторы. З улікам таго факта, што рукапісная спадчына М. Багдановіча (88 адзінак) раскіданая па ўсім свеце, рашэнне стварыць электронны каталог рукапісаў паэта падаецца цалкам лагічным. Праца ў гэтым кірунку таксама вядзецца ў Літаратурным музеі паэта. Дарэчы, у музеі ў Мінску захоўваецца толькі 30 адзінак рукапісаў Багдановіча.

Падчас прэзентацыі супрацоўнікі музея распавялі таксама, што ўжо больш як 70 гадоў ідзе пошук рукапіснага архіва паэта з 14 папак, што быў сабраны Інстытутам беларускай культуры падчас падрыхтоўкі першага выдання Збору твораў М. Багдановіча. Архіў знік у часы Вялікай Айчыннай вайны, і лёс яго дагэтуль невядомы. Паводле некаторых версій, яго вывезлі ў Германію. Не выключаная магчымасць, што навукоўцаў і прыхільнікаў творчасці М. Багдановіча чакаюць новыя знаходкі і адкрыцці.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Постпрэзентацыя

26 лістапада, у дзень народзінаў Уладзіміра Караткевіча, былі прадстаўленыя чатыры тамы — а гэта ўсе, што пакуль выйшлі, — Збору твораў пісьменніка.

Сітуацыя склалася ўнікальная: прэзентаваліся кнігі, пра якія ўжо ведае ўся краіна, якіх чакаюць чытачы і нават больш — некаторых з тамоў у продажы ўжо няма: раскупілі. Першы том цяпер не дастанеш і ў «Мастацкай літаратуры» — выдавецтве, якое ўзялося за вялікую справу.

Кіраўнік праекта, навуковец Анатоль Верабей, неаднойчы звяртаў увагу на тое, што гэты Збор нельга называць поўным. Правільнае вызначэнне — найбольш поўны. Разам з ім Збор твораў прэзентавалі галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп, а таксама навуковец, перакладчык, адзін з укладальнікаў Збору Пятро Жаўняровіч.




Віктар Анатольевіч падкрэсліў значны момант: гэта не перавыданне твораў Караткевіча, але вялікая праца, бо «дваццаць пяць тамоў — гэта не восем».

Першымі двума тамамі, у якія ўвайшла паэзія Караткевіча, апекаваўся Анатоль Верабей.

— Праца над Зборам твораў вядзецца, можна сказаць, энтузіястамі, — кажа спадар Анатоль. — Канечне, спецыялістамі, кандыдатамі навук, даследчыкамі Караткевіча — але ў вольны ад працы час. І часу не хапае. Так што творчы працэс крыху затрымаўся, таму трэці том — апавяданні і казкі Караткевіча — вырашылі выпусціць пасля пятага. Усе выданні навукова каменціраваныя. Значна папоўніліся карпусы тэкстаў і паэзіі, і прозы, і драматургіі. З'явяцца новыя тамы перакладаў і аўтаперакладаў. Два тамы ліставання. Два тамы публіцыстыкі. Кінасцэнарыі, лібрэта — у трох тамах. Асобны, дваццаты том, змесцяць малюнкі Караткевіча. Нагадаю, што ў 2006 годзе Аршанскі музей выдаў невялічкую кніжку «Свет вачыма Караткевіча» — гэта першая кніга малюнкаў беларускага пісьменніка. А яшчэ мы плануем выдаць дыскі з аўдыёзапісамі — вершамі і песнямі ў выкананні Уладзіміра Сямёнавіча — і відэа — выступленнямі на тэлебачанні, у Саюзе пісьменнікаў, здымкамі ў фільме «Узнясенне Юрася Братчыка». А калі будуць раскупленыя кнігі, зробім і электронную версію Збору твораў.

Значную частку кожнага тома складаюць каментарыі ды «іншыя рэдакцыі і варыянты». Натуральна, усе цэнзарскія «праўкі» не маюць месца ў новым Зборы твораў, тэксты выдаюцца ў тым выглядзе, які ім надаў сам Караткевіч. Так што чытач можа і не пазнаць многія знакамітыя і любімыя ім творы, папярэджвае Пятро Жаўняровіч, укладальнік чацвёртага і пятага тамоў.

Слова з нагоды дня народзінаў Караткевіча сказала яго пляменніца Ала Сянкевіч:

— Ужо шмат гадоў для мяне гэты дзень больш сумны, чым радасны. Яму было ўсяго толькі 53 гады, калі ён пайшоў з жыцця. Таму мне крыху няёмка чуць віншаванні з днём народзінаў Караткевіча. І дагэтуль цяжка ставіцца да яго як да абстрактнай асобы. Усё ж гэта мой блізкі і родны чалавек. Помню яго маладым і вясёлым, ён быў як сонейка. Помню і апошнія дні, калі ён быў у цяжкім стане. Але памяць пра яго светлая. Ён не ўмеў, ды і не любіў, прыстасоўвацца да жыцця, таму лёс яго быў цяжкі. Але час усё расстаўляе па месцах. Сёння ён адзін з самых любімых у Беларусі пісьменнікаў. Віншую ўсіх нас з пачаткам выхаду Збору твораў Уладзіміра Караткевіча і дзякую ўкладальнікам і выдавецтву «Мастацкая літаратура».

**Уладзімір ГОРЫНЬ**




# Беларускі Геракл

Пятро Васючэнка прэзентаваў кнігу «Дванаццаць подзвігаў Геракла». З беларускай версіяй легендарнай гісторыі чытач мог пазнаёміцца яшчэ чатыры гады таму ў часопісе «Маладосць». Нарэшце выйшла кніга. Слова «нарэшце» тут мусіць чытацца з радасцю.

— Часам у мяне пытаюць, у тым ліку выкладчыкі, з якой мовы я пераклаў гэтую кнігу, — распавядае Пятро Васільевіч, — або адкуль спісаў. І чаму менавіта Геракл? Чаму антычнасць? Адказваю так: антычнасць мяне вабіла даўно, з дзяцінства. Я нарадзіўся на зямлі, якую можна назваць носьбітам беларускай антычнасці, — гэта Полаччына. І калі ў Грэцыі ўсё ёсць, то ў маёй «полацкай антычнасці» таксама ўсё было: і таямнічая старажытнасць, і людзі, якія забыліся на сваю гісторыю, але, калі трэба, яе згадаюць, жывуць сучаснасцю і смела топчуць траву, па якой хадзіў яшчэ Усяслаў Чарадзей. Пра Геракла захацелася напісаць яшчэ і таму, што ў дзяцінстве мяне самога называлі Гераклам. Цяжка паверыць, напэўна… Толькі пры гэтым трэба дадаваць рэмарку да мянушкі, якую мне далі ў школе: Геракл, толькі ў высушаным выглядзе. Камплекцыяй быў не асілкавы, але смела ўступаўся за свой гонар. Пры гэтым мяне заўжды разбівалі акуляры. А пазней я заняўся больш інтэлектуальнымі справамі: шукаў Полацкі лабірынт, чытаў кнігі, але героя, які даў мне мянушку, не забываў.

Дылема, якая паўстала перад аўтарам ужо тады, ляжыць і ў аснове кнігі: што важней у чалавеку — сіла, розум ці багацце? А лепей сказаць, што кіруе светам? Спачатку Геракл вырашае, што справа ў волі багоў, потым — у выпадку… Правільны адказ ён знаходзіць, як і патрэбна, толькі пад канец. І вельмі дапамог яму ў гэтым верны Іялай, які да ўсяго прыходзіцца Гераклу пляменнікам. Іялай тут — прапаведнік любові да ўсяго жывога. Ён утаймоўвае непамерную сілу Геракла, прымушае яго напачатку думаць, а потым — дзейнічаць, і нават больш — прымушае задумвацца.

Кніга будзе цікавая падлеткам, бо ў ёй хапае і прыгод, і пачвар, і гумару. Гісторыя гэтая застаецца гісторыяй выхавання. Але нельга абмяжоўваць чытацкую аўдыторыю кнігі аднымі школьнікамі. «Дванаццаць подзвігаў Геракла» — той універсальны твор, які аднолькава цікавы ўсім і «дэшыфруецца» па-рознаму ў залежнасці ад досведу чалавека-чытача.

Цікава, што Геракл у кнізе Пятра Васючэнкі атрымаўся вельмі беларускім. Так, ён не надта гаваркі, спакойны, упарты, працавіты і надзвычай сціплы. «І вельмі здзіўляецца, калі людзі кажуць, што ён здзейсніў подзвіг, — кажа аўтар. — Які ж тут подзвіг, калі ён проста рабіў сваю справу?..»

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Мадэрнізм: у прозе і ў вершах

Мы не выпадкова ў межах адной старонкі сёння прадстаўляем менавіта гэтыя выдатныя кнігі, што пабачылі свет пры падтрымцы ААТ «Харвест». Раман «Уліс» ірландскага пісьменніка Джэймса Джойса і выданне «Вершы і паэмы» амерыканска-еўрапейскага аўтара Томаса Эліёта аб'яднаныя не толькі схільнасцю абодвух аўтараў да творчасці ў стылі мадэрнізму. Яны вялі актыўную перапіску, абменьваліся ідэямі і рукапісамі яшчэ не выдадзеных кніг, актыўна ўдзельнічалі ў фарміраванні новага «твару» англамоўнай літаратуры, у якой пасля Першай сусветнай вайны пачалі назірацца новыя тэндэнцыі. Натуральна, у іх творчасці можна заўважыць агульныя рысы, іх з'яўленне абумоўлена як агульнымі павевамі часу, так і ўзаемаўплывамі.

## РАЗБУРЫЦЬ УСЁ

Асабістае знаёмства Томаса Эліёта з Джэймсам Джойсам адбылося пры вельмі дзіўных абставінах 15 чэрвеня 1920 года. Пісьменніца Нэнсі Колдуэл нават напісала апавяданне «Як Джэймс Джойс сустрэўся з Т. С. Эліётам» (было апублікавана на старонках штодзённай брытанскай газеты *The Independent*). Іх агульны сябар, вядомы паэт Эзра Паўнд, нейк папрасіў Эліёта перадаць Джойсу важную пасылку. Эліёт некалькі дзён насіў з сабой гэты цяжкі, кепска звязаны пакунак і пры сустрэчы аддаў яго пісьменніку. Затым Эліёт сеў і добразычліва назіраў, як Джойс, які з-за вельмі слабога зроку наўрад ці добра бачыў вузел, спрабаваў развязаць шпагат: Паўнд пастараўся. Пасля доўгіх пошукаў нажа Эліёт прапанаваў Джойсу манікюрныя нажніцы. Нарэшце пакунак удалося адкрыць. Праз некалькі хвілін усе пабачылі яго змесціва: пару старых, але цалкам прыстойных чаравікаў, якія адзін вядомы літаратар праз іншага пісьменніка перадаў свайму сябру.

Некаторы час іх знаёмства было досыць павярхоўным, але праз два гады, калі «Бясплодная зямля» і «Уліс» фактычна ўзарвалі ўсе літаратурныя каноны, пісьменнікі сталі досыць добрымі сябрамі. Эліёт шукаў у Джойса падтрымкі пасля расстання з жонкай, а Джойс, у сваю чаргу, практыкаваўся ў стварэнні літаратурных пародый… на аснове трыумфальнай паэмы сябра.

Варта адзначыць і вялікі літаратурны ўплыў Джойса на творчасць Эліёта. Ён бачыцца перш за ўсё ў адным з самых вядомых твораў аўтара — паэме «Бясплодная зямля». Яна выйшла крыху раней, чым джойсаўскі «Уліс», але гэты раман Эліёт чытаў яшчэ ў рукапісе, дасланым яму самім пісьменнікам. «Нічога, акрамя захаплення», — пісаў Эліёт Джойсу пасля знаёмства з кнігай. «Лепш бы я гэтага не чытаў», — дадаваў ён, маючы на ўвазе сілу ўплыву «Уліса».

Ёсць сведчанні, што пасля гэтага Эліёт нават не хацеў працягваць працу над «Бясплоднай зямлёй», але Эзра Паўнд, паэт і рэдактар, якому ў выніку была прысвечаная знакамітая паэма, яго пераканаў, сказаўшы: «Джойс зрабіў гэта ў прозе, а ты зробіш у вершах». І хоць паэма Эліёта — гэта водгук на сітуацыю ў пасляваеннай Еўропе, а «Уліс» — гісторыя аднаго дня трох дублінцаў, абодва творы — фантастычнае, шматслоўнае і выняходлівае мастацтва. Эліёт нейк нават казаў пісьменніцы Вірджыніі Вульф, таксама як і Джойс, прыхільніцы выкарыстання празаічнага метаду «плыні свядомасці»: «Уліс» разбурыў усё, што зроблена XIX стагоддзем. У самога Джойса не засталося нічога для напісання іншай кнігі. «Уліс» паказаў марнасць усіх стыляў у англамоўнай літаратуры».

Але, па сутнасці, паэт хацеў зрабіць тое самае з дапамогай «Бясплоднай зямлі» — як Першая сусветная вайна, абясплодзіць зямлю літаратуры.

## ЭЛІЁТ НА ДАЛОНІ

Кніга **«Вершы і паэмы»** не зробіць вас спецыялістам па біяграфіі ды творчасці **Томаса Эліёта**, не пазнаёміць яна і з усімі вершамі, паэмамі, эсэ аўтара. Ды, думаецца, гэта і не патрэбна — спецыялісты звычайна аддаюць перавагу іншым шляхам працы з тэкстамі, дый карыстаюцца імі пры гэтым зусім не перакладамі. Але і цалкам «прафанным» выданне таксама не назавеш: яму ўласцівыя рысы, звычайна характэрныя для добрага зборніка, які мае на мэце шырэй, глыбей і дакладней, чым у агульных рысах, прадставіць чытачу творчы партрэт пэўнага аўтара. Таму можна сцвярджаць, што кніга дазволіць прасачыць знакавыя этапы жыцця і творчасці Томаса Эліёта, выявіць асноўныя рысы яго паэзіі і, што асабліва важна, дапаможа адчуць няўрымслівы дух аднаго з самых яркіх і значных паэтаў XX ст.




Гэтае выданне будзе карысным як новым прыхільнікам паэзіі Эліёта, так і даўнім аматарам яго творчасці. Адметна тое, што ў якасці ўкладальніка кнігі выступіў Ян Прабштэйн — знаны паэт, літаратуразнаўца, выдавец, які з 1989 года жыве ў Нью-Ёрку, дзе выкладае англійскую і амерыканскую літаратуру. Важна, што ў кнізе Т. С. Эліёта «Вершы і паэмы» змешчаны грунтоўны навуковы апарат: тут ёсць досыць вялікая і падрабязная прадмова, дзе распавядаецца пра жыццёвы і творчы шлях аўтара, а таксама каментарыі да кожнага з твораў. Асабліва значна, што пры іх складанні навуковец кіраваўся самымі сур'ёзнымі крыніцамі. Гэта, у прыватнасці, работы англійскіх і амерыканскіх літаратуразнаўцаў, слоўнік «Міфы і народы свету» (які дапамагае расшыфроўваць, дэкадзіраваць уласную міфалогію пісьменніка) і, натуральна, аўтарскія заўвагі Эліёта да паэм, яго лісты і сшыткі. Каментарыі не толькі дапамогуць лепш зразумець твор, але і распавядуць пра гісторыю яго напісання, месца ў шэрагу іншых работ паэта.

Мне ж асабліва імпануе той факт, што ў выданні сабраныя пераклады розных аўтараў: самога Яна Прабштэйна, Андрэя Сяргеева (чые перастварэнні амерыканскай паэтычнай спадчыны пачатку XX ст. лічацца класічнымі) і Віктара Тапарова (ён таксама вядомы як надзвычай таленавіты крытык і публіцыст). Больш за тое, укладальнік не выбірае адзін з варыянтаў перакладу пэўнага твора, а прапануе некалькі версій, падаючы іх паслядоўна. Такім чынам, чытач, карыстаючыся і арыгіналам верша (шкада, што ён не падаецца паралельна з перакладам), можа параўноўваць ступень трансфармацыі аўтарскай думкі, выказанай сродкамі іншай мовы, дакладнасць, лагічнасць і абгрунтаванасць падбору рыфмаў і тропаў, характэрных ужо для рускай мовы.

> *Некаторы час іх знаёмства было досыць павярхоўным, але праз два гады, калі «Бясплодная зямля» і «Уліс» фактычна ўзарвалі ўсе літаратурныя каноны, пісьменнікі сталі досыць добрымі сябрамі. Эліёт шукаў у Джойса падтрымкі пасля расстання з жонкай, а Джойс, у сваю чаргу, практыкаваўся ў стварэнні літаратурных пародый… на аснове трыумфальнай паэмы сябра.*

Укладальнік прапаноўвае чытачу класічны метад прадстаўлення паэзіі Эліёта, дзе ў аснову пакладзены храналагічны прынцып. Такім чынам, мы пачынаем знаёмства з маладым аўтарам, які дэбютуе паэтычным зборнікам «Пруфрок і іншыя назіранні», і развітваемся з ужо знаным пісьменнікам, перагарнуўшы апошнюю старонку яго кнігі «Папулярная навука пра котак, напісаная старым апосумам».

Дарэчы, цікавы парадокс: пераязджаючы з ЗША ў Еўропу ў 1914 годзе, Томас Эліёт імкнуўся, як ён сам прызнаваўся, «ратавацца ад масавай культуры», якая ўжо пачынала панаваць у Новым Свеце. А ў 1927 годзе ён змяніў веру і афіцыйна стаў грамадзянінам Вялікабрытаніі, нават абвясціў сябе «класіцыстам у літаратуры, раялістам па палітычных поглядах і англа-католікам па рэлігійным веравызнанні». Ды здарылася так, што пісьменнік ужо пасля смерці ўскосна спрычыніўся да развіцця масавай культуры — праз «Папулярную навуку пра котак…». Так, у 1981 годзе рэжысёр Эндру Лоід Уэберператварыў гэты зборнік у мюзікл «Коткі». Прэм'ера адбылася ў Лондане, але найбольшага поспеху мюзікл дасягнуў на нью-ёркскім Брадвеі. Шоу стала адным з самых папулярных і запатрабаваных у Штатах і ў іншых краінах, а канкурэнцыю яму праз шэсць гадоў здолеў скласці толькі іншы мюзікл гэтага ж рэжысёра — «Прывід оперы».

## НОВАЯ «АДЫСЕЯ»




**Джэймс Джойс** упісаў сваё імя залатымі літарамі ў сусветную гісторыю дзякуючы перш за ўсё раману **«Уліс»**. І гаворка ў кнізе ідзе зусім не пра шматлікія прыгоды цара старажытнагрэчаскай Ітакі, хоць часам у ёй пазнаюцца выштанчаныя рэмаркі і адсылкі да эпічнай паэмы Гамера. Вядома, што ў першай версіі рукапісу рамана Джойс нават выкарыстаў назвы раздзелаў «Адысеі».

Нягледзячы на сюжэтную прастату, «Уліс» змяшчае вялікую колькасць гістарычных, філасофскіх, культурных і літаратурных аспектаў. Эрудзіраваны чытач адразу заўважыць, як аўтар часам парадзіруе, а часам «падрабляе» літаратурныя стылі, жанры розных эпох і стылёвыя асаблівасці твораў іншых пісьменнікаў.

У аснову «Уліса» пакладзена апісанне аднаго дня з жыцця абывацеля Леапольда Блума. 16 чэрвеня 1904 года ў Дубліне (Ірландыя) галоўны герой мае звычайныя чалавечыя клопаты. Гэта праца, наведванне кафэ, пахаванне. Але ж акрамя шараговых падзей у гэты дзень адбываецца і прыемнае знаёмства з маладым настаўнікам Стывенам Дэдалам (у пэўнай ступені аўтабіяграфічным персанажам). Праз гэтую сустрэчу праяўляецца асноўная тэма рамана — узаемаадносіны «бацька — сын», дзе Блум вобразна выступае першым, а Дэдал — другім.

Спачатку раман выдаваўся часткамі з 1918 па 1920 год у ЗША, а цалкам пабачыў свет у 1922 годзе ў Францыі. Кур'ёзны выпадак адбыўся, калі чытачка палічыла абразлівым адзін з эпізодаў кнігі і падала скаргу ў суд. У выніку часопіс, у якім выйшаў скандальны раздзел «Уліса», прайграў судовую справу і адмовіўся ад далейшай публікацыі твора. Яшчэ цягам дзесяці год выдавецтвы ЗША пабойваліся брацца за раман менавіта з-за гэтага выпадку. Тэлеграма з навіной пра судовую справу была адасланая Джойсу, на што ён саркастычна заявіў: паколькі з'явіліся такія праблемы з выданнем рамана ў ЗША, то на яго радзіме, у Ірландыі, «кніга зможа выйсці толькі праз тысячу год». Аўтар часткова меў рацыю: «Уліс» выйшаў у Дубліне толькі ў 1939 годзе.

Сёння Джэймс Джойс з'яўляецца адным з самых папулярных англамоўных празаікаў, а «Уліс» у 1998 годзе ўзначаліў спіс «100 лепшых раманаў Найноўшай бібліятэкі» па версіі англійскага выдавецтва *Modern Library*. Па ўсім свеце аматары творчасці Джойса 16 чэрвеня адзначаюць Дзень Блума (свята атрымала назву па імені галоўнага героя), праводзяць чытанні, а ў Дубліне ладзяць вандроўку, паўтараючы маршрут галоўных герояў твора. На вуліцах горада нават можна знайсці памятныя знакі, прысвечаныя раману, яны ў некаторай ступені і дапамагаюць чытачу арыентавацца.

Значным плюсам новага расійскага выдання «Уліса» з'яўляецца прысутнасць пад вокладкай як самога рамана ў якасным перакладзе, так і разгорнутых каментарыяў да яго раздзелаў, зробленых вядомым перакладчыкам Сяргеем Харужым. Дзякуючы памайстэрску складзенаму тэксту гэты твор можна чытаць неадноўчы, смакаваць багатыя жанравыя прыёмы і знаходзіць новыя алюзіі і рэмінісцэнцыі на творы класікаў сусветнай літаратуры.

Так што не забудзьцеся наступным днём 16 чэрвеня прыгадаць Джэймса добрым словам і адзначыць Дзень Блума. Калі не атрымаецца зрабіць гэта ў Дубліне, то можна ўтульна ўладкавацца на канапе з томікам адной з самых адметных кніг XX стагоддзя.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**Вячка КРАСУЛІН**

# Хто такі Шубуршун?

Кожнага без выключэння, хто бярэ ў рукі новую кнігу Алеся Карлюкевіча «Прыгоды Шубуршуна», што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», цікавіць пытанне: хто ж такі Шубуршун? І кожнаму ён уяўляецца па-свойму, таму што персанаж, зразумела, створаны фантазіяй пісьменніка. А камусьці герой новай кнігі ўяўляецца такім, якім яго ўвасобіла таленавітая мастачка Марыя Каратаева.

І сапраўды, ужо з першай старонкі казкі ствараецца партрэт Шубуршуна: «Маленькі, бы кнопка, і такі ж кругленькі, з дзёрзкім вострым носікам…» І нават даведваемся, што Шубуршун можа злавацца, і тады «поўсць яго тырчала ў розныя бакі, вочы рабіліся вялікімі». Ёсць апісанне і лагоднага Шубуршуна: «Шубуршун надзімаўся і з тоненькай кропачкі ператвараўся ў сапраўднага калабка. Вочкі задаволена прыжмурваў і толькі ўсміхаўся іх зялёнымі кропачкамі, а носік востранькі станавіўся шырэйшым і чырванеў».



Вы хочаце даведацца, хто ці што прымушала Шубуршуна злавацца? А гэта яго лепшая сяброўка Вераніка, калі прыносіла са школы шасцёркі, пяцёркі і чацвёркі.

Як атрымалася, што Вераніка і Шубуршун пасябравалі? «Ля невялікай лясной рачулкі Балачанкі яна некалі і знайшла Шубуршуна. Дакладней — ён сам прыляпіўся да кветак, якіх Вераніка назбірала… цэлы букет. Спярша дзяўчынка не заўважыла дробненькую чорную кнопачку. А пасля нават і спужалася, калі Шубуршун загаварыў, але ж пасябравалі, даверліва расказалі адзін аднаму пра сябе, здавалася б, усё, што толькі маглі».




Але як так здарылася, што лепшыя сябры пасварыліся? Ды так, як гэта звычайна адбываецца паміж самымі блізкімі людзьмі (хоць Шубуршун, вядома ж, не быў чалавекам). Пагарачыліся, нагаварылі непрыемных слоў, пакрыўдзілі адзін аднаго. І ў выніку прагучала фраза: «Я вяртаюся туды, дзе і раней жыў!»

І вось пачынаецца поўнае неверагодных прыгод падарожжа. Шубуршун пакідае Мінск. Праспект Незалежнасці… Парк Чалюскінцаў, Батанічны сад, Дзіцячая чыгунка. Нарэшце ён трапляе за горад. А там здараецца непрадбачанае… і нашага адважнага вандроўніка нясуць хвалі Свіслачы да родных мясцін.

У любой сітуацыі Шубуршун застаецца спакойным і разважлівым. Так, для падарожжа па рацэ ён змайстраваў сабе невялічкую лодку. «На беразе Шубуршун звярнуў увагу на ладную сасновую трэску. Малеча, разглядаючы яе, ужо бачыў для сябе човен. Засталося прыдумаць толькі, як вёсельцы прымацаваць. Праўда, спярша іх трэба было б з нечага зрабіць. Малеча пачаў прыглядацца да раскіданых па беразе розных трэсачак. І выхапіў позіркам цэлую гурбу яловай ігліцы. Выбраў дзве, як яму падалося, найбольш трывалыя іголкі і панёс іх да сваёй сасновай лодачкі. Ці — да трэсачкі… Не, лодка Шубуршуну трапілася самая што ні ёсць адмысловая — шырокая, з увагнутым днішчам і невялікімі борцікамі».

Далей старонкі кнігі апавядаюць пра цікавыя знаёмствы Шубуршуна падчас вандроўкі. На сваім шляху ён сустракае павучка-парашутыста, дэльфіна, старога гіганцкага асятра. Праўда, некаторыя з гэтых знаёмстваў адбываюцца ў сне!

Самай важнай і карыснай для маленькага падарожніка была сустрэча з Дзядулем Фенолагам, які не толькі абараніў Шубуршуна ад навальніцы, але і даў шмат карысных парад, навучыў разумець некаторыя прыродныя з'явы і нават рабіць прагнозы на будучае. Ну вось, напрыклад… «Калі вясна цёплая выдаецца, значыць, гароднiна ўраджай добры прынясе. І вавёрак у лесе ўжо шмат. Таксама добрая прыкмета. На ўраджай паказвае. Журавы з выраю па два і тры ляцяць, а гэта — ізноў на ўраджай…»

Як і звычайна ў сваіх казках, Алесь Карлюкевіч называе дакладныя геаграфічныя аб'екты: рэкі Свіслач, Балачанка, вёску Дукора. А разам з галоўным героем кнігі чытач можа ўспомніць і ўрокі геаграфіі.

Дарэчы, жывучы ў Веранікі, Шубуршун вельмі добра вывучыў гэту навуку і марыў пабываць у розных краінах, якія бачыў у школьным атласе сваёй сяброўкі. Гэта дапамагло яму выпрацаваць уласную методыку сонатэрапіі. Як вядома, некаторыя людзі, каб хутчэй заснуць, лічаць да ста. А наш Шубуршун вырашыў лічыць краіны, па якіх яны з Веранікай марылі падарожнічаць: Аўстралія, Балівія, В'етнам, Грэцыя, Егіпет…

Думаю, «Прыгоды Шубуршуна» было б карысна пачытаць не толькі дзецям, але і дарослым, каб крыху адпачыць ад паўсядзённых клопатаў. А яшчэ лепш — чытаць казкі ўсёй сям'ёй! Адкрыю сакрэт: прыгоды Шубуршуна на гэтым не заканчваюцца. Алесь Карлюкевіч працуе над новымі казкамі, якія ўвойдуць у чарговую кнігу пад назвай «Новыя прыгоды Шубуршуна».

**Вольга КУХАРСКАЯ**

# «Узараўшы пласты стагоддзяў»

Чарговым арыгінальным выданнем парадаваў дзяцей Уладзімір Мазго. Кніга «Адвечныя скарбы Радзімы», выпушчаная «Выдавецкім домам «Звязда», незвычайная: пад адной вокладкай сабраны апавяданні і вершы. Адметнасць яе і ў тым, што яна напісана ў духу часу, калі ў грамадстве павялічваецца цікавасць да беларускай мінуўшчыны. Дый падзагаловак адпаведны: «Падарожжа па айчыннай гісторыі».

Што гэта і сапраўды свайго роду падарожжа па даўняй Беларусі, упэўніваюць і самі творы: яны напісаныя з пачуццём замілавання Бацькаўшчынай.

З цікавасцю з кнігай пазнаёмяцца вучні малодшых класаў. Дый старшакласнікі таксама не застануцца абыякавымі. А яшчэ настаўнікі, выхавальнікі. І ўвогуле ўсе тыя, хто неабыякавы да нацыянальнай гісторыі, хто разумее, што добрае веданне яе дапамагае і лепшай арыентацыі ў сённяшнім дні, бо даўніна — гэта ж, па сутнасці, тыя вытокі, тая крыніца, якая сокамі сваімі жывіць сучаснасць, адначасова дапамагаючы ўпэўнена глядзець у дзень заўтрашні.

Уладзімір Мазго, разумеючы, што ахапіць неахопнае проста немагчыма, прыадкрывае толькі некалькі старонак беларускай гісторыі, але яны з'яўляюцца па-свойму знакавымі, сведчаць пра тое, што беларусы і ў мінулыя часы ішлі, вобразна кажучы, у нагу з Еўропай. У гэтым, прынамсі, упэўніваешся, калі знаёмішся з апавяданнем «"А ён вірыў, уласны Лейпцыг…", альбо Вялікі Ганненскі кірмаш у Зэльве».

Як вядома, нямецкі горад Лейпцыг здаўна славіўся ў свеце сваім вялікім кірмашом. Ды, аказваецца, з Лейпцыгам магло паспрачацца мястэчка Зэльва. «А ўсё пачалося з таго, што 20 мая 1720 года вялікі князь літоўскі і польскі кароль Аўгуст II Моцны выдаў князям Сапегам прывілей на правядзенне штогадовых кірмашоў. І невялікае па тым часе мястэчка Зэльва, што на Гродзеншчыне, пачало ператварацца ў буйны цэнтр міжнароднага гандлю». Туды з'язджалася каля пяці тысяч купцоў са шмат якіх краін Еўропы. Увайшоў гэты кірмаш у гісторыю як Ганненскі, таму што быў «названы ў гонар святой Ганны». Гандаль жа штогод доўжыўся «ажно цэлы месяц: з 25 ліпеня па 25 жніўня». Па прыездзе купцоў «насельніцтва Зэльвы павялічвалася ў некалькі разоў». Да ўсяго ж на кірмаш збіраліся «рамеснікі — аптэкары, бакалейшчыкі, майстры гадзіннікаў, пазалотчыкі, пераплётчыкі, разьбяры па дрэве і косці, токары, шаўцы, якія тут жа прымалі і выконвалі заказы». Дый артысты выступалі, а яшчэ «з Парыжа купцы прывезлі сюды гульню ў рулетку, якую мясцовыя жыхары празвалі "фартунай"».

Адно толькі апавяданне, але як шмат інфармацыі дае! Дарэчы, гэтай унікальнай з'яве, што дзякуючы зэльвенскім уладам вернута з небыцця, У. Мазго прысвяціў верш «Вяртанне Вялікага Ганненскага кірмашу», які заканчваецца такімі радкамі:

*Глыбока ўзараўшы пласты*
*Стагоддзяў,*
*Там конік з разбегу*
*У зэльвенскім скверы застыў,*
*Чакаючы князя Сапегу.*



Таму і застыў, што «да 750-гадовага юбілею Зэльвы ў цэнтральным гарадскім скверы адкрылі помнік каню». Як напамінак пра той даўні Ганненскі кірмаш, на якім гандлявалі і коньмі.

І ў іншых выпадках У. Мазго, вяртаючыся ў гады даўнія, робіць гэта двойчы: спачатку расказваецца пра пэўную падзею ці з'яву ў апавяданні, змешчаным у першай частцы кнігі — «Паясы беларускай красы», а потым у другой частцы — «Восьмы цуд свету» — гаворыць пра гэта вершам. Дзякуючы кнізе чытачы пазнаёмяцца з таямніцамі старажытнага Барэсця, зазірнуць у Сынкавіцкую царкву-крэпасць, даведаюцца пра Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, знакамітыя слуцкія паясы, прыадкрыюць для сябе старонкі жыцця і творчасці Напалеона Орды.

Аднак, думаецца, асабліва захапляльным пасля знаёмства з Зэльвенскім кірмашом, другім у Еўропе пасля Лейпцыгскага, будзе падарожжа ў даўні Дрыбін. Апавяданне невыпадкова называецца «Сталіца шапавалаў»: «Тутэйшыя ўмельцы вызначаліся высокім майстэрствам. Валенне шапак і дало назву — дрыбінскія шапавалы». Але дрыбінцы з воўны выраблялі не толькі галаўныя ўборы, а і валёнкі, лямец для конскай вупражы. Дый сваёй мовай карысталіся, каб захаваць у сакрэце тое, пра што гаварылі. Мова ж гэтая называлася «катрушніцкі лемязень», налічвала ўсяго каля 915 слоў, але шапавалам было дастаткова.

Гаворка ў кнізе вядзецца нязмушана, усё лёгка запамінаецца. Хочацца хутчэй перагарнуць чарговую старонку, каб прачытаць яшчэ пра штосьці новае. Істотны і такі момант. Аўтар перакананы: «Уся аперазана, // Нібыта паясамі, // Стагоддзяў галасамі // Любімая Айчына». З гэтай перакананасці, з любові да Бацькаўшчыны і нарадзілася кніга «Адвечныя скарбы Радзімы», якая адначасова атрымалася і маляўнічай, з густам аформленай, бо мастак Ігар Гардзіёнак, душой адчуўшы ўсё тое, што прамовіў пісьменнік, прапусціў гэтыя ўражанні праз свае малюнкі. Яны робяць новую кнігу У. Мазго яшчэ больш прыцягальнай для чытача.

**Юрась САДОВІЧ**

# Справу вядуць Брык і Шуся




*Сівец, Т. М. Куды прапала малпа Маня: Дэтэктыўнае агенцтва «Брык і Шуся»: для дзяцей мал. шк. узросту/ Таццяна Сівец; маст. Аксана Аракчэева. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013. — 40 с.*

Чаго не хапае ў дарослым жыцці, калі на цябе валіцца процьма праблем і ўсялякіх клопатаў? Камусьці не хапае здароўя: яно страчана за папярэднія гады. Камусьці нестае грошай. А хтосьці не здольны стрымліваць, праяўляць розум у вызначэнні тых ці іншых прыярытэтаў… Словам, усё наша жыццё складаецца з цяжкасцей рознага фармату. Зазірнуўшы ў чарговую кнігу Таццяны Сівец пра Брыка і Шусю, я зразумеў, што дарослым не хапае ўсяго толькі здольнасці фантазіраваць. Якраз прыдумка, фантазійны склад мыслення і кіруюць героямі таленавітай пісьменніцы. Першая кніга называлася «Брык і Шуся шукаюць лета» (яе нядаўна перавыдалі ў Выдавецкім доме «Звязда»). З яе чытач пазнаёміўся з двума сябрамі, якім надакучыла быць адзінокімі і самотнымі. І яны выправіліся на пошукі лета. Вандроўка дапамагла Брыку і Шусі зрабіць нямала адкрыццяў.

І вось у новай кнізе нашы героі стварылі дэтэктыўнае агенцтва «Брык і Шуся». А ўсё пачалося…

«Сябры зірнулі ніжэй і ўбачылі на парозе…

— Я не сурок, не хамяк і не вавёрка! Ясна? Я — чарнахвосты лугавы сабачка. Ясна? Клас млекакормячых, атрад грызуны, сямейства вавёркавых. Ясна?

Госць дзелавіта агледзеўся па баках, важна надзьмуў шчокі і прамовіў:

— Я ўпаўнаважаны ўсім заапаркам сустрэцца з вядомымі дэтэктывамі — Брыкам і Шусяй. Гэта вы?

— Так, — асцярожна пачаў Брык, — мы з Шусяй — гэта мы, але ніякіх дэтэктываў не ведаем!

— Зусім, — пагадзілася Шуся.

— Нічога не разумею, — замітусіўся звярок. — Вы Брык і Шуся?

— Мы.

— Вы лета шукалі?

— Так, але ж…»

Так Брык і Шуся даведаліся, што яны сталі дэтэктывамі. І перш-наперш узяліся за пошук малпачкі Мані. Што было далей — пра гэта вы даведаецеся з новай казачнай кнігі Таццяны Сівец. Галоўныя дэтэктывы-шукальнікі Брык і Шуся — вялікія крэатыўшчыкі, добра ведаюць сваю пошукавую справу і часам любяць павесяліцца. Апошняе — таксама добрая адметнасць кнігі, якая, несумненна, прыцягне ўвагу і юных, і дарослых чытачоў.

А яшчэ ў кнізе Таццяны Сівец «Куды прапала малпа Маня: Дэтэктыўнае агенцтва "Брык і Шуся"» ўражваюць малюнкі. Мастачка Аксана Аракчэева настолькі пастаралася, што падчас чытання складваецца ўражанне, быццам час ад часу менавіта яна дапамагае Брыку і Шусі весці расследаванне, спрыяе ў пошуку Мані.

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

# Аператыўны малюнак

ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ ВЫХАДУ ПЕРШАГА ДРУКАВАНАГА ПЛАКАТА

**Выстаўка беларускага плаката 1960 — 1990-х гадоў з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея і Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі праходзіць у Палацы мастацтва.**



*Уладзімір Крукоўскі «У бітвах за волю, у бітвах за долю», 1980 г.*

Плакатнае мастацтва не без падставы лічыцца самым аператыўным. Перш чым заняць пачэснае месца ў музейнай калекцыі, плакат праходзіць апрабацыю на вуліцах і плошчах, заклікае, папярэджвае, тлумачыць...

Беларускі плакат мае сваю 100-гадовую гісторыю. Але нараджаўся гэты від мастацтва яшчэ ў XVI — XVII стагоддзях. Панегірычныя гравюры, якія інфармавалі пра навуковыя ці іншыя дыскусіі, друкаваліся з тэкстам. Сярод першых гравюр-плакатаў варта адзначыць работу Ф. Скарыны «Панегірык братоў Скарульскіх», выдадзеную ў 1604 годзе ў Нясвіжы Т. Макоўскім.

Заснавальнікамі плаката былі К. Каганец, П. Гуткоўскі, Я. Драздовіч, А. Тычына. Аўтарам першага плаката ў друкаваным выглядзе, які выйшаў у 1913 годзе і быў прысвечаны Першай краёвай выстаўцы хатняга вырабу і народнага штукарства ў Вільні, быў Фердынанд Рушчыц.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны актыўна працавалі ў дадзеным жанры З. Азгур, Я. Зайцаў, Б. Звінігародскі, М. Гуціеў, А. Волкаў. Тэмы пакутніцтва пад фашысцкай акупацыяй, заклiку да помсты, веры ў перамогу ўздымаліся ў сатырычным выданні «Раздавім фашысцкую гадзіну», дзе супрацоўнічалі мастакі І. Ахрэмчык, Л. Брадаты, В. Букаты, К. Елісееў і інш.

Плакатнае мастацтва актыўна развівалася і ў пасляваенны перыяд. У 1948 годзе прайшоў 1-ы Рэспубліканскі конкурс плаката. З 1960-х гадоў стварылася аўтарытэтная школа, якая надала сучаснаму мастацтву свой нацыянальны твар. Сярод вядучых майстроў, прадстаўленых на выстаўцы «100 год беларускаму плакату» ў Палацы мастацтва, імёны тых, хто ствараў секцыю плаката ў 1961 годзе: Т. Ігнаценка, І. Радунскі, У. Крукоўскі, В. Філімонаў. Пачынаючы з 1966 года ў рэспубліцы працуе «Агітплакат» (праcнаваў да канца 1980-х) Саюза мастакоў БССР, дзе ў першым шэрагу рупліўцаў былі І. Крэйдзік, В. Сакалоў, Я. Хайрулін.

На другую палову 1980 — 1990-х прыпадае ўздым плакатнага мастацтва, пра што сведчаць творы У. Жука, У. Васюка, С. Волкава, А. Кашкурэвіча, В. Філімонава, В. Смаляка, М. Стомы, К. Вашчанкі, І. Уладычыка, А. Шалюты, Л. Ліпеня, Л. Гоманава, У. Цеслера і многіх іншых.

Сённяшні плакат не страціў сваёй ролі ў нашым жыцці. На факультэце дызайну Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў адкрылася кафедра графічнага дызайну, метадалогія выкладання плакатнага мастацтва якой дала свае вынікі. Шмат маладых прадстаўнікоў гэтага жанру ў апошнім дзесяцігоддзі сталі пераможцамі міжнародных конкурсаў і біенале плаката. Плённа працуюць у гэтым напрамку А. Баранаў, Г. Лазарчык, К. Калацкая, В. Паўлава і інш.

Этапнай падзеяй назвалі выстаўку «Беларускі кінематограф 20 — 30-х гадоў ХХ ст. у кінаплакаце», якая праходзіць у Музеі гісторыі беларускага кіно. Вядома, што савецкі кінаплакат першай паловы ХХ стагоддзя прызнаны ўнікальнай мастацкай з'явай сусветнага значэння! Экспануюцца плакаты да кінафільмаў «Кастусь Каліноўскі» (1928), «Пасля вясны» (1929) і інш., створаныя «першымі чырвонымі мастакамі» таварыства «Советское кино» ў Маскве, якія дэманструюць асаблівы тып мантажнай кампазіцыі, элементаў лінейнай графікі і маляваных шрыфтоў.

На працягу апошняга стагоддзя была створана сапраўдная школа плаката з характэрнымі адзнакамі як найбольш мабільная і запатрабаваная жыццём



*Юрый Тарэеў, Уладзімір Цярэнцьеў «Да 250-годдзя з дня нараджэння В. А. Моцарта», 2005 г.*

папулярная і перспектыўная форма развіцця беларускай графікі. Дзесяцігоддзямі шліфаваўся выразны плакатны малюнак, арганічна звязаны з тэкстамі, вызначалася сімвалічная каларыстыка. Важнай адметнасцю плаката з'яўляецца яго нацыянальная праблематыка не



*Уладзімір Васюк «Да 90-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча», 1981 г.*

толькі ў тэмах, але і ў лінгвістычным характары. Сярод этапных задач, вырашаных плакатным мастацтвам, — 500-годдзе Ф. Скарыны, 100-годдзе М. Багдановіча, шанаванне роднай мовы, змаганне за чыстае асяроддзе, захаванне нацыянальнай каштоўнасці, памяць пра гістарычныя падзеі, стварэнне вобраза спартыўных, тэатральных, палітычных мерапрыемстваў і г. д.

Змяняюцца часы, тэхналогіі, выкарыстоўваюцца новыя матэрыялы — усё гэта ўлічваецца і знаходзіць творчае пераасэнсаванне ў беларускім плакаце. Дзякуючы экспазіцыі ў Палацы мастацтва можна хутка «прайсці» вялікі перыяд нашай гісторыі, лепш зразумець характар сучаснасці. Можна лічыць, што выстаўка «100 год беларускаму плакату» дае аснову планаванню цікавага альбома «Плакат ХХ стагоддзя». Праект мяркуецца распрацоўваць сумесна з Беларускім саюзам дызайнераў.

**Людміла НАЛІВАЙКА, Яўген ШУНЕЙКА**

# Вільня Рушчыца

Вялікі творца беларускага паходжання Фердынанд Рушчыц (1870 — 1936), які нарадзіўся на Міншчыне і да канца сваіх дзён жыў у маёнтку Багданаў Мінскай вобласці, з'яўляецца ўзорным дзеячам беларускага, літоўскага і польскага нацыянальнага адраджэння. Ён далучыўся да наватарскага кірунку расійскай культуры Сярэбранага веку, з'яўляючыся адным з удзельнікаў мастацкай суполкі «Мир искусства». На пачатку 1920-х гадоў быў узнагароджаны ордэнам Ганаровага Легіёна — найвышэйшай падзякай французскага народа за развіццё міжнародных культурных сувязей.

Жыццё Ф. Рушчыца — гэта сапраўдная паэма стварэння, натхнёная характам. А характам было сінонімам яго Радзімы, як малой, так і вялікай, якая ахапіла ўвесь свет. Сын датчанкі і беларускага шляхціца, ён быў носьбітам свабоды, годнасці і культуры. У Мінску Фердынанд Рушчыц вучыўся, правёў дзяцінства, не цураўся крытыкаваць горад за правінцыяльны нігілізм. Але менавіта тут у 1911 годзе ён арганізаваў першую міжнародную выстаўку сучаснага мастацтва — сімвалічнае дыханне новага стагоддзя.

Але найбольш пранікнёнай любоўю свайго сэрца адарыў мастак Вільню. Мабыць, не было тут культурнага мерапрыемства, дзе б Ф. Рушчыц не



*Плакат Фердынанда Рушчыца, 1913 г.*

удзельнічаў як арганізатар і як творца. Асабліва захапляла яго стыхія народнай творчасці. Таму мастак з вялікім задавальненнем браў удзел у афармленні розных выставак гаспадарчага характару, дзе абавязкова экспанаваліся вырабы дэкаратыўна-ўжытковага характару.

На той час яшчэ не існавала ўстойлівага тэрміна «народнае мастацтва». У верасні 1913 года у Вільні адбылася выстаўка, да якой мастак зрабіў вялікую шматколерную афішу, дзе на рускай, польскай, літоўскай і беларускай мовах быў змешчаны наступны тэкст: «Першая краёвая выстаўка хатняго выробу і народнага штукарства у Вильні».

Сам малюнак вырашаны ў выглядзе гістарычнага картуша на фоне шчыта з выявай вершніка на кані. Размешчаны атрыбуты новай культурнай эпохі: ужо не халодная зброя, а творчыя дасягненні данясуць вестку пра перамогу народнай культуры. Як сонейка, ззяе ў цэнтры літоўская прасніца з разеткавым дэкорам. Паабапал яе — каляровыя віленскія вербачкі. Усё звязана шматлікімі дэкарыраванымі паяскамі.

100 год мінула з таго памятнага верасня, калі гэты цудоўны твор ужытковай графікі аздобіў вуліцы і выставачныя залы Вільні. Пранеслася вогненнае стагоддзе, але афіша захавалася.

**Людміла НАЛІВАЙКА**

# «Жывіца» запрашае

**Народны клуб кампазітараў і паэтаў «Жывіца» адзінаццаць гадоў паспяхова дзейнічае пад эгідай Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці. Кожны жыхар Міншчыны, душа якога імкнецца да творчай дзейнасці, можа далучыцца да гэтых няўрымслівых людзей.**

Нязменным кіраўніком клуба, у складзе якога амаль 150 чалавек, з'яўляецца Ірына Карнаухава. У атмасферы добразычлівасці і творчай працы над памылкамі і ў юных дараванняў, і ў шаноўных асоб узрастае адказнасць за жывое слова, сеюцца зярняткі прыгожых пачуццяў. Штогадова клуб выдае зборнікі паэзіі, песенныя дыскі ці музычныя зборнікі, выязджае з канцэртамі і экскурсіямі ў гарады і раёны Міншчыны.

Летась, у чэрвені, завіталі на Мядзельшчыну, дзе пачало працаваць творчае аб'яднанне самадзейных паэтаў і кампазітараў. Сумесны канцэрт у раённым доме культуры паказаў: ёсць і тут свае самародкі. Дарэчы, члены многіх раённых і гарадскіх клубаў і аб'яднанняў пабывалі ў нашым клубе ў бібліятэцы імя А. С. Пушкіна.

У жніўні мы шчыра апладзіравалі паэтам, кампазітарам-спевакам клуба «Лабірынт» з г. Салігорска, ацанілі іх зладжанасць і прафесійнае майстэрства ў прадстаўленні новага паэтычнага зборніка «Души коснулось вдохновенье». На прэзентацыі зборніка сатыры і гумару, а таксама песеннага дыска 2013 года нас віншавалі члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Навум Гальпяровіч, Анатоль Зэкаў і Анатоль Смалянка. За гады існавання клуба ў яго выданнях былі змешчаны творы амаль 140 паэтаў і 37 кампазітараў.

Цяпер члены аб'яднання рыхтуюцца да творчага вечара свайго кіраўніка, Ірыны Карнаухавай, прысвечанага юбілею яе творчай і працоўнай дзейнасці.

**Тамара КАЛЯДА**

# Гісторыя дзяржавы — на паліцах

**Праз тры дні Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь адзначыць 80-годдзе з часу заснавання. 10 снежня 1933 года з мэтай аб'яднання кніжных фондаў, якія належалі народным камісарыятам, пры Доме Урада паводле пастановы Савета Народных Камісараў БССР было створана спецыяльнае аддзяленне Дзяржаўнай бібліятэкі (сённяшняй Нацыяльнай бібліятэкі Беларусі) і бібліяграфічнага інстытута БССР імя У. І. Леніна. Новую ўстанову адразу пачалі называць Урадавай бібліятэкай.**

Фота Кастуся Дробава



*Дырэктар Прэзідэнцкай бібліятэкі Сяргей Квачан і загадчык сектара аддзела фарміравання фондаў Наталля Мізаўцова абмяркоўваюць новыя кніжныя паступленні.*

## ПА КРУПІНКАХ

Як бачна, Урадавая бібліятэка стваралася не на пустым месцы. Па распараджэнні СНК яе ўключаюць у лік арганізацый, якія атрымліваюць абавязковы экзэмпляр літаратуры, што выходзіць у краіне. У той час гэта была адкрытая навуковая ўстанова для абслугоўвання органаў улады і кіравання. На працягу васьмі дзесяцігоддзяў кніжніца спецыялізавалася ў асноўным на літаратуры па праве, палітыцы, эканоміцы, дзяржаўным кіраванні, парламентарызме, статыстыцы.

Фота Кастуся Дробава



*У кніжнай зале.*

— У сакавіку 1938 года кніжнай скарбніцы прысвойваецца імя А. М. Горкага, — распавёў дырэктар Прэзідэнцкай бібліятэкі Сяргей Квачан. — У нашай галіне лічыцца нармальнай практыка, калі адна ўстанова спрыяе адкрыццю іншай. Калісьці Урадавая ўзнікла пад крылом «Ленінкі», потым сама пасадзейнічала таму, каб адчыніла дзверы Рэспубліканская тэхнічная бібліятэка, з якой і падзяліліся часткай фонду, а таксама іншыя родныя ўстановы. У 1994 годзе са з'яўленнем у Беларусі інстытута Прэзідэнцтва Урадавая бібліятэка была перайменавана ў Прэзідэнцкую.

Што датычыць даваеннага перыяду, то пра дзейнасць установы вядома няшмат. Многія дакументы былі знішчаны. Тым не менш некаторыя гістарычныя факты захаваліся. Прынамсі, тое, што ўстанова штодзённа працавала да 23.45, мела вялікую колькасць чытачоў і лічылася месцам, куды ходзяць пастаянна і з задавальненнем. Вакол кніжнай скарбніцы аб'ядналася ўнікальнае бібліятэчнае згуртаванне. Пасля вайны яго члены праводзілі сустрэчы са знакамітымі пісьменнікамі і паэтамі: Канстанцінам Сіманавым, Максімам Галодным, Самуілам Маршаком, Петрусём Броўкам, Максімам Танкам, Іванам Шамякіным, Іванам Мележам, Янкам Брылём…

Дарэчы, на 22 чэрвеня 1941 года Урадавая бібліятэка налічвала 250 тысяч адзінак захоўвання. На жаль, яе фонд не паспелі вывезці. На Нюрнбергскім працэсе выступаў з дакладам яфрэйтар Абель, які падчас акупацыі наведаў у Мінску ўсе кніжныя скарбніцы. Дык ён зазначаў, што Урадавая поўнасцю знішчана. Сапраўды, над уваходам у яе памяшканне вісела драўляная таблічка з надпісам на нямецкай мове: «Рэквізавана на карысць узброеных сіл». Але што канкрэтна было вывезена і куды, — невядома. Пасля даведаліся: у першыя дні акупацыі некаторыя супрацоўнікі, нават нягледзячы на тое, што ў адным з памяшканняў тырчэла з падлогі авіябомба, прыходзілі разбіраць фонды. Нямецкі афіцэр паспрабаваў іх прагнаць, але яны прыйшлі на другі дзень. Афіцэр махнуў рукой…

Частку самых каштоўных выданняў бібліятэкары ўзялі на захаванне дамоў.

— Бібліятэка зноў адкрылася 8 ліпеня 1944 года, на чацвёрты дзень пасля вызвалення Мінска, — зазначае намеснік дырэктара Прэзідэнцкай бібліятэкі Людміла Навумава. — Каб узнавіць фонды, яе супрацоўнікі ездзілі па ўсім Савецкім Саюзе і вярталі дамоў экзэмпляры, якія да вайны абавязкова адпраўлялі ў нацыянальныя бібліятэкі саюзных рэспублік. Нямала нашых дакументаў захавалася ў Закаўказзі. Вельмі дапамаглі калегі з Азербайджана, даслаўшы шмат асобнікаў на беларускай мове. Таму даваенны фонд, як ні дзіўна, быў няблага ўзноўлены. Выручылі і маскоўскія бібліятэкі, дзе таксама меліся нашы выданні. У выніку літаральна за пяць гадоў фонды дасягнулі даваеннага ўзроўню.

## РАРЫТЭТЫ З НЯСВІЖА

«Прыходзілі» кнігі і іншымі шляхамі. Ужо пасля вызвалення Польшчы старшы лейтэнант Смусь паведамляў у сваім данясенні, што на поўдзень ад горада Познань у сутарэннях завода знойдзены кнігі са штампамі Урадавай бібліятэкі Беларусі. Такім чынам частка фонду вярнулася з фашысцкага палону. Гэтыя выданні маюць па тры пячаткі: даваенную, нямецкую і пасляваенную. Па іх можна прасачыць лёс кнігі.

— Агульнавядома: немцы рабавалі ўсю Еўропу, — заўважае Сяргей Квачан. — Калі савецкія войскі вызвалілі заходнееўрапейскія краіны, захопленыя немцамі кнігі пачалі паступаць у Беларусь эшалонамі. У двары Дома Урада была чыгуначная ветка, сюды вагоны і прыганялі. А бібліятэкары іх разбіралі. Вось так да нас трапілі кнігі з Тургенеўскай бібліятэкі ў Парыжы. Усе выданні на рускай мове і маюць адпаведныя штампы. У 2004 годзе да нас завітала жыхарка Вялікабрытаніі Патрысія Кенедзі, якая мае дачыненне да знакамітага роду. Яна цікавілася лёсам некаторых еўрапейскіх бібліятэк, разрабаваных падчас другой Сусветнай вайны. Даследчыца вельмі здзівілася, калі даведалася, што частка тургенеўскага збору знаходзіцца ў нас. Нават ёсць выданні са штэмпелямі, якіх яна падчас сваіх даследаванняў не сустракала. Напрыклад, кнігі з пячаткамі Рускага ўніверсітэта ў Лазане, што ў Швейцарыі. Потым гэтыя выданні ўвайшлі ў Тургенеўскую бібліятэку.

Сёння ў Прэзідэнцкай бібліятэцы можна пазнаёміцца з кнігамі з Гродзенскай жаночай гімназіі, якая працавала за польскім часам і была разрабавана падчас вайны. Маюцца асобнікі на рускай мове з французскай бібліятэкі Сямёна Пятлюры, якую таксама расцягнулі па частках у гады Другой сусветнай вайны. Але, на мой погляд, самае цікавае ў гісторыі кніжнай скарбніцы — той факт, што ў 1939 годзе ў ёй знаходзілася самая вялікая частка — каля 3000 асобнікаў — бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі іх прывезлі ў Мінск і аддалі Урадавай бібліятэцы. А хутка выйшла спецыяльная пастанова, згодна з якой унікальны збор павінен належаць Акадэміі навук БССР. Але калі ішла перадача, супрацоўнікі па невядомай цяпер прычыне не знайшлі ў сваім фондзе каля 200 кніг. Такім чынам радзівілаўскія выданні і засталіся ў фондах Урадавай.

— Ведаючы, што мы валодаем такім багаццем, нас запрасілі ўдзельнічаць у Праграме ЮНЕСКА «Памяць свету», — паведаміла Людміла Навумава. — Праект, які зацікавіў таксама Расію, Украіну, Літву і Польшчу, накіраваны на зберажэнне дакументальнай спадчыны. Усе радзівілаўскія выданні апісаны і ўваходзяць у агульны каталог віртуальнай бібліятэкі. Каб забяспечыць захаванасць арыгіналаў, кнігі пераводзяцца ў электронны фармат. Тым самым забяспечваецца доступ для шырокага кола чытачоў.

Як зазначылі мае суразмоўцы, у такім выпадку ў нашай краіне будзе створаны максімальна поўны збор разрозненай Радзівілаўскай бібліятэкі. Вядома, што было тры бібліятэкі Радзівілаў. Калі царскія ўлады ў чарговы раз канфіскоўвалі ў непакорлівых магнатаў маёмасць, то вывозілі ўсё ў Санкт-Пецярбург. Цяпер найбольшая колькасць выданняў з гэтых збораў знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Расіі. Неблагім фондам валодаюць палякі. Шмат кніг захоўваецца ў Вільнюсе.

— Кожны спецыяліст, які бярэ ў рукі кнігу з цікавай гісторыяй, шукае штосьці сваё, — заўважае дырэктар Прэзідэнцкай бібліятэкі. — Для бібліятэкара цікавыя ўсе паметкі, пячаткі, штампы, экслібрысы. Яны становяцца прадметам вывучэння, даследавання і дазваляюць узнавіць тыя ці іншыя старонкі гісторыі.



СБОРНИКЪ
ДѢЙСТВУЮЩИХЪ ТРАКТАТОВЪ,
КОНВЕНЦІЙ и СОГЛАШЕНІЙ,
заключенныхъ
РОССІЕЙ СЪ ДРУГИМИ ГОСУДАРСТВАМИ
и
касающихся различныхъ вопросовъ частнаго международнаго права.
ТОМЪ IV.
С.-ПЕТЕРБУРГЪ.
1896.

*Кніга, вызваленая з «палону».*

## АДКРЫТАЯ ДЛЯ ЎСІХ!

Сёння па аб'ёме фондаў Прэзідэнцкая бібліятэка трэцяя ў Беларусі — 1,5 мільёна экзэмпляраў. Наперадзе толькі «Нацыянальная» і «Акадэмічная», маецца на ўвазе Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Штогод «Прэзідэнцкая» абслугоўвае каля 33 тысяч чалавек. Частыя госці — студэнты Белдзяржуніверсітэта і БДПУ імя М. Танка. Павялічваецца колькасць віртуальных карыстальнікаў.

— Усе выданні, якія выпускаюцца на тэрыторыі Беларусі, абавязкова атрымліваем у двух экзэмплярах, — падкрэсліла Людміла Навумава. — Калі рэзідэнты нашай краіны друкуюць штосьці за межамі рэспублікі, іх прадукцыя таксама прыходзіць у адным экзэмпляры. Мы заўсёды імкнуліся, каб фонд быў максімальна сфарміраваны, таму ў нас прадстаўлены ўсе галіны навуковай і дзяржаўнай дзейнасці. Дарэчы, Прэзідэнцкая бібліятэка Беларусі, у адрозненне ад падобных кніжніц іншых краін, адкрытая для ўсіх наведвальнікаў. Вось і калектыў усё больш набывае мужчынскі твар! Прадстаўнікі моцнага полу працуюць праграмістамі, аператарамі капіравальна-размнажальнай тэхнікі, а яшчэ — бібліятэкарамі. Цікавы гістарычны факт: у свой час працавалі бібліятэкарамі Іван Крылоў і Міхаіл Булгакаў, бо гэта была мужчынская прафесія.

Даволі шырока ва ўстанове выкарыстоўваюцца інфармацыйныя тэхналогіі. Ёсць свой сайт, электронны каталог, па які можна замовіць кнігу, седзячы дома за камп'ютарам. За амаль сімвалічныя грошы аказваюць платныя паслугі. Напрыклад, такія, як электронная дастаўка: замоўленае чытачом выданне скануюць, пераводзяць у электронны выгляд і перасылаюць заказчыку.

— Наша мэта не ў тым, каб атрымаць прыбытак, а каб чытач быў задаволены, — падкрэслівае Сяргей Квачан. — Бібліятэкі ніколі не былі і, упэўнены, не стануць камерцыйнымі ўстановамі. Вялікай папулярнасцю карыстаецца такая паслуга, як «Спытай бібліятэкара». Своеасаблівая даведачная служба, якая дазваляе бясплатна на працягу адной-дзвюх гадзін атрымаць адказ спецыяліста па пытанне, удакладніць дадзеныя па кнізе ці па аўтары. Можна нават замовіць невялічкую падборку па пэўнай тэматыцы.

Сучаснасць патрабуе змен і ва ўнутранай дзейнасці бібліятэкі. На дапамогу зноў жа прыходзяць інфармацыйныя тэхналогіі, якія дазваляюць размясціць усе дакументы, што датычаць функцыянавання ўстановы, на адзіным інфармацыйным рэсурсе, інтэрнэт-сайце, каб супрацоўнікі маглі з імі аператыўна азнаёміцца. Другая мэта — адлюстраваць жыццё калектыву па-за межамі бібліятэчных сцен. Актыўна працуе прафсаюзны камітэт. Супрацоўнікі маюць магчымасць пабываць на экскурсіях як у Беларусі, так і за межамі краіны. Фотасправаздачы аматараў вандровак карыстаюцца вялікім поспехам у карыстальнікаў унутранай сеткі.

Трэці год пры бібліятэцы працуе літаратурны клуб, члены якога публікуюць уласныя творы на сайце. Тут таксама можна пазнаёміцца з навуковымі даследаваннямі супрацоўнікаў і нават з вынікамі іх хатняй ці дачнай «творчасці».

**Раіса МАРЧУК**

# Старадрукі. Беларускі «след»

**Дванаццаць кірылічных выданняў XVII — XVIII стст., у тым ліку «Служебник» (Масква, 1601 — 1602), «Анфологион» (Кіеў, 1619), «Триодион» (Львоў, 1664), — самыя старадаўнія з тых, што захоўваюцца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Многія з іх маюць беларускі «след». Установа па праве ганарыцца цудоўнай калекцыяй нацыянальнай кнігі.**

Толькі 9 кніг было надрукавана капіевіцай (грамадзянскім друкам) у Беларусі ў XVIII ст. Адна з іх знаходзіцца ў нас. Гэта выдадзены ў Полацкай езуіцкай калегіі ў 1791 г. «Слоўнік юрыдычны» Ф. Лангаса. Рарытэт утрымлівае збор расійскіх законаў да 1786 г. з дабаўленнямі заканадаўчых актаў Беларусі і новых расійскіх законаў да 1791-га.

Сярод твораў мастацкай літаратуры зберагаецца шмат прыжыццёвых выданняў Ф. Багушэвіча, Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага.

Прайшло сто гадоў, як мы маем магчымасць трымаць у руках гэтую цудоўную кніжачку, адчуваць сапраўдную асалоду ад кожнай старонкі, кожнага паэтычнага радка. Зразумела, гаворка пра «Вянок» знакамітага Максіма-кніжніка — Багдановіча. І тут Прэзідэнцкай бібліятэцы сапраўды пашанцавала. У нас захоўваюцца ажно чатыры асобнікі рарытэта.

Калекцыю беларускіх кніг 1917 — 1946 гг. складаюць выданні Беларускай Народнай Рэспублікі, Заходняй і Савецкай Беларусі, работы У. Ігнатоўскага, А. і І. Луцкевічаў, Я. Лёсіка, «Кароткая гісторыя Беларусі» В. Ластоўскага (1910), «Беларусь» А. Цвікевіча (1919), «Беларускі лемантар» С. Некрашэвіча (1922).

А калі вы захочаце пачытаць нашага сучасніка Андрэя Федарэнку ў перакладзе на японскую мову (гаворка ідзе пра знакамітую «Бляху» пісьменніка), патрымаць у руках кнігі з аўтографамі Алеся Адамовіча і Васіля Быкава, азнаёміцца з арыгінальным рукапісам гісторыі паліцыі і міліцыі ў Беларусі навукоўца Ю. Кур'яновіча — дык таксама не абміняйце нашу кніжную скарбніцу!

Зразумела, найбольшую ўвагу ў працы з рэдкімі выданнямі мы надаём кніжным помнікам прававой тэматыкі. Так атрымалася, што ў свой час для захавання цэласнасці гістарычных кнігазбораў мы перадалі Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі частку калекцыі кірыліцы, а Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — самую старажытную частку кнігазбору Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. У выніку у нас не засталося інкунабул і палеатыпаў. Гэта значыць кніг, выдадзеных да 1551 года.

Для навуковай бібліятэкі такога ўзроўню, як наша, гэта недаравальна. Тым больш што мы — галоўная бібліятэка краіны па захаванні нацыянальнай прававой кніжнай спадчыны. Установа, якая вядзе свой радавод ад кніжніц князёў Полацкага, Тураўскага і Смаленскага княстваў, кнігазбораў вялікіх князёў Літоўскіх. Вось чаму ў апошнія гады мэтанакіравана шукалі ў Беларусі, на заходнееўрапейскіх і амерыканскіх аўкцыёнах выданні прававой тэматыкі XVI ст.

І знайшлі. Цяпер наша самае старадаўняе выданне — даведнік для натарыуса на лацінскай мове «Іл Бірачына», выдадзены ў Венецыі ў 1542 г. Ён утрымлівае амаль усе тыповыя ўзоры справаводства сярэднявечнай юрыспрудэнцыі. Набылі яшчэ два палеатыпы 1546 і 1548 гг. выдання. Яны прадстаўляюць Корпус грамадзянскага права Юстыніяна, які часта называюць проста Кодэксам Юстыніяна.

Сёння беларусы з гонарам кажуць, што наш Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. — ледзь не самы дасканалы збор законаў на роднай мове нацыі ў храналагічным прамежку ад кодэкса Юстыніяна VI ст. да Кодэкса Напалеона пачатку XIX ст. А наша бібліятэка мае магчымасць прадэманстраваць Кодэкс Юстыніяна, нормы якога выкарыстоўваліся пры складанні Статута ВКЛ.



*Фота Кастуся Дробава*

*Валерый Герасімаў.*

Больш як 200 выданняў налічвае калекцыя расійскай «Копиевицы» (1725 — 1825), якая прадстаўлена прыжыццёвымі выданнямі М. Ламаносава, А. Пушкіна, А. Сумарокава, М. Хераскава. Бібліяграфічнымі рэдкасцямі з'яўляюцца «Царский летописец» (1772), «Российский атлас из сорока четырёх карт» (1792), «Вестник Европы» (1827), «Современник» (1857 — 1866) і «Северные записки» (1913 — 1917).

Сярод самых старых замежных кніг — выданні XVIII ст. на лацінскай і французскай мовах, прадстаўленыя прыжыццёвымі выданнямі Ё. В. Гётэ, Э. Бернштэйна, Э. Ажэшка, Р. М. Рыльке, Ф. Шлосера. Не магуць не зацікавіць чытачоў першыя выданні «Споведзі» Ж. Ж. Русо (1782), «Зямля і людзі. Усеагульная геаграфія» Ж. Ж. Элізе Рэклю. Вялікую каштоўнасць уяўляюць «Беларускі архіў старадаўніх грамат» (1824), «Збор старадаўніх грамат гарадоў Мінскай губерні» (1848), «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года» (1854) і інш.

У бібліятэцы захоўваецца ўнікальная калекцыя лістовак, якія распаўсюджваліся на тэрыторыі Беларусі ў розныя гістарычныя перыяды. Сярод іх — дакументы Другой сусветнай вайны, выявы якіх прадстаўлены ў віртуальнай калекцыі «Лістоўкі апошняй вайны». Ваенная калекцыя невялікая (усяго 31 назва), але характэрная. Сярод савецкіх выданняў — агульнапалітычныя экзэмпляры, звароты да насельніцтва і партызан, інструкцыі па дыверсійных дзеяннях, вырабе і карыстанні зброяй, зводкі Саўінфармбюро, фотасведчанні фашысцкіх зверстваў, карыкатуры і сатырычныя вершы. Амаль усе яны друкаваліся ў савецкім тыле і былі дастаўлены на захопленую немцамі тэрыторыю. Але адну з іх, верагодна, рыхтавалі ў акупіраваным Мінску. На беларускай мове пабачыла свет 17 лістовак, на рускай — 11.

Акупацыйныя выданні лістовачнага фармату прадстаўлены пропускам для добраахвотнага пераходу на бок немцаў, зваротам да насельніцтва з заклікам не падтрымліваць «бандытаў»-партызан і абвесткай начальніка паліцыі бяспекі і СД па Беластоцкай акрузе пра напады на немцаў і спаленне «заражаных бандытызмам» вёсак Байкі і Зінякі.

Наш фонд утрымлівае ўнікальны збор беларускіх газет, якія выходзілі ў 1905 — 1945 гг., — больш як 300 назваў. Гэта пераважна малатыражныя, ведамасныя і раённыя выданні, якія цудам ацалелі падчас Вялікай Айчыннай вайны. Прынамсі, яны таксама адлюстраваны ў электронным каталогу бібліятэкі. Перыядычная прэса нацыянальна-дэмакратычнага кірунку прадстаўлена выданнямі «Беларуская рада» (Мінск), «Крывіч» (Коўна), «Беларуская школа ў Латвіі» (Рыга), «Калосьсе» (Вільня) і інш.

Чаму мы так любім чытаць старыя газеты? Натрапляем вачыма на які-небудзь загаловак і не можам адарвацца. Чым прыцягваюць пажоўклыя лісты з напаўсляпым тэкстам? Старыя газеты — гэта не помнік эпосе СССР. Хутчэй, тэатр. Тэатр, у якім пастаянна змяняюцца тэмы і дэкарацыі, рэжысёры і акцёры. Змяняецца нават глядач, бо тады гэтыя газеты ўспрымаліся зусім не так, як цяпер.

Тут ёсць і аповеды пра грамадзян Расійскай імперыі і жыццё савецкіх людзей, займальныя гісторыі, рэпартажы У. Неміровіча-Данчанкі з франтоў Першай сусветнай вайны. Артыкулы пра вандраванні і прыгоды, пабытавыя дэталі. Усё разам і ўзнаўляе дух таго часу.

Дарэчы, у бібліятэцы маецца і амаль поўныя камплекты арыгіналаў некаторых цэнтральных газет, якія выдаваліся ў Савецкім Саюзе, — «Правды» «Известий», «Красной звезды». Практычна кожны дзень да нас паступаюць запыты на афіцыйныя газеты ЦВК і СНК БССР — «Звязду», «Советскую Белоруссию», «Рабочий». Іх пастаянна пераводзім у электронны выгляд, каб чытачы маглі свабодна атрымаць неабходную інфармацыю. Такім чынам мы захоўваем мінулае для будучыні.

**Валерый ГЕРАСІМАЎ,**
**загадчык аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь**

# Будні і рамантыка



*Так выглядала кнігасховішча ў 70-я гады мінулага стагоддзя.*

Жнівень 1978 года. Плошча Леніна. Дом Урада. Я пераступаю парог Урадавай бібліятэкі БССР імя А. М. Горкага. Пасля школы я прыйшла працаваць сюды бібліятэкарам у аддзел абслугоўвання чытачоў.

Сустрэла мяне высокая, прыгожая жанчына з добрымі вачыма — загадчыца аддзела Клаўдзія Паўлава. Мой асноўны абавязак — дастаўка літаратуры з аддзела кнігазахоўвання, які быў на цокальным паверсе правага крыла Дома Урада, на пяты паверх левага крыла, дзе знаходзіліся ўсе астатнія аддзелы.

Асабліва страху, тады яшчэ зусім «зялёнае» дзяўчо, я не адчувала. Вось каляска, ліфт. Узяла запыты — і пайшла праца. Рэдка, але ліфт часам «завісаў». Тады даводзілася з кніжкамі ў адной руцэ, газетамі пад мышкай у другой рушыць подбегам па лесвіцы. Чакаючы выканання запытаў, сачыла за работнікамі кнігасховішча. Старалася запомніць, дзе які раздзел знаходзіцца. Так паціху пазнаёмілася з фондам, з цягам часу сама пачала выконваць заказы. А праз некалькі гадоў перайшла працаваць у аддзел кнігазахавання.

Памяшканне асноўнага кнігасховішча бібліятэкі было двухузроўневае, з драўлянымі стэлажамі. Пасля вайны іх зрабілі палонныя немцы. Першы ўзровень быў вельмі высокі — каля трох метраў, да самай столі. Даводзілася шукаць заяўкі з дапамогай лесвіц-драбінак. Лезеш наверх і думаеш: «Хоць бы не зваліцца!» Другі ўзровень быў крыху ніжэйшы. Дарэчы, кнігасховішча размяшчалася пад цяперашнім буфетам знакамітай Авальнай залы (у 1970 — 1980-я гады мінулага стагоддзя буфета не было). А сёння на месцы кнігасховішча — гардэроб для дэпутатаў.

Увесь фонд быў у адным месцы. Толькі газеты знаходзіліся па вуліцы Савецкай у другім, яшчэ даваенным будынку. У кнігасховішчы тады працавалі восем супрацоўнікаў. Загадвала аддзелам Марыя Петухова — добры і шчыры чалавек. Дзяжурылі супрацоўнікі ўчатырох, бо на выкананне заказа адводзілася гадзіна, а запытаў было нашмат больш, чым цяпер.

Побач са сховішчам у невялікім пакойчыку знаходзілася пераплётная, у якой працавала адкрытая і вясёлая жанчына Алімпіяда Карнюшчанкава, а прасцей — Ліпа, Ліпачка, як мы яе звалі. Памятаю вялізны станок з колам, якое ёй даводзілася круціць уручную, каб абрэзаць паперу, кнігі альбо газеты для пераплёту. Станок быў нямецкім, служыў вельмі доўга. Адна рарытэтная дэталь ад яго захавалася ў пераплётным сектары як музейны экспанат — гэта нож даўжынёй метра паўтара з масіўным шарам-процівагай на канцы.

Не параўнаць з днём сённяшнім колішнія, гадоў трыццаць таму, паступленні літаратуры ў фонд. Тады, на мой погляд, іх было больш. Звычайна супрацоўніцы ўдваіх (адна цягне, другая падштурхоўвае даверху нагружаную выданнямі каляску) дастаўлялі з аддзела апрацоўкі новыя партыі кніг.

А калі ў 1983 годзе ўсю бібліятэку перамясцілі ў цяперашнія цокальныя памяшканні, пачало вандраваць і кнігасховішча. Апошні прыпынак — вул. Карла Маркса, 38. Асноўны фонд быў рассеяны і па Доме Урада. Толькі раздзел 7 — «Мастацтва» — мяняў дыслакацыю чатыры разы. Але больш за ўсіх пацярпеў фонд раздзела 9 — «Гісторыя», які знаходзіўся пад сталовай і яго, здаралася, залівала. Тады мы прасушвалі кнігі, вымарожвалі вільгаць у халадзільніках, але, на жаль, некаторыя выданні выратаваць так і не змаглі.

Сапраўды, бібліятэцы заўсёды не хапала месца для фонду — помніцца, кнігі некаторых раздзелаў стаялі на паліцах аж у тры рады. Выйсце бачылі ў новым будынку. Сёння сітуацыя палепшылася. Пасля апошняга пераезду фонд знаходзіцца ў добрым, светлым памяшканні, дзе камфортна і кнігам, і супрацоўнікам.

Вось так, незаўважна, і аказалася, што ў сённяшняй Прэзідэнцкай бібліятэцы прайшла большая частка майго жыцця. Было ўсё — і рамантыка, і цяжкавата працоўныя будні. І па сёння з цеплынёй узгадваем былых супрацоўнікаў бібліятэкі, якія дзяліліся сваім досведам, — Лідзію Кузьміч, Вікторыю Сяргееву, Надзею Носаву. Дзякуй хочацца сказаць былым кіраўнікам установы, якія стварылі ўсе ўмовы, каб нам камфортна працавалася. Гэта вучоны сакратар Людміла Мазанік, намеснік дырэктара Роза Паповіч і былыя дырэктары — Павел Архіпец (Пал Палыч, як мы ўсе падобраму да яго звярталіся), Эдуард Цыганкоў і Сафія Юдо.

**Ірына БОХАН,**
**бібліятэкар І катэгорыі аддзела дакументазахоўвання Прэзідэнцкай бібліятэкі**

# На сцэне — балерына. Трохгадовая!



Маленькія артысты, якія сарвалі шквал апладысментаў.



Сцэна з балета «Спячая прыгажуня».

Адказнасць бальнага танца, спалучэнне музыкі і руху ва ўсе часы прыцягвалі да сябе асаблівую ўвагу. Прыгожыя пары, апранутыя ў фракі і бальныя сукенкі, чароўная музыка, адухоўленыя твары — што можа быць лепш? Вялікім плюсам бальнага танца з'яўляецца далучэнне да музыкі і тэатра, да мастацтва ўвогуле.

Дзіцячую балетную грацыю, прыгажосць і артыстызм прадэманстравалі беларускаму гледачу маленькія артысты «Балетнай школы Вежнавец». У сценах Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра з аншлагам прайшоў спектакль «Спячая прыгажуня». Пастаноўка аднаактовага балета, што адбылася ў першым аддзяленні, была падрыхтавана лепшымі педагогамі «Балетнай школы Вежнавец» спецыяльна для выканання выхаванцамі школы. Чароўная музыка П. І. Чайкоўскага, казачны сюжэт, эфектныя праекцыйныя дэкарацыі, касцюмы, пашытыя індывідуальна для кожнага танцора, — усё гэта дазволіла стварыць на сцэне атмасферу чараўніцтва і казкі.

Дзіцячы балет «Спячая прыгажуня» — першая сур'ёзная і прафесійная праца калектыву і першы рэпертуарны спектакль школы. У ім для кожнага вучня ёсць перспектыва і магчымасць росту. Педагогі памянялі склад выканаўцаў: нехта перарос свае леташнія ролі, нехта паступіў у прафесійныя харэаграфічныя ўстановы. На сцэну выйшлі ўсе навучэнцы школы. Самым маленькім балерынам па тры гады! Сольныя партыі даручылі самым таленавітым і працаздольным. Ролі Прынца і Прынцэсы выконвалі навучэнцы Акадэміі рускага балета імя А. Я. Ваганавай Кірыл Сакалоўскі і Анастасія Юркевіч.

Па традыцыі спектакль быў прадстаўлены публіцы ў межах святочнага канцэрта. У другім аддзяленні ўзялі ўдзел салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Ю. Дзятко, К. Кузняцоў, В. Гайко, І. Артамонаў, Л. Кудраўцава, А. Краўчанка, М. Вежнавец. Спецыяльна для ўдзелу ў канцэрце прыехалі зоркі сусветнага балета — прымабалерына Марыінскага тэатра, народная артыстка Расіі Юлія Махаліна і прэм'ер Марыінскага тэатра, народны артыст Расіі Ігар Колб. Майстры балетнай сцэны выканалі шэдэўры класічнай харэаграфіі.

Чароўнае свята, якое прадставіла «Балетная школа Вежнавец», стала сапраўдным падарункам для ўсіх аматараў балета.

**Таццяна ШЫМУК**

# Абуджэнне ад сну

Прафесійны фатограф з Прагі Марцін Странка прадстаўляе ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага фотавыстаўку «Mono».

Нягледзячы на малады ўзрост, творца паспеў ужо заваяваць прызнанне гледачоў і крытыкаў. Толькі за апошнія два гады Марцін сабраў больш як 30 вышэйшых міжнародных узнагарод у галіне фатаграфіі, у тым ліку «Прафесійны фатограф года», «Новы талент» на конкурсе *Nikon Photo Contest International*, «Маэстра фатаграфіі» асацыяцыі EISA, а «Міжнародная фотапрэмія» *International Photo graphy Awards* прысуджалася яму два гады запар.

Як кажа сам спадар Марцін, ён натхняецца «водарам восені і зыркімі пылінкамі, якія лунаюць у паветры на захадзе сонца». Яго ўнікальныя работы «люструюць» тыя некалькі імгненняў, што аддзяляюць сон ад абуджэння. Фотамастак адкрывае гледачу прастору, напоўненую раўнавагай і спакоем.

Фотаздымкі Марціна Странкі шырока вядомыя ва ўсёй Еўропе, у Азіі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы. Выстаўкі яго работ праходзілі ў Нью-Ёрку, Лос-Анджэлесе, Токіа, Мілане, Лондане, Маямі, Парыжы, Дубаі, Празе, Бруселі, Ганконгу, Вене і многіх іншых гарадах. Яго фотаздымкі былі прадстаўлены ў вядомых галерэях *Getty Images Gallery, Saatchi Gallery i Robert Fontaine Gallery* разам з такімі прызнанымі майстрамі, як Эндзі Уорхал, Эні Лейбовіц, Бэнкс, Альберт Уотсан, Хельмут Ньютан і Дэміен Херст.



«Я знайшоў цішыню», 2012 г.

М. Странка — аўтар вокладак кніг найбуйнейшых выдавецтваў Нью-Ёрка *Harper Collins Publishers* і *Sterling Publishing*, а таксама супрацоўнічае з выдавецтвамі, музыкамі і мастакамі па ўсім свеце.

Наведвальнікам выстаўкі прапануюцца 15 фотаработ з апошняга цыкла *MONO*, прадстаўленыя самім аўтарам.

**Таццяна ШЫМУК**

# Опера на Каляды

З 10 па 15 снежня ў чацвёрты раз пройдзе Мінскі міжнародны калядны оперны форум. У гэтым годзе Вялікі тэатр Беларусі прапануе оперным меламанам прэм'еру «Лятучага галандца» Р. Вагнера, запрошаны спектакль «Баль-маскарад» Санкт-Пецярбургскага Міхайлаўскага тэатра, а таксама шырокую камерную праграму. І гэта далёка не ўсё, што змогуць пабачыць гледачы падчас традыцыйнага штогадовага свята оперы.



Сцэна са спектакля «Рыта, ці Піраццкі трохвугольнік».

Распачне Калядны оперны форум 10 і 11 снежня доўгачаканая прэм'ера. Вялікі тэатр адзначае 200-годдзе нямецкага генія музыкі Рыхарда Вагнера пастаноўкай аднаго з лепшых яго твораў — оперы «Лятучы галандзец». Для працы над спектаклем былі запрошаны аўстрыйскі маэстра Манфрэд Маерхофер, знаўца вагнераўскай спадчыны, і германскі рэжысёр Ханс-Ёхім Фрай, з якім тэатр мае трывалыя творчыя стасункі на працягу апошніх гадоў. «Лятучы галандзец» — сярод найбольш папулярных у творчай спадчыне Вагнера. Мецъ у рэпертуары гэтую містычную гісторыю пра вечнага вандроўцу, таямнічага Лятучага галандца, лічаць за гонар шматлікія тэатры свету.

Яшчэ адной яркай падзеяй сёлетняга форуму абяцае стаць спектакль Санкт-Пецярбургскага Міхайлаўскага тэатра «Баль-маскарад» Дж. Вердзі, які адбудзецца 13 снежня. Для працы над пастаноўкай быў запрошаны латвійскі рэжысёр Андрэйс Жагарс, у яго версіі дзеянне знакамітай оперы, любімай прыхільнікамі жанру за прыгажосць вакальных партый і «шэкспіраўскую» моц сюжэта, перанесена ў 20-я гады XX стагоддзя, у нейкую ўмоўную еўрапейскую краіну з манархічным праўленнем. Галоўныя партыі ў спектаклі выканаюць зоркі Міхайлаўскага тэатра Марыя Літке, Фёдар Атаскевіч, Дзмітрый Дараў, Ларыса Касцюк.

А 14 снежня на сцэне тэатра «опера касмічнага маштабу», адна з апошніх прэм'ер Вялікага — «Турандот» Джакама Пучыні. Як вядома, кампазітар не паспеў скончыць свой твор, па яго накідах працу завяршыў сябра — Франка Альфана. Ва ўсім свеце опера ідзе са шчаслівым фіналам, дапісаным ужо пасля смерці аўтара. Аднак у рэжысёра-пастаноўшчыка спектакля Міхаіла Панджавідзэ — нетрадыцыйны погляд на гісторыю пра бязлітасную кітайскую прынцэсу, ён — з ліку прыхільнікаў «пучыніеўскай» канцоўкі оперы, фіналу, у якім няма хэпі-энда. У беларускай версіі «Турандот» заканчваецца на тым месцы, дзе абрываецца партытура кампазітара, што прыўносіць у спектакль новы сэнс і зусім па-іншаму расстаўляе акцэнты. Арыгінальная трактоўка Міхаіла Панджавідзэ і ўдзел у спектаклі ў партыі Калафа саліста Марыінскага тэатра, заслужанага артыста Расіі і народнага артыста Татарстана Ахмеда Агадзі ставяць «Турандот» у шэраг знакавых падзей Каляднага試 опернага форуму.

Упершыню пляцоўкай для спектакляў форуму стане Камерная зала тэатра. Тут разгорнецца шырокая праграма аднаактовых опер. Гледачы ўбачаць прэм'ерныя спектаклі «Чалавечы голас» Ф. Пуленка, «Тэлефон» Дж. Меноці, «Дырэктар тэатра» В. А. Моцарта, «Спачатку музыка, потым словы» А. Сальеры, жамчужыну камернага рэпертуару тэатра — «Мядзведзь» беларускага кампазітара С. Картэса, «Рыта, ці Піраццкі трохвугольнік» Г. Даніцэці.

Завяршыцца Мінскі міжнародны Калядны оперны форум-2013 грандыёзным Гала-канцэртам, дзе прыхільнікаў опернага мастацтва чакае сустрэча з зоркамі Вялікага тэатра Беларусі і сусветна вядомымі試 試опернымі выканаўцамі. 15 снежня на беларускую сцэну выйдуць вядучыя артысты нацыянальных тэатраў Азербайджана, Балгарыі, Грузіі, Казахстана, Літвы, Расіі, Украіны, Чэхіі і Эстоніі.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2602.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 5.12.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5330.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686